—Людзьмі звацца!
Янка Купала

ЛіМ
ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ
ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ПЯТНІЦА
13
СНЕЖНЯ
1991 г.
№ 50 (3616)
ВЫХОДЗІЦЬ з 1932 г.
КОШТ — 15 кап. (Па падпісцы — 10 кап.)





# ВІВАТ АКАДЭМІЯ!

## Інтэрв'ю з нагоды адной прэзентацыі

*Ці могуць мірна суіснаваць пад адным дахам дзве музы: тэатр і выяўленчае мастацтва? А калі побач з імі яшчэ і кіно, дызайн, дэкаратыўна-ўжытковае мастацтва?..*

Калі ў 1945 годзе ствараўся Беларускі дзяржаўны тэатральны інстытут, пра такі вялікі творчы кангламерат не было і думкі. Мастакі далучыліся да акцёраў драмы і кіно толькі ў 1953 г. Пазней узніклі аддзяленні манументальнага, прамысловага і дэкаратыўна-ўжытковага мастацтва, апошнім часам пачалася падрыхтоўка рэжысёраў дакументальнага і мастацкага кіно, тэлебачання. У будучым у гэтую творчую садружнасць можа натуральна ўліцца архітэктура. І тады паўстане завершанае манументальнае збудаванне — Беларуская Акадэмія мастацтваў. Будзе, нарэшце, створаны культурны асяродак, які паяднае ўсіх творцаў, незалежна ад «цэхавай» прыналежнасці.

Ідэя стварэння Акадэміі выношвалася доўга, а нараджэнне адбылося на высокай хвалі новага Адраджэння ўсяго некалькі тыдняў таму. З 15 лістапада Акадэмія існуе юрыдычна, а 29 адбылася прэзентацыя. Магчыма, на Беларусі з'явілася навучальная ўстанова, пра якую, як некалі пра Віленскі універсітэт, скажуць, што яна выхавала, стварыла свядомы беларускі творчы асяродак. Менавіта такія надзеі і спадзяванні на Адраджэнне, на вялікую стваральную сілу, закладзеную ў народзе, звязвалі з Акадэміяй мастацтваў пісьменнікі, мастакі, акцёры, рэжысёры, што выступалі на прэзентацыі. Гэта прагучала і ў вершаваным прывітанні Рыгора Барадуліна, і ў шчырых пажаданнях Стэфаніі Станюты і Аляксея Дударава, і ў крыху жартаўлівым слове Міхаіла Казінца, і ў сур'ёзных прамовах Ніла Гілевіча і Пятра Краўчанкі.

Класічныя творы Вівальдзі, выкананыя камерным аркестрам Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі, былі сугучныя агульнаму ўрачыстаму настрою. А кароткія, часта трапныя «рэкламкі» кожнага з запрошаных на сцэну, прыдуманыя студэнтамі IV курса тэатральнага факультэта разам з іх мастацкім кіраўніком Валерыем Маслюком, які разам з Марыяй Захарэвіч вёў гэту вечарыну, уносілі элемент нязмушанасці.

Сярод тых, хто вітаў стварэнне Акадэміі, былі прадстаўнікі вытворчасці, сучасныя бізнесмены, што нарэшце павярнуліся тварам да культуры і прыйшлі на прэзентацыю не з вялікімі прамовамі, а з падарункамі —

(Працяг на стар. 4).



казваючы па просьбе карэспандэнта «ЛіМа» на гэта пытанне, Ягор Цімуравіч Гайдар так пракаменціраваў сітуацыю (як яна складвалася на той момант): «Рэспублікі, без усялякага сумнення, павінны мець час, каб падрыхтавацца. Сітуацыя ў рэспубліках розная. Канечне, хацелася б зрабіць гэта (вызваліць цэны.—**В. Т.**) без вялікага разрыву ў часе... У нас сітуацыя складаная. Чакаць нам цяжка, таму што кожны дзень адтэрміноўкі сёння прыводзіць да паглыблення дыспрапорцый — з-за таго, што па старых цэнах ужо не ідзе рэалізацыя нічога. Ды й народ ўжо маральна падрыхтаваны і хоча, каб гэтая непрыемнасць здарылася як мага раней. Таму для нас гэта і палітычная праблема. І я не думаю, што здарыцца нешта страшнае, калі, скажам, паміж прыняццем рашэнняў у розных рэспубліках будзе разрыў у два-тры тыдні».

Дыяметральна процілеглы пункт погляду выказалі лідэры парламенцкай апазіцыі БНФ на сваёй прэс-канферэнцыі для беларускіх і замежных журналістаў, якая адбылася ўвечары 7 снежня. Прэс-канферэнцыя, у якой прынялі ўдзел З. Пазняк, У. Заблоцкі, Л. Баршчэўскі, В. Голубеў, С. Навумчык і іншыя дэпутаты, была прысвечана палітычнай сітуацыі на Беларусі. Але размова ўвесь час вярталася да эканамічных праблем, што зусім натуральна. Калі падсумаваць асобныя выказванні, меркаванне апазіцыі зводзілася да наступнага. Лібералізацыя цэн балюча ўдарыць па Беларусі, паставіць яе ў яшчэ большую залежнасць ад суседзяў. Расія ўсё больш ператвараецца ў ачаг палітычнай і эканамічнай нестабільнасці. Разрыў у тэрмінах пачатку вызвалення цэн у два тыдні канчаткова даб'е эканоміку рэспублікі, з якой будуць вывозіць усё, што можна. На думку аднаго з дэпутатаў, фактычна гэта азначала б пачатак эканамічнай вайны. У рамках эканамічнай супольнасці ёсць дамоўленасць аб агульнай рублёвай прасторы. А гэта азначае, што ўсе пытанні цэн павінны быць узгоднены. Калі Расія не выконвае ўзятыя на сябе абавязацельствы, яна тым самым бярэ на сябе зноў ролю унітарнай дзяржавы. Па сутнасці, логіка падзей падштурхоўвае Беларусь да стварэння ўласнай валюты і рэзервованай сістэмы.

Выказвалася перакананне, што наша рэспубліка перажывае сёння крызіс улады. Цяперашнія парламент і ўрад, на думку апазіцыі, не здольныя праводзіць самастойную дзяржаўную палітыку. І гэта прывядзе да сацыяльнага выбуху.

Як цяпер ужо вядома, адным з вынікаў (а можа, і ўмовай?) стварэння Садружнасці Незалежных Дзяржаў стала рашэнне Расіі пайсці насустрач кіраўніцтву Беларусі і перанесці тэрмін лібералізацыі цэн. Больш таго, у Заяве ўрадаў Рэспублікі Беларусь, Расійскай Федэрацыі і Украіны запісана, што дзяржавы дамовіліся, у прыватнасці, «праводзіць скаардынаваныя радыкальныя рэформы, накіраваныя на стварэнне паўнацэнных рыначных механізмаў...

**— устрымлівацца ад любых дзеянняў, якія наносяць эканамічны ўрон адно аднаму...»**

Рубель як грашовая адзінка захоўваецца для ўзаемных разлікаў, што не выключае ўвядзення нацыянальнай валюты. Пра гэта таксама сказана ў Заяве.

Апошнім часам у друку даволі часта выкарыстоўваецца новае паняцце: «рублёвая зона». Напэўна, з пункту погляду эканамістаў, яно гучыць нармальна. Але мяне асабіста насцярожвае слова «зона». Надта доўга пражылі мы ўсе ў зоне, якой практычна з'яўляўся ўвесь Савецкі Саюз. Як ва ўсякай «зоне», тут панавалі культ сілы і лагерная псіхалогія. Мо, нарэшце, вырвемся?..

**Віталь ТАРАС.**

# ПЕРАЗІМУЕМ У ЦЯПЛЕ І САДРУЖНАСЦІ?

## Вярхоўны Савет Беларусі ратыфікаваў Пагадненне аб Садружнасці Незалежных Дзяржаў і дэнансаваў Саюзны дагавор 1922 года.

Можна паспачуваць замежным палітыкам — іх аналітычныя цэнтры сёння мусяць працаваць з «перагрэвам». Былы СССР ці не штодня «падкідае» нешта новае. Энергія, якая вызвалілася ў выніку расшчаплення вялізнай імперыі, магутная настолькі, што вядзе да ўсталявання новага светапарадку.

На самай жа справе і спачування, і шкадавання вартыя мы — тыя, хто жыве ў гэтай «дыверсійнай варонцы». Часам узнікае такое адчуванне, нібыта мы і не жывём у звычайным сэнсе, а толькі і робім, што скаланаем свет — то дзесяццю днямі, то трыма, то трыццаццю шасцю гадзінамі. І ўжо, здаецца, стаміліся ад свайго паўгалоднага месіянства, а ўсё адно — ніяк не спынімся.

Ці ўтаймуе сапраўды абвальныя працэсы тое пагадненне, якое заключылі ў Белавежы Ельцын, Краўчук і Шушкевіч? Як, паводле якіх крытэрыяў ацэньваць учынак лідэраў Расіі, Украіны і Беларусі?

Найперш хочацца падкрэсліць, што гэта менавіта ўчынак. Нават сам па сабе той факт, што нашы кіраўнікі пайшлі на яго, дазваляе спадзявацца, што мінае, нарэшце, час недзеяздольнасці ўлад, час марнага словагаварэння. Бо, пры ўсёй павазе да зробленага Міхаілам Гарбачовым, у гісторыю першы і апошні Прэзідэнт СССР увойдзе не толькі як ініцыятар рэформ, але і як майстар забалбатаць любую, нават ім самім распачатую акцыю. У гэтым сэнсе ён усё той жа савецкі палітык, які нізавошта адназначна не адкажа нават на пытанне аб сваёй полавай прыналежнасці, — толькі паўгадзіннай гутаркай.

Нельга не адзначыць, што белавежскае пагадненне таксама шмат у чым мае дэкларатыўны характар. Але подпісы пад ім з'яўляюцца гарантыяй таго, што нашы людзі больш-менш прыстойна перажывуць зіму, увесну адсеюцца, а там, як кажуць, Бог бацька. Вось той просты, зразумелы кожнаму чалавеку сэнс, які вынікае з дамоўленасці аб каардынацыі ў сферы эканомікі і фінансаў.

Але галоўным крытэрыем, які трэба прыкладаць да пагаднення, павінен быць суверэнітэт Беларусі. «Калі застанецца хоць бы невялікі элемент унітарызму, — казаў, выступаючы ў нашым парламенце, Барыс Ельцын, — ёсць рызыка адраджэння той сістэмы, якая ўжо прывяла нас у тупік. Вопыт падказвае: дагэтуль захоўваецца імкненне працягнуць у будучыню хоць бы дух сістэмы, якая дазваляла камандаваць народамі. Усіх палохае наяўнасць цэнтра і яго магчымае адраджэнне ў старых формах». Ці выключае такую магчымасць той новы саюз, у які ўступае Беларусь? Трэба прызнаць, што не выключае. Відавочна, што ў Садружнасці з такімі гігантамі, як Расія і Украіна, наша рэспубліка не будзе іграць першую скрыпку. Гэта рэальнасць, з якой давядзецца лічыцца, выпрацоўваючы ўласную палітыку. Сіндром «старэйшага брата», будзем шчырыя, шмат у чым сілкуецца комплексам «брата малодшага». І менавіта гэты комплекс нам давядзецца зжываць у першую чаргу.

Самастойнасць у палітыцы, сярод іншага, азначае ўменне здабываць выгаду з розных міждзяржаўных пагадненняў. Сёння, пасля ўтварэння Садружнасці Незалежных Дзяржаў, такая выгада відавочная. Рэйтынг Беларусі істотна павысіўся, прычым далося гэта, як і многае іншае, амаль аўтаматычна, без асаблівых высілкаў з нашага боку, хутчэй на хвалі ўкраінскага рэферэндуму. Зараз у Расіі і на Украіне шпаркімі тэмпамі пойдуць працэсы будаўніцтва самастойнай дзяржаўнасці, што, безумоўна, істотна паўплывае на лёс Беларусі. Наша існаванне ў Садружнасці шмат у чым будзе нагадваць гонку за лідэрам.

...І трэба памятаць, што ўшчаміць суверэнітэт можна толькі пры яго наяўнасці.

**Андрэй ГАНЧАРОЎ.**

20 гаворым пра гэта — а справа ні з месца.

Асабліва ў цяжкім становішчы апынуліся сёння беларускі перыядычны друк і беларуская кніга. Тое, што рынак імгненна наступіць на горла беларускаму друкаванаму слову, — нам было ясна з самага пачатку. Так і здарылася. І паперы, і паліграфічных магутнасцей раптоўна стала нехапаць перш за ўсё для беларускіх газет, часопісаў, кніг. Кааператары, прадпрымальнікі развінулі такую бурную дзейнасць — што адно падзівіцца. За год-два накапілі прыбытку дзесяткі мільёнаў рублёў—на тым, што не мае ніякага дачынення да беларускай культуры і часам да культуры наогул. А тыражы беларускіх выданняў — маленькія, аб прыбытках і гаворкі не можа быць. Чаму такія тыражы нашых выданняў — мы ведаем: гэта вынікі пэўнай палітыкі, згубнай для беларускай мовы і культуры,. — палітыкі, якая праводзілася жалезнымі людзьмі жалезна.

Ужо колькі месяцаў не выходзіць «Вясёлка» — адзіны любімы дзятвой часопіс для дашкольнікаў і малодшых школьнікаў... Няма афсетнай паперы! І дзяржава глядзіць праз пальцы! Выбачайце, але гэта толькі ў нас магчыма такое... — каб дзеці засталіся без адзінага свайго часопіса.

Вось у мяне ў руках зварот калектыву рэдакцыі газеты «Чырвоная змена» да Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, у якім мы чытаем: «Чырвоная змена» — старэйшая беларуская маладзёжная газета перажывае сёння, як і іншыя беларускамоўныя выданні, цяжкі крызіс. Прычынай таму — «моўная» сітуацыя ў рэспубліцы, камерцыйны бум пры разбуранай эканоміцы (у тым ліку ў газетна-выдавецкай дзейнасці), агульная нестабільнасць грамадства.

Наша «Чырвонка» не памкнулася за спакуслівым двухмоўем, пры якім у некаторых двухмоўных выданнях ад іхняй беларускасці засталіся толькі назвы.

Вакол газеты гуртуецца творчая моладзь. Духоўная выхаваўчая дзейнасць штотыднёвіка — сапраўднае падзвіжніцтва. Пры рэдакцыі створана аб'яднанне маладых літаратараў «Крыніца», якое параўноўваюць з колішнім «Маладняком».

Ну, а просьба газеты — крык душы калектыву — «дапамажыце!»

*Шаноўныя дэпутаты! Патрэбна гарантаваная дзяржаўная падтрымка ўсім беларускім перыядычным выданням і беларускай кнізе — і мастацкай, і навуковай, і беларускім падручнікам, вучэбным дапаможнікам і іншым!*

Горкая ісціна, але ісціна: камуністычная партыя Беларусі слаба падтрымлівала беларускае друкаванае слова і гэтае ж слова на радыё і тэлебачанні. Ну, а што ж цяпер — калі КПСС не дыктуе сваю волю, калі прыняты дэмакратычны Закон аб друку і многія іншыя дэмакратычныя законы? А цяпер — стала непараўнана горш! Мала таго, што Дзяржаўная праграма па беларускай мове амаль не выконваецца, дык выстаўляюцца патрабаванні перагледзець сам Закон аб мовах у Рэспубліцы Беларусь. І хто ж патрабуе? Як ні парадаксальна — дэмакраты! Днямі адбыўся чарговы з'езд АДПБ (Аб'яднанай дэмакратычнай партыі Беларусі), дэлегаты якога патрабавалі прыняць пастанову — каб Вярхоўны Савет абвясціў дзяржаўнымі ў Рэспубліцы Беларусь дзве мовы — і беларускую і рускую. Раней, калі прымаўся Закон аб мовах, на такіх пазіцыях стаялі некаторыя найбольш рэакцыйныя партакраты, цяпер *іх пераемнікамі* з'яўляюцца аб'яднаныя дэмакраты — г. зн. ворагі партакратаў. Так змыкаюцца нібыта правыя і нібыта левыя. Як толькі даходзіць да вырашэння лёсу беларускай мовы — імгненна аб'ядноўваюцца непрымірымыя ворагі! Вось хто, аказваецца, самы страшны для ўсіх — наша няшчасная родная мова!

Паважаныя дэпутаты! Зразумела, на падтрыманне далейшай жыццядзейнасці беларускага друкаванага слова, як і слова на тэлебачанні і радыё, патрабуюцца дадатковыя грошы. Думаю, не так многа, як напісалі нам з некаторых міністэрстваў і ведамстваў. Рэч у тым, што ўсе беларускія выданні, за выняткам двух-трох, і раней увесь час карысталіся датацыяй дзяржавы. Натуральна, зараз гэта датацыя мусіць быць большай. Але іншага выйсця няма. Калі не прадугледзець *першачарговае і поўнае* забеспячэнне паперай перыядычных выданняў на беларускай мове — яны проста спыняць сваё існаванне. Калі гэта ж самае не прадугледзець для выдання мастацкай, грамадска-палітычнай, навукова-тэхнічнай, вучэбнай і навукова-пазнавальнай літаратуры на беларускай мове — кніжны рынак на Беларусі можа канчаткова страціць нацыянальнае беларускае аблічча. Небяспека гэта да жудасці рэальная. Але мала забяспечыць выданне газет, часопісаў, кніг і іншай друкаванай прадукцыі на беларускай мове — не менш важна забяспечыць прыярытэтныя ўмовы для гандлю і рэкламы, а таксама льготныя тарыфы па аплаце за экспедзіраванне і распаўсюджванне. І тут у Савеце Міністраў павінны быць зроблены дакладныя падлікі, бо не выключана, што якое-небудзь міністэрства ці ведамства захоча і пажывіцца трохі за кошт беларускіх выданняў. Цяпер жа амаль ніхто не саромеецца, калі справа заходзіць пра грошы!

Не здзіўлюся, калі і сёння хто-небудзь скажа, што мы абмяркоўваем малаважнае, другараднае пытанне. Пагадзіцца з гэтым я нізашто не магу. Пытанне гэта надзвычай важнае— бо гэта пытанне будучыні самой беларускай нацыі, і даводзіцца горка шкадаваць, што далёка не ўсе дзяржаўныя мужы гэта разумеюць. Пытанне гэта, шаноўныя дэпутаты, заўсёды важнае — і калі чалавек сыты, і калі галодны. Вядома, не ў лепшы, не ў спрыяльны час выпадае ставіць у парламенце пытанне аб мове. *Але што ж рабіць?* Мы хочам, каб нас прызналі ў свеце. Дык вось нас прызнаюць і стануць паважаць толькі тады, калі мы будзем мець пачуццё ўласнай годнасці, калі мы навучымся паважаць самі сябе. Мяркуючы па колькасці беларускіх выданняў — газет, часопісаў, кніг, па тым, колькі гучыць наша слова на тэлебачанні і радыё — мы не нацыя, а нацыянальная меншасць. Нам адведзена невялічкая частачка — як крошкі з панскага стала. Хаця — чаму адведзена? Гэта мы самі адвялі сабе столькі. Што ж гэта, скажыце, за нацыя, калі яна нават не можа абараніць сваю ўласную мову? Зрэшты, мова абараняе сябе **сама**. Ужо амаль паўтысячы гадоў нядобразычліўцы нашы стараюцца не даць ёй ходу, не даць ёй жыцця, — а яна ўсё-такі жыве, не загінула. І будзе жыць, шаноўныя, абавязкова будзе! *Толькі* будзе крыўдна, калі мы, ад каго сёння так многа залежыць, не дапаможам ёй. Вельмі хацеў бы спадзявацца, што мы, без вялікіх і гарачых дыскусій, прымем пастанову, якая абавяжа ўрад паклапаціцца пра лёс беларускіх выданняў, беларускага тэлебачання і радыё, пра беларускае слова ў сродках масавай інфармацыі — ва ўмовах пераходу да рыначнай эканомікі, у вельмі цяжкі і неспрыяльны для культуры, для духоўнага росту чалавека час.

**Р. S. Сёмая сесія Вярхоўнаа Савета РБ павінна была прыняць пастанову па гэтым пытанні яшчэ на першым этапе сваёй работы. На жаль, не прыняла. 10 і 11 снежня, калі сесія прадоўжыла работу, дэпутаты вярнуліся да разгляду пытання аб беларускай мове ў сродках інфармацыі, тройчы галасавалі, але — зноў безвынікова, пастанова патрэбнай колькасці галасоў не набрала. Міжволі ўсумнішся: ці нацыянальны ён, наш парламент...**

# ВІВАТ АКАДЭМІЯ!

(Пачатак на стар. 1).

тэхнікай, што пойдзе на абсталяванне вучэбных кабінетаў. Гэта былі генеральны дырэктар Мінскага вытворчага аб'яднання «Гарызонт» Аляксандр Санчукоўскі, прэзідэнт Беларускай асацыяцыі прадпрыемстваў радыёпрамысловасці Віл Ганчароў, прэзідэнт Брэсцкага электрамеханічнага канцэрна Павел Сідорык, генеральны дырэктар Белрадпрам Іван Залатарэвіч. Відаць, не хутка на Беларусі з'явяцца мецэнаты кшталту Траццякова ці Марозава, але і зараз нашай культуры, што адчайна шукае матэрыяльную дапамогу, падтрымка прадпрымальнікаў толькі на карысць.

На прэзентацыю Акадэміі людзей сабрала прыцягальная ідэя стварэння нацыянальнага культурна-адукацыйнага цэнтра Беларусі, ідэя, якую яны ж выпеставалі, матэрыялізавалі сваёй працай на карысць навукі і культуры. І, хто ведае, можа, хутка з'явяцца ў нас правадзейныя і ганаровыя сябры Акадэміі мастацтваў, мастацкі музей пры ёй і многае іншае, што стане адметнасцю нашай Рэспублікі.

І ўсё ж не-не ды і задумаешся: Беларуская Акадэмія мастацтваў — гэта змена шыльды ці новая якасць... Слова — рэктару Акадэміі, народнаму мастаку Беларусі Васілю Пятровічу ШАРАНГОВІЧУ.



Рэктар Беларускай Акадэміі мастацтваў Васіль Пятровіч ШАРАНГОВІЧ.

— Сёння, азіраючыся на амаль 47-гадовы шлях, пройдзены Беларускім тэатральна-мастацкім інстытутам, цяпер ужо Акадэміяй, варта, відаць, адзначыць, что за гэты час зроблена для рэспублікі не так ужо мала: падрыхтавана больш за тры тысячы выпускнікоў, якія складаюць асноўныя творчыя сілы ўсіх драматычных тэатраў рэспублікі, абсалютную большасць членаў саюзаў мастакоў і дызайнераў. З ліку нашых выпускнікоў можна назваць не адзін дзесятак імёнаў, якія з'яўляюцца гонарам беларускага мастацтва і з годнасцю прадстаўляюць культуру нашага краю не толькі ў суседніх рэспубліках, але і ва ўсім свеце. Толькі пералік вядомых чытачам імёнаў заняў бы некалькі старонак.

Як пра станоўчы вынік педагагічнай дзейнасці калектыву сёння можна сур'ёзна гаварыць пра тэатральную школу, пра дасягненні ў падрыхтоўцы мастакоў манументальнага і дэкаратыўнага мастацтва, жывапісу, скульптуры і графікі. На працягу дзесяцігоддзяў у інстытуце выкладалі вядомыя майстры сцэны і выяўленчага мастацтва: народны артыст Беларусі М. Міровіч, які стаяў ля вытокаў інстытута, народныя артысты Беларусі Д. Арлоў, К. Саннікаў, народныя мастакі Беларусі І. Ахрэмчык, В. Волкаў, А. Бембель, А. Анікейчык і многія іншыя. Ды і цяпер у сценах Акадэміі сабраны лепшыя творчыя сілы як старэйшага, так і маладзейшага пакаленняў. На сённяшні дзень Акадэмія рыхтуе акцёраў драмы і кіно, лялечнікаў, рэжысёраў драмы, тэлебачання, мастацкага і дакументальнага кіно, мастакоў выяўленчага і манументальнага мастацтва, тэатральна - дэкаратыўнага жывапісу, дызайну, дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, мастакоў графічнага дызайну і рэкламы, інтэр'ера і абсталявання, мадэлявання адзення і вырабаў лёгкай прамысловасці, тэатразнаўцаў і мастацтвазнаўцаў. Пад нашым дахам сабраліся спецыялісты ва ўсіх галінах мастацтва, акрамя музычнага. Структура, сама сутнасць інстытута ўжо не адпавядала яго назве, і гэта дало падставы для пераўтварэння яго ў Акадэмію мастацтваў, якая павінна ў будучым стаць навучальна-метадычным і навукова-творчым цэнтрам рэспублікі, арганізацыйным звяном у аб'яднанні ўсіх напрамкаў мастацкай адукацыі.

У апошнія гады стала звычайнай з'явай перайменаванне навучальных, грамадскіх і дзяржаўных устаноў. Таму і паўстае натуральнае пытанне: мы проста змянілі шыльду ці распачалі рэстаўрацыю, рэарганізацыю сістэмы мастацкай, у шырокім сэнсе, адукацыі? Я ўпэўнены, што зроблены першы крок да стварэння Нацыянальнай Акадэміі мастацтваў. Самая вялікая праблема для нашай культуры на сённяшні дзень — гэта раз'яднанне творчых сіл. Адрадзіць культуру, адрадзіць духоўнасць, якая з ёю непарыўна звязана, у адзіночку не змогуць сёння нават вялікія асобы. Толькі супольнасць творцаў дапаможа выжыць беларусам як нацыі са сваёй адметнасцю, са сваёй вялікай і багатай гісторыяй, з самабытнай культурай. І менавіта Акадэмія можа і павінна стаць такой структурай, якая арганізуе ўсе творчыя сілы рэспублікі і, не ператварыўшыся пры гэтым у манапольную ўстанову, стане сапраўдным цэнтрам культурнага Адраджэння нацыі.

У будучым мне бачыцца скаардынаваная Акадэміяй сістэма мастацкай адукацыі з трох частак: пачатковай, сярэдняй і вышэйшай. Яшчэ да рэарганізацыі інстытута мы зрабілі захады па адкрыцці Мінскага мастацкага ліцэя пры інстытуце (цяпер ужо Акадэміі), пераасэнсавалі многія бакі ўнутранага жыцця. Лічу, што ў бліжэйшы час у сістэму Акадэміі павінны перайсці (паступова) Мінскае мастацкае вучылішча імя Я. Глебава, а таксама мастацка-графічны факультэт Віцебскага педінстытута з пераўтварэннем яго ў мастацка-педагагічны каледж. Варта ў сістэме Акадэміі адкрыць у бліжэйшы час і тэатральны ліцэй, каб такім чынам стварыць трывалы падмурак для вышэйшай тэатральнай адукацыі.

Асобнае пытанне — матэрыяльнае і фінансавае забеспячэнне. Нам цяжка планаваць падрыхтоўку спецыялістаў новых спецыяльнасцей, неабходных рэспубліцы, бо мы не маем навучальных плошчаў для адкрыцця новых аддзяленняў. У нас ёсць завочнае аддзяленне мастацтвазнаўства і тэатразнаўства, а перавесці яго на дзённае не можам па той жа прычыне. Не хапае месца і мастакам, адукацыя якіх будуецца на практычных занятках. Патрэбны матэрыялы, абсталяванне. Сёння радуе толькі адно — ужо зараз ідзе праектаванне акадэмічнага гарадка на праспекце Машэрава, дзе на плошчы 22,5 гектара мы стараемся прадугледзець усё неабходнае: ад навучальных майстэрань, музеяў і выставачных залаў да майстэрань выкладчыкаў і саду для пленэра.

У Акадэміі павінна павялічвацца роля выкладчыка-майстра, хоць ён і сёння ў нас не прыніжаны. Персанальныя творчыя майстэрні існуюць цяпер на мастацкім факультэце, ёсць мастацкія кіраўнікі і на тэатральным. Але мы ўжо прыходзім да высновы, што яны неабходныя і на мастацка-прамысловым, каб выпрацоўваліся розныя напрамкі, альтэрнатыўныя падыходы.

Не адразу склаўся творчы патэнцыял інстытута. Гэта зараз мы можам гаварыць пра пэўныя дасягненні. А ўзяць хаця б той жа 1953 год, калі ў Беларусі было так мала мастакоў, ды і тыя нямногія майстры, што працавалі ў рэспубліцы, як правіла, не надта імкнуліся на выкладчыцкую работу (не ў прыклад тэатральнаму факультэту, дзе ўжо складвалася кола выдатных майстроў сцэны — педагогаў).

Старыя метады масавага выхавання сёння не спрацоўваюць, і тут ужо галоўным становіцца супрацоўніцтва студэнта і выкладчыка, асабісты прыклад апошняга. Вялікую ролю для жыцця інстытута меў перагляд некаторых грамадазнаўчых дысцыплін, які адбыўся практычна два гады таму. А такія прадметы, як гісторыя Беларусі, беларуская этнаграфія і фальклор, выкладаюцца ўжо тры гады. З 1989 г. мы ўвялі ў інстытуце беларускую мову як дысцыпліну, задоўга да прыняцця закона аб мовах пачалі яе выкарыстоўваць як мову навучання і справаводства. Прынятая ў 1989 г. праграма пераводу інстытута на беларускую мову паступова выконваецца, хаця тут не ўсё так проста.

Што датычыць мастацка-прамысловага факультэта, дык вельмі трывожыць абыякавасць нашай прамысловасці да дызайна. Мы выпускаем каля двух дзесяткаў дызайнераў у год — для прыкладу, у вышэйшай мастацкай школе германскага горада Мюнстэра, дзе 50 тысяч жыхароў, вучацца 700 будучых дызайнераў — больш чым ва ўсёй нашай Акадэміі.

Трэба сказаць, што належнай дапамогі інстытуту на працягу дзесяцігоддзяў практычна не было. Ён, як і ўся культура, быў у дзяржавы на задворках. І мы павінны былі (ды і зараз яшчэ становішча не змянілася) рыхтаваць прафесіяналаў у непрафесійных умовах. А ў гэты час будаваліся Дом палітасветы, пачаў будавацца Палац рэспублікі... Зараз, ва ўмовах пераходу да рынку, мастацтва ў надзвычай складаным стане — набытак народа пачынае сплываць за мяжу, ды і самі творцы, прычым найбольш таленавітыя, таксама могуць апынуцца там. Як нам абараніць культуру ад «дзікай» камерцыялізацыі, ухілу ў «масавасць»? Без дапамогі дзяржавы, думаю, нам тут не абысціся.

Ёсць яшчэ адна не менш сур'ёзная праблема для беларускай культуры: не дапусціць страты станоўчых набыткаў нашай школы, бо страціць іх лёгка, а аднавіць вельмі цяжка, аб чым сведчыць заходнееўрапейскі і амерыканскі вопыт. Таму нашы кантакты з Захадам, з іх культурна-адукацыйнымі ўстановамі павінны грунтавацца на сцвярджэнні ўласнай сістэмы навучання жывому, рукатворнаму рэалістычнаму мастацтву з нацыянальнай адметнасцю.

У заключэнне хачу сказаць, што стварэнне Акадэміі мастацтваў — гэта вялікая адказнасць за духоўнае развіццё нацыі, адказнасць, якую мы свядома ўзялі на свае плечы. Мы будзем спадзявацца на падтрымку нашых намаганняў з боку дзяржаўных улад і грамадскасці. Бо як не можа быць галодны і раздзеты чалавек носьбітам сапраўднай культуры, так і бескультурны неадукаваны чалавек не можа быць стваральнікам матэрыяльных і духоўных каштоўнасцей. У гэтым напрамку перад усімі намі ляжыць цяжкі і бясконцы шлях пазнання і стварэння, і патрэбна мужнасць і самаадданасць на гэтым шляху.

Запісала
**Н. ЖДАНОВІЧ.**

Фота А. АСІПОВІЧА.

**ПАМЯРКУЕМ**

# ЯК ВАС ЦЯПЕР НАЗЫВАЦЬ?

Аднойчы мне давялося бачыць, як наш «цэкамолец» дапамагаў апранацца маскоўскаму госцю. Гэта было відовішча! Каля таўсмаценькага равесніка наш завіхаўся, як пан ля паненкі, а той, як належнае прымаючы заляцанні, няспешна адшукваў рукавы паліто.

З чаго б раптам такія кур'ёзныя згадкі? Слухаю перадз'ездаўскае радыёінтэрв'ю першага сакратара ЦК ЛКСМБ. Слова «камсамол» ён відавочна пазбягае. Напірае на «маладзёжную арганізацыю», якая павінна вырасці «з нетраў» былой памочніцы партыі. Толькі ці могуць гэтыя самыя «нетры» нарадзіць нармальнае, здаровае дзіця — вось пытанне!

У ЦК камсамола я зрэдчас бывала па нейкіх справах (выступленні, семінары), і зараз намагаюся ўспомніць твары тых, хто ў розныя гады адбываў там радоўку па лініі ідэалогіі і культуры. Гэта няпроста. Маладыя начальнікі мяняліся з калейдаскапічнай хуткасцю і, ні ў што не паспеўшы ўнікнуць, ішлі асвойваць чарговую службовую прыступку.

У доме па вуліцы Карла Маркса, дзе калісьці яшчэ не былі лішнімі беларускія часопісы, атабарыўся авангард неспакойнага камсамольскага племені, прадстаўлены пераважна лепшай паловай чалавецтва. Дзяўчаты так зацікаўлена вялі прыватныя размовы ў сваіх кабінетах, так звыкла пачувалі сябе каля іх маладыя людзі, у тым ліку з творчых саюзаў, што язык не паварочваецца назваць жыццярадасных асоб функцыянеркамі. «Функцыя» — гэта штосьці дзяжурнае, грувасткае, руціннае, што зусім не пасавала да іх, можа, таму і справу сваю яны рабілі як бы між іншым.

Найбольш матэрыялу для вывучэння камсамольскага падыходу да спраў і камсамольскіх маральных аблічча даў мне ўдзел у Сусветным фестывалі моладзі і студэнтаў у 1985 годзе. На гэтым бяспрыкладным шоу варта спыніцца больш падрабязна.

Усім мастацкім калектывам, што меліся ўдзельнічаць у ім, спусцілі загад адпраўляцца ў Маскву амаль за месяц да пачатку — рэпеціравацца. Сотні людзей — музыкантаў, прафесійных і самадзейных артыстаў — жылі там на поўным дзяржаўным забеспячэнні і не столькі рэпеціраваліся (бо гэта яны маглі рабіць і дома), колькі прыемна бавілі час і знаёміліся са сталіцай. Нашмат раней аўральным парадкам адправілі на фестываль і так званую творчую групу з 12 чалавек (паэты, кампазітары, выканаўцы). Таксама, трэба разумець, рэпеціравацца.

І завезена была ў Маскву такая колькасць ансамбляў і груп з усяго Савецкага Саюза, што некаторыя не змаглі выступіць нават па разу,— не хапала пляцовак. На справядлівыя прэтэнзіі сталічны камсамол толькі ашчэрваўся, тутэйшыя «камсамаляты» на яго фоне здаваліся анёламі. Праўда, анёлы не забываліся пра ўласную выгаду і паводзілі сябе, мякка кажучы, залішне раскавана.

На свята моладзі — літаральна на вецер, на паказуху, на вавілонскае зборышча — былі выкінуты мільённыя сродкі, за што многія камсамольскія работнікі мелі пасля... не, зусім не вымовы — узнагароды, граматы і ўсё астатняе, чым адзначаюцца ў нас поспех і стараннасць.

Прызнаем, аднак, што згаданая падзея — выключная, і не адзін ВЛКСМ меў да яе непасрэднае дачыненне. Куды болей было сціплейшага, мясцовага значэння мерапрыемстваў, дзіўна падобных між сабой стылем і метадамі работы іх арганізатараў. Неаднойчы давялося пераконвацца: там, дзе сутнасць і сэнс зводзяцца да галачкі ў графе «выканана», дзе збоі і недарэчнасці і дзе ніхто і ні за што не хвалюецца,— там, хутчэй за ўсё, вядзе рэй «слаўны таварыш камсамол».

Пазней высветлілася, што маё асабістае вялікае адкрыццё было для больш вопытных людзей агульным месцам. Іншым камсамол і не мог быць у савецкай сістэме каардынат, спрэс заснаванай на двурушнасці і фармалізме. Так бы і жыў гэты пеўнік пад крылом у саноўнага куратара, каб з ласкі ГКЧП квактуху раптам не сагналі. У выніку ўсесаюзная арганізацыя самараспусцілася, а наша... Наша вырашыла пазмагацца за сваё месца пад сонцам, хаця ні сутнасці, ні нораваў не змяніла (пра што сведчыць і гісторыя з непакорным рэдактарам «Знаменки»). ЛКСМБ спешна перастройваў шарэнгі, цяпер ужо ў бок светлага капіталістычнага заўтра, ды ГКЧП зблытаў яму ўсе карты. Добра, што «партайгеноссэ» з парламента не далі прапасці. Прытулілі, слязу ўцерлі. Ці то даўняя сардэчная прыязнасць дала пра сябе знаць (многія, многія прайшлі гэтую школу!), ці то пэўна разумелі: саюз моладзі ўсё ж патрэбен. Бо хто ёй будзе ўсур'ёз займацца, акрамя яе самой?

Так, бадай што і патрэбен, але ці такі? Куды разумней было б распусціць гадавальнік кар'ерыстаў і цынікаў — каб новы маладзёжны саюз будавалі новыя людзі. Мабыць, ёсць яны і ў сучасных кіруючых структурах камсамола — чыстыя, сумленныя, здольныя рабіць справу з душой. Вось толькі паліто не ўмелі падаць своечасова...

**Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ.**

Р. S. Гэты матэрыял быў гатовы да друку, калі адбыўся з'езд камсамола Беларусі і перайменаванне яго (камсамола) у Саюз Моладзі Беларусі. З чым, як кажуць, і віншуем... Г. К.

# «Трэба жыць па сродках»

**— гаворыць старшыня праўлення Нацыянальнага банка Беларусі Станіслаў БАГДАНКЕВІЧ у гутарцы з карэспандэнтам «ЛіМа» Міхасём ЗАМСКІМ**

**Станіслаў Антонавіч Багданкевіч. 54 гады. Доктар эканамічных навук, прафесар. Да зацвярджэння ў ліпені г. г. Вярхоўным Саветам Беларусі старшынёй праўлення Нацыянальнага банка рэспублікі дзесяць гадоў працаваў загадчыкам кафедры грашовага абарачэння і крэдыту Мінскага інстытута народнай гаспадаркі, а перад тым—дваццаць гадоў у сістэме «былога» Дзяржаўнага банка рэспублікі.**

**М. Замскі: — Словы банк, крэдыт, бюджэт, валюта, інфляцыя сёння не сыходзяць са старонак газет і часопісаў, гучаць па радыё і тэлебачанні. Яны ўвайшлі ў наш паўсядзённы лексікон, хоць, думаю, мала хто дасведчаны ў гэтых складаных матэрыях.**

**Вы, Станіслаў Антонавіч, фігуральна кажучы, галоўны банкір Беларусі, ведаеце ўсе таямніцы банкаўскай і фінансавай дзейнасці ў рэспубліцы, трымаеце ў руках многія ніці аздараўлення нашай эканомікі, вываду яе з глыбокага крызісу.**

**Дарэчы, калі я пазваніў у даведачную службу—«09», каб мне далі тэлефон Дзяржбанка, тэлефаністка строга паправіла мяне: «Называйце правільна назву,—не Дзяржбанк, а Нацыянальны банк». А—якая паміж імі розніца?**

**С. Багданкевіч:** — Пераход эканомікі на рынначныя рэйкі вымагае карэнных змен у самой банкаўскай сістэме. Старая была вельмі неэфектыўнай, з'яўлялася, па сутнасці, прыдаткам выканаўчай улады і не выконвала сваёй асноўнай функцыі—падтрымання ўстойлівасці рубля, барацьбы з інфляцыяй. Урад былога СССР выкарыстоўваў Дзяржбанк фактычна як друкавальны грашовы станок. Грошы пераводзіліся на рахункі бюджэту, прадпрыемстваў, не маючы пад сабой ніякага матэрыяльнага забеспячэння. Грошы—гэта аксіёма—павінны выпускацца па меры стварэння матэрыяльных каштоўнасцей. Зрабілі, скажам, аўтамабіль коштам 10 тысяч рублёў — столькі наяўных ці безнаяўных грошай павінна быць пакладзена на рахунак. Калі ж іх кладзецца больш, дык гэта ўжо, як мы гаворым, «пустыя» грошы.

**— Што вядзе да інфляцыі?**

— Так, гэта адна з прычын інфляцыі. Вы спытаеце, навошта ўводзіць у зварот нічым не забяспечаныя грошы? Пры слабай эканоміцы, недаатрыманні казной грошай у выглядзе падаткаў, рознага роду адлічэнняў такая мера вымушаная, бо інакш мы пакінем без зарплаты настаўнікаў і медыкаў, артыстаў і вас, журналістаў...

**— Сёння даводзіцца чуць, што зарплату некаторым катэгорыям працоўных часта затрымліваюць, бо няма наяўных грошай. Днямі я пачуў ад знаёмага, што па той жа прычыне ён не змог узяць грошы ў ашчадным банку.**

— Гэта ўсё вынік нашай хворай эканомікі, недабору прадукцыі прамысловасцю, сельскай гаспадаркай, а адсюль і дрэннай працы гандлю, які павінен даваць асноўныя паступленні ў бюджэт.

**— Зачараване кола. У такіх абставінах адзінае выйсце—друкаваць новыя грошы?**

— Так і робіцца, хоць шлях гэты гібельны.

**— І ўсё-такі я не зразумеў, чым Нацыянальны банк адрозніваецца ад старога—Дзяржаўнага? Справы нашы, здаецца, не палепшыліся...**

— Вы хочаце, каб за лічаныя месяцы існавання Нацыянальнага банка адбыліся бачныя зрухі?

**— Так надакучыла чакаць, пакуль палепшае жыццё...**

— У адпаведнасці з прынятымі Вярхоўным Саветам рэспублікі законамі «Аб нацыянальным банку» і «Аб банках і банкаўскай дзейнасці» завяршаецца фармаванне двух узроўняў банкаўскай сістэмы. Гэта Нацыянальны банк Беларусі і падначаленыя яму камерцыйныя банкі. Нацыянальны банк з'яўляецца цэнтральным банкам рэспублікі, ён яе ўласнасць і падпарадкоўваецца Вярхоўнаму Савету. У яго кампетэнцыі—грашова-крэдытнае рэгуляванне, арганізацыя міжбанкаўскіх разлікаў і касавага абслугоўвання камерцыйных банкаў, кантроль за захаваннем апошнімі банкаўскага заканадаўства.

**— Якія адметныя асаблівасці камерцыйнага банка?**

— Камерцыйныя банкі — гэта атрыбуты рыначнай эканомікі. Ствараюцца яны на паявой і акцыянернай аснове. Напрыклад, пяць прадпрыемстваў на ўласныя сродкі ствараюць банк, які абслугоўвае іншыя прадпрыемствы, арганізацыі і ўстановы.

**— Пазычае ім грошы пад пэўны працэнт? Хто яго вызначае?**

— Адзін з галоўных элементаў крэдытнай палітыкі банка—вызначэнне працэнтных ставак за карыстанне пазыкай. Гэта заробак банка. Дадамо, што статут кожнага камерцыйнага банка павінен быць зарэгістраваны ў Цэнтральным банку, атрымаць ад яго ліцэнзію на права дзейнасці.

**— Якія функцыі выконвае камерцыйны банк?**

— Выдачу зарплаты, крэдытаванне, фінансавыя кансультацыі, экспертызу праектаў, пасрэдніцкія аперацыі, прыём на захаванне тэрміновых грашовых укладаў і некаторыя іншыя. Павінен заўважыць, што ў заходніх краінах камерцыйны банк ажыццяўляе да 130—140 розных паслуг.

**— Хто з'яўляецца, так сказаць, гаспадаром камерцыйнага банка?**

— Вышэйшым органам — сход заснавальнікаў, паміж сходамі—Савет банка, а выканаўчым органам—яго праўленне.

**— Колькі ў нас зараз камерцыйных банкаў?**

— 27, сярод іх такія буйныя, як «Беларусь», «Прыёрбанк», «Дукат», «Супрацоўніцтва», «Экаразвіццё», «Мінскбізнесбанк», «Пошук», «БелАграбанк» і іншыя. Толькі іх капітал складае сёння больш як 500 мільёнаў рублёў. Ідзе прыватызацыя ўласнасці, як грыбы пасля дажджу, узнікаюць малыя прадпрыемствы, — без банкаўскага крэдыту тут не абысціся. так што значэнне камерцыйных банкаў цяжка пераацаніць...

**— Гэта, так сказаць, нашы ўнутраныя справы. Але эканоміка не можа існаваць у замкнёнай прасторы, яна, каб выжыць, павінна мець выхады за межы дзяржавы. Што робіцца ў нас у справе інтэграцыі нашай эканомікі, у прыватнасці, банкавай сістэмы ў сусветную?**

— Вы, мабыць, чулі пра пагадненні, заключаныя краінай з Міжнародным валютным фондам, Сусветным банкам. Што тычыць нашага нацыянальнага банка, дык ён устанаўлівае сістэму валютнага рэгулявання, займаецца нашымі міжнароднымі сувязямі, звязанымі з выкарыстаннем замежнай валюты і рубля замежнымі фірмамі.

**— Я чуў, Станіслаў Антонавіч, што апошнім часам у вас адбылося некалькі сустрэч з прадстаўнікамі некаторых замежных фінансавых колаў, у прыватнасці, Японіі і Швейцарыі...**

— З некаторымі заходнімі банкамі ў нас ёсць цвёрдая дамоўленасць аб супрацоўніцтве. Напрыклад, з Люблінскім банкам у Польшчы.

**— Гэта, відаць, не зусім заходні банк...**

— Памыляецеся. Люблінскі банк на 98 працэнтаў створаны на капіталы ЗША.

**— Што прымусіла амерыканцаў ствараць банк менавіта ў Любліне?**

— Вельмі высокая дзелавая актыўнасць у Польшчы і, потым, адсутнасць тут канкурэнцыі з боку іншых заходніх банкаў. Калі першапачатковы капітал у Люблінскім банку складаў 6 мільёнаў долараў, дык за адзін год ён узрос да 100 мільёнаў. Заснавальнікі гэтага банка выказалі жаданне адкрыць свой філіял у Брэсце, арганізаваўшы яго на акцыянернай аснове — частку капіталу даюць яны, частку—фірмы Швейцарыі і Аўстрыі. Яны былі ў мяне, і мы далі прынцыповую згоду, праўда, пры ўмове, што ў Брэсцкім банку будзе не менш за трох акцыянераў з устаўным капіталам не менш чым мільён долараў. Частку акцый возьмуць і нашы прадпрыемствы, вядома, калі ў іх знойдуцца на гэта сродкі.

**— Каго будзе абслугоўваць Брэсцкі банк?**

— Беларускія прадпрыемствы, якім ён будзе прадастаўляць крэдыты ў валюце на набыццё замежнага абсталявання, пашырэнне вытворчасці канкурэнтаздольнай прадукцыі і г. д.

**— А як той завод ці фабрыка будуць разлічвацца з банкам — «драўлянымі» рублямі?**

— Не, таксама канвертуемай валютай, атрыманай за экспарт сваёй прадукцыі. І банку выгадна, і прадпрыемству. Яскравы прыклад таго, якую стымулюючую ролю можа адыгрываць банк у павелічэнні вытворчасці самых розных тавараў, наогул, аздараўленні эканомікі.

**— А што будзе, калі прадпрыемства не зможа разлічыцца з банкам? Ці мала што можа здарыцца—не «пайшла» за мяжой прадукцыя, наогул, дрэнна папрацавалі—у нас так умеюць...**

— Вядома, усё можа здарыцца і банк тут пэўным чынам рызыкуе. Але ж няма сапраўднага бізнесу без рызыкі. Гэта толькі ў нас ніхто нічым не рызыкуе, затое так і жывём... Але я хачу падкрэсліць, што ніводны салідны банк не дасць пазыкі без таго, каб як след не вывучыць кліента, яго фінансавыя і іншыя магчымасці, ці можа ён гарантаваць аплату пазыкі. Але ж, бачыце, калі заходнія бізнесмены ідуць на тое, каб адкрыць банк у Брэсце, значыць, упэўнены, што справа пойдзе. Нам жа гэта ўтрайне выгадна, бо мы набываем крыніцу паступлення ў рэспубліку канвертуемай валюты, якой нам вельмі не хапае. На рахунках нашых прамысловых прадпрыемстваў сёння налічваецца не больш за 220 мільёнаў долараў,—для нашай рэспублікі гэта надзвычай мала.

**— Якія яшчэ банкі хочуць з намі «сябраваць»?**

— Нядаўна ў мяне былі прадстаўнікі некалькіх фірмаў Швейцарыі, якія маюць намер дамовіцца аб сумесным бізнесе з нашым камерцыйным «Бізнесбанкам».

**— Прагучала, як каламбур!**

— Швейцарцы хочуць арганізаваць з ім сумесны банк і гатовы ўнесці трыццаць працэнтаў першапачатковага капіталу, вядома, у канвертуемай валюце. Сфера дзейнасці гэтага банка—жыллёвае будаўніцтва, гасцінічны бізнес, гандаль.

**— Гандаль? На нашым гандлі, мне здаецца, прагарыць самы магутны банк у свеце...**

— Гэта іх праблемы. Калі маюць жаданне ўкласці грошы ў гэтую справу, значыць, таксама ўпэўнены, што будуць мець прыбытак. Былі яшчэ ў нас перамовы з прадстаўнікамі германскага банка, банка Ізраіля.

**— Пачынаючы з намі справу, яны, відаць, патрабуюць пэўных гарантый?**

— Мы даём ім аб'ектыўную інфармацыю аб стане нашай эканомікі, прамысловай патэнцыі нашых законаў, узроўні адукаванасці народа, яго культурных здабытках, і гэта, хачу сказаць, прыцягвае замежны бізнес. Дарэчы, нядаўна такую інфармацыю мы перадалі праз савецкага пасла ў Германіі міністэрству эканомікі гэтай краіны.

**— У час нашай гаворкі, Станіслаў Антонавіч, неаднойчы гучалі словы «канвертуемая валюта», якія апошнім часам, дальбог, набылі сакраментальны змест. Прыдумана ўжо і адпаведная абрэвіятура—СКВ—свабодна канвертуемая валюта, якая ўсё шырэй уваходзіць у наш лексікон. Ну, а ці стане калі-небудзь канвертуемы наш рубель? Наіўнае пытанне?**

— А рубель наш канвертуемы.

— ?.

— Толькі, калі можна так сказаць,— ненармальна канвертуемы. Што такое канвертуемасць валюты? Абмен яе па пэўным эквіваленце. Кожнаму савецкаму эмігранту, напрыклад, дадзена права пры выездзе за мяжу абмяняць рублі на 200 долараў (з 4 кастрычніка г. г. — на 1000 долараў) па ўстаноўленым Масквой курсе—47 рублёў за долар. На чорным рынку за яго даюць 80—100 і больш «драўляных». Вось такая канвертуемасць. Фактычна, спекулятыўная. Адбываецца гэта таму, што попыт на замежную валюту ў шмат разоў пераўзыходзіць прапанову.

**— Яшчэ, відаць, і таму, што наш рубель з кожным месяцам становіцца ўсё лягчэйшым?**

— Вядома, і з гэтай нагоды таксама. Адзінае выйсце з такога становішча — павелічэнне экспарту нашай прадукцыі, каб зарабіць больш замежнай валюты. Што для гэтага трэба зрабіць, я ўжо гаварыў вышэй: выпускаць больш прадукцыі «хорошей и разной». А мы пакуль што гонім пустыя грошы. Пры нашым вялізным дэфіцыце рэспубліканскага бюджэту ў 5 мільярдаў рублёў Вярхоўны Савет Беларусі абавязвае Нацыянальны банк выдаткаваць яшчэ 5 мільярдаў на пакрыццё «дзірак» у бюджэце, да таго ж без указання крыніц пакрыцця. Гэта значыць, зноў трэба пускаць у ход друкавальны станок.

**— А што Вярхоўны Савет мог зрабіць? Трэба плаціць зарплату, пенсіі, будаваць школы, бальніцы, жыллё—дзесяткі ж тысяч людзей стаяць у чарзе на кватэры...**

— Жыць трэба па сродках. Атрымаў мільярд прыбытку — трэба не больш і расходаваць. А хочаш больш — пазыч, у каго ёсць, а не друкуй пустыя паперкі. Гэты самападман рана ці позна можа скончыцца катастрофай. Я лічу, што дэфіцыт бюджэту можна было значна зменшчыць шляхам продажу насельніцтву каштоўных папер, хай і пад вельмі высокі працэнт. Так робяць ва ўсім цывілізаваным свеце—каб зменшыць інфляцыю, умацаваць валюту.

**— Але ж дзяржаве выгадна, каб грамадзяне трымалі свае грошы ў ашчадных банках, інакш бы яна іх закрыла...**

— Так, мы бяром адтуль грошы для крэдытавання, розных выплат і г. д. Але ж як ляжалі ў ашчадных банках рэспублікі 20 мільярдаў рублёў, так і ляжаць. Грашовая маса ад таго, што яна там знаходзіцца, не зменшылася, і калі яна яшчэ не абрынулася з поўным размахам на наш спажывецкі рынак, дык толькі таму, што там няма чаго купіць.

**— Калі продаж каштоўных папер мог бы падтрымаць нашу эканоміку, чаму б не пачаць іх выпуск? Што стрымлівае?**

— Коснасць, непрафесійнасць кіраўнікоў, ад якіх залежыць гэтая справа. Каб яна толькі залежала ад Нацыянальнага банка, мы б даўно арганізавалі такую акцыю. Аргумент у яе праціўнікаў адзін—маўляў, цяжка будзе потым выплачваць высокі працэнт, пад які прадаюцца каштоўныя паперы, не разумеючы, што мы гэтым «потым» выйгралі б час, рэзка зменшылі б інфляцыю, падышлі б да канвертуемасці рубля. Але ж у нас на высокіх пасадах яшчэ сядзіць многа людзей, якія жывуць толькі сённяшнім днём.

**— Зараз шмат дыскутуецца, у тым ліку і ў Вярхоўным Савеце, пытанне аб нацыянальнай валюце—ваша думка на гэты конт?**

— Да гэтага мы прыйдзем, суверэнная дзяржава павінна мець сваю валюту. Але пытанне гэтае не такое простае, як некаму можа падацца. Па-першае, новыя грошы трэба недзе надрукаваць, адчаканіць. Дзе размясціць заказ, на якія сродкі? На гэта спатрэбяцца дзесяткі мільёнаў канвертуемых рублёў. Дзе іх узяць пры нашым цяперашнім жабрацтве? Я асабіста не ведаю. А ці задумваўся хто, колькі часу спатрэбілася б, каб замяніць дзесяткі мільярдаў рублёў, якія знаходзяцца ў абарачэнні? Гады. Але хай... Уявім сабе, што па шчупаковым загадзе заўтра мы прачнёмся з новымі грашамі. Ну і што ад гэтага змяніцца? Той самы талер стане цяжэйшым за наш сённяшні «драўляны» рубель? Будзе мець больш высокую пакупную здольнасць, стане канвертуемым? Не, зразумела. Грошы—люстэрка эканомікі. І яшчэ. Чым бы мы, цікава, разлічваліся б па пастаўках у рэспубліку нафты, газа, цэменту, пшаніцы і іншых неабходных тавараў, якія мы купляем у Расіі, Казахстана, Украіны, іншых суверэнных рэспублік?

**— А вось жа Ельцын аб'явіў аб уводзенні расійскіх грошай.**

— Гэта была толькі палітычная заява. Дарэчы, мелася на ўвазе ўводзіць не новыя грошы, а неяк адзначыць расійскім знакам старыя. Калі ж пачалі гэтай справай займацца спецыялісты, дык адразу выявілася, што на правядзенне такой акцыі спатрэбілася б 4—5 гадоў.

**— Але ж Беларусі неяк трэба абараніць свой спажывецкі рынак, які «падмятуць» нашы суседзі, тая ж Расія, дзе збіраюцца адпусціць усе цэны. Можна толькі ўявіць, колькі пустых расійскіх грошай абрынецца на нас...**

— Я гэта добра разумею. Мы можам неяк абараніць сябе ўводам купоннай сістэмы.

**— Неяк?**

— Вядома купоны не панацэя. Трэба ісці па тым жа шляху, што і Расія,—лібералізаваць цэны. Інакш рыначную эканоміку мы не створым.

**— Дзякуй, Станіслаў Антонавіч, за гутарку.**

**ДУМКА ЧЫТАЧА**

# СОЛЬ НА ЗАГОЕНЫХ РАНАХ

На першую Прачыстую маці заўсёды ўчыняе бліны. Я ведаю, што звычайна яна робіць гэта на ўгодкі, але ж якраз 28 жніўня ніхто з нашых блізкіх не паміраў. Адказ на маё запытанне быў даволі нечаканы:

— Не здзіўляйся, сынок. Проста ў гэты дзень партызаны пабілі болей за дзесятак ніканаўцаў. А як жа нявінных людзей не спамянуць?

Я на ўсялякі выпадак запісаў матулін аповяд, але асаблівай увагі яму ў той час не надаў: у ваеннай каламуці здараліся і не такія недарэчнасці. Больш таго, самі вяскоўцы да сённяшняга дня ўпэўнены, што налёт на Ніканавічы рабілі не «сапраўдныя» партызаны, а самазванцы з вакольных мясцін.

Якім жа было маё здзіўленне, калі ў час прагляду кнігі «Памяць: Гісторыка-дакументальная хроніка Быхаўскага раёна» (Мн., БелСЭ, 1990) на старонцы 191 я прачытаў апісанне гэтага бою ў інтэрпрэтацыі яго непасрэднага ўдзельніка, даволі вядомага празаіка і кінадраматурга Авідзія Гарчакова. «Божа мой, — падумалася, — калі гэты пісьменнік дэманструе такую надзвычайную фантазію ў дачыненні да маленькага эпізода, то якімі ж павінны быць яго **дакументальныя** кнігі?».

Сапраўды, чалавек, незнаёмы з рэальнымі падзеямі, можа толькі падзівіцца геройству ды вайсковаму ўмельству партызан з атрадаў Сазонава (арганізаваны 18 чэрвеня 1942 г.), Дзюбы (створаны ў жніўні 1942 г.) і Сямёнава (дзейнічаў з ліпеня 1942 г.). Народныя мсціўцы, па словах А. Гарчакова, ушчэнт разбілі буйны, «...каля васьмідзесяці гітлераўцаў на чале з фельдкамендантам», Ніканавіцкі гарнізон.

Цытую ўрыўкі з яго ўспамінаў: «У тую ноч, 28 жніўня 1942 г., я, васемнаццацігадовы партызан, упершыню камандаваў групай разведкі... Бой завязаўся на правым флангу ў Кухарчанкі. Праз паўгадзіны мы, разведчыкі і кулямётчыкі, далучыліся да атрада Дзюбы і пачалі выбіваць гітлераўцаў з двароў. З Валодзем Шчаўкуновым кінулі гранаты ў цёмныя праёмы разбітых вокнаў аднаго дома і самі нырнулі ў іх. Ліхтарыкамі высвецілі жоўты чамадан, на стале стос дакументаў. Хуценька засунуўшы іх у чамадан, падалі яго праз акно палітруку Палявому...

...Кальцо вакол ворагаў сціскалася ў цэнтры вёскі. Байцы Кухарэнкі і Дзюбы падпальвалі дамы бутэлькамі з гаручай сумессю. Але моцны агонь з дзота прымусіў байцоў Дзюбы залегчы...».

Жыхары Ніканавіч расказваюць пра згаданыя падзеі «крыху» па-іншаму. Яны сведчаць, што немцы размяшчаліся толькі ў адным канцы вёскі, у чатырох хатах. Тут жа, на Бугаёўцы (так здавён называлі вуліцу з боку шашы Ленінград - Адэса), стаяла нямецкая назіральная вышка. І ўсё. І ніякіх дзотаў.

Апоўначы 28 жніўня партызаны ўваходзілі ў Ніканавічы з боку вёскі Падгор'е. Дзяўчаты, якія ў гэты час вярталіся са скокаў, выразна чулі шматразовыя выгукі іх камандзіра: «Левый фланг, вперед!» Вядома, напужаліся, хуценька разбегліся па хатах. Неўзабаве заляскалі вінтоўкі, пачалі ўспыхваць пабудовы, пачуліся крыкі, лаянка, плач.

Маршрут народных мсціўцаў пралягаў не толькі па вясковай вуліцы. Па тым, як адно за другім загараліся гумны з толькі што зжатай збажыной, людзі зразумелі, што сталі няшчаснымі сведкамі сапраўды буйной аперацыі.

Праз колькі часу страляніна ўзмацнілася — гэта партызаны падышлі да Бугаёўкі...

Што да вынікаў «дзерзскага налёту», дык яны ні партызанам, ні, вядома, вяскоўцам асаблівага аптымізму не прынеслі. Хаця варожы гарнізон і быў «разгромлены», аднак забітых немцаў чамусьці аказалася толькі два ці тры чалавекі (сюды, праўда, варта дадаць яшчэ паліцая Івулю, якога напаткала смерць каля бацькавай хаты). Партызаны страцілі шасцёх, у тым ліку дзяўчыну. Імёны іх не прыводжу — яны пазначаны ў кнізе «Памяць». А вось пра жыхароў вёскі Ніканавічы, забітых уласнымі абаронцамі, ніякіх звестак там чытач не адшукае. Нібы і не жылі ніколі...

Між тым у памяці людской іх імёны засталіся:

АВЯР'ЯНАВА Мар'я Парфінаўна, цяжарная;

АВЯР'ЯНАЎ Пракоп, меў каля 65 гадоў;

АНЦІПЕНКА Аляксандра, цяжарная;

АНЦІПЕНКА Домна, мела 4 гады;

БЕЛАКУЗАВА Матруна, мела 65—70 гадоў;

ДУБОЎСКІ Рыгор, меў каля 60 гадоў;

ЖУРАЎСКІ Павел Пятровіч, настаўнік, меў 32 гады;

ЖУРАЎСКІ Пракоп, інвалід грамадзянскай вайны;

ІГНАЦЬЕВА Таццяна Апанасаўна, цяжарная;

СЕНАЖЭНКА Анатоль Рыгоравіч, меў 29 гадоў;

УКРАІНКА Васіль, меў 8 гадоў;

УКРАІНКА Лісей, меў каля 60 гадоў;

ГВАРДЗЕЕНКА Іван, меў 18 гадоў (забіты толькі за тое, што быў сынам жандарма).

Памятаюць яшчэ некаторыя вяскоўцы і КАЗАКОВУ Еўдакію, і ЦІТОВА Васіля, і ЛАХМАТАВА Навума, «пушчаных у расход» партызанамі ў гэтым жа годзе.

Што, цяжкавата паверыць? Дык сведкі ж пакуль ЖЫВЫЯ!

**С. УКРАІНКА,**
**ст. выкладчык**
**Магілёўскага педінстытута.**

## Анкета «ЛіМа»

**На анкету «ЛіМа», прысвечаную актуальным пытанням літаратуры, адказалі ўжо Л. Галубовіч, К. Шэрман, І. Чарота, Г. Тычка, А. Лойка. Працягваем друкаваць адказы. Сёння слова маюць Уладзіслаў Рубанаў і Алесь Асташонак.**

**1. На што, па-вашаму, абапірацца творцу, у прыватнасці, пісьменніку ва ўмовах «міжчасся», няўхільнага насоўвання рынку? Ці можна сёння пісаць, як раней,—як бы па інерцыі?**

**2. Як вы ставіцеся да спробаў стварэння беларускай масавай культуры, да жадання некаторых маладых літаратараў здабыць вядомасць, спадабацца чытачам «любой цаной»?**

**3. Ці дапускаеце вы, зноў жа ўлічваючы «рыначныя» густы, свядомую эксплуатацыю той ці іншай «моднай» формы? Ці дапаможа нам арыентацыя на фармальны пошук і чужыя знаходкі ў вырашэнні моўных, чытацкіх і іншых праблем?**

Уладзіслаў **РУБАНАЎ**

# ПАВЕРЫЦЬ У СЯБЕ

1. Таленту, хоць і ўсё перашкаджае, нічога не пагражае, бо на ягонай абароне стаіць прырода. Мутацыя, як вядома, у жывую матэрыю ўносіць «карэктывы» не адным стагоддзем. Як і ў застойныя часы, так і цяпер (так і надалей) творцу трэба слухаць свой унутраны голас. Мяжа шчырасці, даверу да яго і ёсць апірышча ў творчасці. Іншая справа, што кожны чалавек, як сацыяльны прадукт, непазбежна пастаўлены перад праблемаю выжывання, адчувае сябе ў павуціне разнастайных грамадскіх паралелей і вертыкалей. І тут велічыня канфармізму ў адваротнай залежнасці, скажам так, ад велічыні таленту. Але стопрацэнтнай бескампраміснасці, відаць, не бывае. Напрыклад, ніхто з пісьменнікаў, нават з тых, што былі ў нязгодзе з уладамі, партыяй, не адмовіўся ад дзяржаўнай прэміі ці ордэна. Гэтак жа як пахвала творцы ў дакладзе «вышэйшага» не выклікала абурэння, тады як крытыка магла прынесці толькі засмучэнне. Скажу больш: самі ж творцы папракалі ўлады, што той і той пайшлі ад нас без ушанаванняў. Зразумець можна: прызнанне бывае толькі афіцыйным, прызнання ў сяброўскім коле мала. А ў ідэале ўлада не павінна лесціць творцу, яна павінна даваць свабодна крытыкаваць сябе, інакш імкненне творцы да праўды заўсёды будзе ўспрымацца як замах, падкоп і г. д. Цяжкая тут сітуацыя, бо і цяперашнія ўлады, на жаль, раўніва, часам аж хваравіта сочаць за пазіцыяй творчай інтэлігенцыі.

Дзе выйсце? У насалодзе адзіноцтва, у бязлітаснай выпрацоўцы абыякавасці да таго, як глядзяць на створанае табою збоку, не баяцца не спадабацца. Глядзець будуць па-рознаму, а ты ўсё-ткі адзін (індывідуальнасць), і ёсць рэчы, якія адчуваеш толькі ты адзін, і таму бадай самае галоўнае і цяжкое для творцы ў банальным — паверыць у сябе. Не дзеля сучаснікаў. Дзеля малечкага шанцу быць зразуметым наступнікамі. На здабыванне гэтай веры ідзе ўсё жыццё.

2. Чытач у пісьменніка павінен быць. І ён ёсць — шырэйшае ці вузейшае кола, прынцыповага значэння не мае. Вось толькі штучныя высілкі «спадабацца», на мой погляд, для сур'ёзнага творцы непрымальныя. Гэта танны разлік на ўласцівасць чалавека ленавацца, аблягчаць сабе існаванне. Свядома абцяжарваць жыццё ніхто сабе ні ў чым не хоча, у тым ліку і ў чытанні. Большыня «клюе» на тое, што бліжэй ляжыць, што не прымушае галаву і душу працаваць. Толькі ж нельга дагадзіць натоўпу, бо непрадказальная і незразумелая («не-псіхалагічная») ягоная рэакцыя, гэта не разумны арганізм, гэта маса, якая ні за што не адказвае. Трэба з натоўпу выбіраць аднаго-двух — «сваіх», людзей свайго ўзроўню, а не апускацца самому да ўзроўню натоўпу. У рэшце рэшт, пішы толькі для сябе (можа, гэта адзіная філасофія для творцы, якая выключае ўсякую кан'юнктуру). Адзін чытач, у якога над кнігаю працуе галава і душа, варты сотні тых, для каго кніга — толькі марная (у лепшым выпадку — займальная) трата часу. Масавая культура, на маё перакананне, шкодная для душы з'ява (тым болей, што яна распаўсюджваецца пераважна на моладзь), але яна **павінна быць** як процівага сапраўднай культуры, як цьмяная лямпачка побач з яркім пражэктарам. Як параўнанне — што лепей здалёку відаць і што глыбей пранікае ў пацёмкі. Яшчэ адна асаблівасць «маскультуры» — яна хутка надакучвае, «прыядаецца», нават раздражняе (імунітэт ад яе?), а сапраўдная цяжэй даецца, ды заўсёды патрэбна — як хлеб, як вада, як збавенне ў вэрхале і хаосе будзённшчыны.

Кожнае пакаленне — дзіця свайго часу, якому ісці далей. І яно «агрэсіўнае» не столькі дзеля свайго сцвярджэння, колькі дзеля адмаўлення папярэднікаў. Вось чым тлумачыцца схільнасць маладых падганяць літаратуру пад **сваё пакаленне,** пад ягонае ўменне і густ. А літаратура, між іншым, павінна **натуральна** вырастаць з жыцця народа.

3. Рынак — аб'ектыўная катэгорыя для эканомікі, для духоўнай сферы яна суб'ектыўная. Калі рынак разумець як чарговую кан'юнктуру — гэта кепска, бо яна нічым не лепшая, чым кан'юнктура ідэалагічная, а, можа, у чымсьці нават горшая. Калі разумець як свабоду — то гэта добра. Зноў-такі з агаворкаю, што свабода — гэта не «беспредел», далей, чым гуманізм, свабода ў мастацтве не сягае. Перабудова зняла з грамадства вуздэчку, якая скіроўвала зрок і слых творцы толькі на пэўную (дазволеную) сцежку, тым самым звужала сферу мастацкага даследавання, не дазваляла адкрываць новыя тыпы, асабліва з верхняй іерархіі, пранікаць у «цёмную» палову душы — мяўляў, у савецкага чалавека не можа быць заган, індывідуальных рыс, уласнага «я» (экзістэнцыялізм — буржуазная філасофія). І гэта ў той час, як літаратура — гэта тонкасці, гэта корпанне ў тонкасцях. Праўдзівае мастацтва — шчыра аголеная і выстаўленая на суд людзей душа творцы (ты — як сколачак часу), да астатняга, да самых патаемных

Алесь **АСТАШОНАК**

# «Няма жанраў благіх, апрача нуднага»

1. Творца ў любы час, ці «міжчассе», ці «бясчассе», абапіраецца толькі на сваё сумленне, талент ды веру, якія не прыстасоўваюцца ні да якіх ідэалагічных альбо матэрыяльных акалічнасцяў, а проста жывуць у ім.

Згадайма гогалеўскі «Партрэт» з лёсам мастака Чарткова: «Глядзі, брат, ...у цябе ёсць талент; грэх будзе, як ты яго загубіш... Глядзі, каб з цябе не выйшаў модны жывапісец...» Жудасны канец напаткаў нябогу: «Нічога таксама не маглі знайсці ад велізарных ягоных багаццяў; але, убачыўшы зрэзаныя шматкі тых высокіх твораў мастацтва, цана якіх перавышала мільёны, зразумелі жахлівае іх скарыстанне».

Другая частка пытання.

«Хто не пакахаў у траўні, не пакахае і ў верасні»—японская прымаўка.

Ні Пташнікаў, ні Казько, ні Разанаў, ні Галубовіч па інерцыі ніколі не пісалі.

2. Дзеля пачатку трэба акрэсліць, што ж гэта за дзіва такое — «масавая культура».

Ёсць «Анжэлікі» і «маёры Проніны» —і ёсць адмысловыя народныя чытанкі. У грандаў «маскульту», да прыкладу, Жапрызо, Буало з Нарсэжакам ёсць адметныя творы. Былі яны, дарэчы, і ў заснавальніка дэтэктыва Эдгара По, і ў бацькі вестэрна Фенімора Купера, і ў мэтра рамана «плашча і шпагі» Дзюма, якіх, жывi яны цяпер, многія нашы крытыкі ды літаратуразнаўцы, апантаныя прыхільнікі суцэльнае роднае-народнае літаратуры вёскі ды вайны, «ничтоже сумняшеся» залічылі б у «маскульт».

Мы маем велізарную патрэбу ў добрых народных чытанках — як у глытку свежага паветра ў задуху, калі хочам найхутчэй павярнуць да сябе беларускага чытача. Аднымі Купалам ды Мележам з іхнімі паслядоўнікамі, пры ўсёй нашай бясконцай да іх пашане, яго да нас не павернеш, і хто зацята верыць у адваротнае—цешыцца шкоднай развіццю нашай культуры ілюзіяй.

Дужа вялікай частцы нашага народа ў паваросе ад слова расейскага да слова роднага патрэбны масткі. І першыя дошкі ў першым мастку заклалі Караткевіч, Тарасаў, Арлоў, Дайнека, Іпатава, Чаропка. Патрэбныя цяпер іншыя масткі. Таму я шчыра вітаю намаганні Максіма Клімковіча і Міраслава Шайбака праклacці масток дэтэктыўны. А спробы гэта ці ўжо самыя сапраўдныя здабыткі, вырашыць час. Асабіста я ўпэўнены: гістарычная дэтэктыўная аповесць М. Клімковіча «Пераможцы», надрукаваная ў самых першых нумарах «Крыніцы» і «Родника» (1988),— твор сапраўднай літаратуры.

Чакаю прыходу «пракладчыкаў масткоў» у жанрах фантастыкі, меладрамы, нарэшце, эратычных раманах **ды навелы.** Чаму ў беларусаў не можа з'явіцца свой Д. Г. Лоўрэнс з раманам не горшым за «Каханка лэдзі Чатэрлэй» — аднае з самых знакамітых кніг XX стагоддзя, прызнанай пасля шматгадовых скандалаў ды судовых працэсаў класічным творам ангельскае літаратуры?

Але як давесці літаратурным цэрберам, што пісаць дэтэктывы ды фантастыку, не кажучы ўжо пра спробы наследавання Бакачча, не значыць псаваць густ?

У нармальнай літаратурнай атмасферы такое пытанне — абсурднае. Аднак у нашых варунках прыходзіцца згадваць Уэлса ды Конан-Дойля і падкрэсліваць да смешнага простую ісціну: «Няма жанраў благіх, апрача нуднага».

Нам неабходна добрая крытыка, якая ставілася б зычліва да нязвыклых у нашай літаратуры накірункаў і ўмела б аналізаваць іхнія здабыткі і правалы. Яны ў нас ёсць, вядома, але пакуль што дужа нешматлікія.

Элементарныя дый не надта смелыя спробы абнавіць форму ды змест нярэдка сустрака-

куфэрачкаў. І зрабіць гэта вельмі цяжка, бо ўсё перашкаджае. І наяўнасць геніяльных твораў — апускаюцца рукі: лепш не напішаш. І пасрэдная літаратура — таксама кепска, бо расслабляе: і не такое, як у мяне, друкуюць. Можа, з гадамі, з набыццём вопыту лягчэй становіцца пісаць? Не, наадварот. Чым болей зразумееў, спасцігнуў, тым цяжэй даецца чарговая прыступка. І яшчэ парадокс: чым большы талент, тым болей перашкод (творчых, сацыяльных, палітычных, сямейных) ён сам жа сабе стварае. Але — супраціўленне гэтым перашкодам і нараджае ў пісьменніка думкі, пачуцці, ідэі, эмоцыі, стыль паводзін — тое, што можна назваць зместам душы. Гэты змест і дыктуе адпаведную форму, а не наадварот, як у рамястве — змесціва заліваюць у форму. Нецікавая твая душа — нецікавыя і героі. Няма прываблівага зместу, будзеш высільвацца на фармальныя пошукі, каб імі прывабіць.

Форма ў адрозненне ад зместу — гэта не тварэнне прыроды (Бога, космасу—кажучы сучаснай тэрміналогіяй), гэта штучнае тварэнне халоднай логікі, таму любая фармальнасць выпадае, «тырчыць» з натуры, праўдзівасці, і яе наўмысная эксплуатацыя не можа прынесці якойсьці бачнай карысці. Трэба пісаць характары, і твор сам (заўсёды з цяжкасцю) выкіруе на прыдатную дарогу, запаліць наперадзе «маячкі» выйсця. Форму нельга выдумаць, хоць часта здаецца, што яе менавіта выдумаў; яе можна толькі аб'ектыўна адкрыць у сабе, з усяго комплексу фізічных, псіхічных, душэўных, этычных якасцей (нават адхіленняў). І тут нідзе не дзенешся ад нацыянальнага — таго, што не вытруціш і не заменіш ніякім гвалтам, што ёсць ад Бога. Боскае непадуладна чалавеку, бо яно сцверджана дзеля гармоніі, дзеля трываласці Сусвету. Калі выпадзе хоць адна «цаглiна» — гэта пачатак планетарнага разбурэння.

Улічваць новыя павевы, «рыначныя» густы можна ў той меры, у якой **новае** наша жыццё адкрывае (а яно адкрывае!) **новыя** тыпажы, «падказвае» іх, рассоўвае абрысы вычарчанага ідэалогіяй круга. Усё астатняе ў творчасці, у яе мала зразумелых законах застаецца ранейшым.

---

юцца ў штыкі або, найчасцей, увогуле ігнаруюцца. Справа сацыялістычнага рэалізму ўсё яшчэ жыве і нават перамагае.

3. Чаму — «чужыя»? Будзем зноў вынаходзіць кола, схаваўшыся ў пограбе? Возьмем за ўзор албанскі лад развіцця? Ды былі ў нас, былі ўжо дзесяткі гадоў таму Багдановіч з Гарэцкім, Дубоўка з Жылкам ды Мрыем!

Калі быў дрэнным фармальны пошук?

Прыходзіцца даваць банальны адказ. Трыялеты і рондa Багдановіча, «Люстрадзён» Гарэцкага, рытмізаваная проза Чорнага, «Смаленне вепрука», «Адзін лапаць і адзін чунь», «Загадка Багдановіча» Стральцова, «Дзікае паляванне караля Стаха», «Ладдзя роспачы» і «Хрыстос прызямліўся ў Гародні» Караткевіча, паэмы Разанава — хіба не вылучаюцца і фармальным пошукам таксама? Хоць, вядома, найперш гэта пошук душы.

Дапускаю «эксплуатацыю» — да пары да часу, натуральна — добра вынайдзенай формы, калі яна, дзякуючы вартасцям сваім, становіцца моднай. Бо гэта ўжо не эксплуатацыя, а заглыбленне творчасці.

...І ўсё ж такі зведаем мы на поўніцу жудасны ўплыў і бязлітасных да духоўных каштоўнасцяў законаў рынку, і ўсяго нашага папярэдняга вар'яцкага існавання, якое трывала ўжо сфармавала густы дзесяткаў мільёнаў часта ні ў чым не вінаватых людзей.

Але заўсёды ёсць у мастака хоць які-небудзь стол і надзея.

---

**СПРЭЧКІ, ПАЛЕМІКА**

# «ВЯЛІКАЯ ТАЎТАЛЁГІЯ»

Да ўсяго звыкліся мы ў літаратурным жыцці за савецкім часам. І да таго, што нашы творчыя дыскусіі замест сутыкнення канцэпцый, ідэй, падыходаў зводзяцца да лупцавання апанента і абвінавачвання яго то ў класавай варожасці, то ў нацыяналізме (касмапалітызме), то ў семітызме (антысемітызме), то ў кансерватызме (экстрэмізме)... І да таго, што яны адбываюцца па ўзору класічнага дыялога: дурань — сам дурань... Але каб апанента падазравалі ў... сексуальных адхіленнях, такога, па-мойму, яшчэ не было. Францішак Эн. у «Лістах пра сучасную літаратуру» («Наша Ніва», № 3) рушыць і гэты апошні маральны бар'ер. Далоў прыстойнасць! Калі свабода, то ва ўсім. Вунь у Еўропе «адно з найбольш ужываных у літаратурных дыскусіях слова «аргазм», а мы ж таксама не ў лапаць смаркаемся. Якія гарызонты адкрыюцца перад літаратурнай крытыкай, а якія тыражы! Праўда, па першым часе яшчэ шкодзяць рэшткі беларускай сарамяжлівасці, і сваё крытычна-эратычнае эсэ Францішак Эн. пачынае нібы ад імя «геніяльнага дэструктывіста Жака Дэрыды».

«Мне нават страшна ўявіць, як бы ён праінпрэтаваў вашы «стылёвыя пошукі», — запалохвае Францішак Эн. свайго апанента Людмілу Корань, аўтара артыкула «Агрэсія формы» («ЛіМ», 6.IX. г. г.). «Напісаў бы тэкст, — напрыклад, «Агрэсія крытыкі», дзе б абвінавацiў Вас у тым, што Вы... як гэта сказаць... «паймелі» ўсю маладую беларускую прозу.

Ваш стыль (яны кажуць — дыскурс) стаў бы адназначна «аргазьмістычным», а цытата са Стаха Дзедзіча пра зьгінаньне й разьгінаньне, стогны й варушэньне, цёплае і ліпкаеназаўсёды ўвайшла б у эўрапейскі эратычна-філязофскі канон».

Не ведаю, ці захацеў бы прад'яўляць аўтарскія правы на такі, з дазволу сказаць, «тэкст» «пакуль жывы» Жак Дэрыда, ці згадзіліся б яго «экспертаваць» патрывожаныя вялікія прывіды Джойс, Кафка, Дастаеўскі, Эдгар По, Мілаш Форман, а таксама Юнг, які, з ласкі крытыка, «перакульнуўся ў дамавіне». А вось сапраўдным нашаніўцам Купалу, Ластоўскаму, Луцкевічам наўрад ці будзе спакойна спацца, калі пад назвай «Наша Ніва» з'яўляецца ўзор цынічнай бульваршчыны. Да таго ж, яны б ніколі не дазволілі сабе абразіць жанчыну, нават калі яна — крытык.

Тым больш, што артыкул Л. Корань не дае падстаў для такога двухсэнсоўнага прачытання і інтэрпрэтацыі. Вядома, крытык-пурытанін мог бы і не цытаваць Стаха Дзедзіча, а, заплюшчыўшы вочы, хуценька перагарнуць старонкі, далей ад граху. Але што рабіць рэдактарам, наборшчыкам, карэктарам, якія абавязаны ўчытвацца ў кожную літару? «Вернемся ў Эўропу»,—заклікае чытача Францішак Эн. пасля свайго «аргазьмістычнага» пасажу. Даруйце, але калі гэта — Еўропа, то мне чамусьці хочацца ў Азію.

Што ж так разгневала Францішка Эн. у артыкуле «Агрэсія формы», што ён забыўся на шляхотнасць і прыстойнасць? Людміла Корань (а не Людміла К., як абзывае яе апанент), аналізуючы стылёвыя пошукі маладой беларускай прозы, вылучае плённую тэндэнцыю звароту да еўрапейскіх і сусветных форм, вобразаў, матываў, архетыпаў. Аднак, лічыць яна, некрытычнае і неглыбокае іх засваенне, не спалучанае з яркай творчай індывідуальнасцю нацыянальнай угрунтаванасцю аўтара, «часта не выходзяць за рамкі вучнёўства, калі форма «заглынае» практыканта. Штудыі маюць сваю вартасць, проста не трэба блытаць наша банальнае вучнёўства з наватарствам». Трывога крытыка, на мой погляд, слушная і недарэмная. Тым больш, што яна даказвае сваю думку шляхам канкрэтнага аналізу твораў.

Францішак Эн. не згодзен. Гэта яго права. Але ж якія аргументы ён прыводзіць, акрамя ўжо згаданых?

Аргумент першы, класічны ў сваёй прастаце, цытую: «Так не бывае». Намер беларусізаваць еўрапейскія і сусветныя жанрава-стылёвыя формы не можа быць матывацыяй творчасці. Напэўна, не можа, бо не можа быць ніколі? А вось адзін паэт пакінуў прызнанне, што ў творчасці, апрача ўсяго іншага, ім кіравала «жаданне прышчапіць да беларускага пісьменства здабыткі чужаземнага паэтычнага труда, памагчы атрымаць ёй больш еўрапейскі выгляд». Так пісаў Максім Багдановіч, бо не лічыў такую матывацыю творчасці прыземленай ці заганнай у адрозненне ад сучасных маладых празаікаў, якімі кіруюць, па словах Францішка Эн., такія высокія матэрыі, як «магчымасць быць Пратэем», або «досьвед «трывожнай дзіўнасьці сьвету». Адно другому не шкодзіць.

Другі аргумент гучыць як філасофская сентэнцыя: «Літаратура — гэта Вялікая Таўталёгія». Ён мне так спадабаўся, што, з дазволу Францішка Эн., выношу яго ў загаловак. Гэта ж крыніца мудрасці, і прытым невычэрпная. Па гэтым ўзоры можна ствараць безліч афарызмаў, якія, як і згаданы, нельга аспрэчыць, бо ён нічога па сутнасці не значыць. Напрыклад, «Літаратура — гэта Вялікая Непаўторнасць». Галоўнае—слова Вялікая пісаць з вялікай літары.

Вычарпаўшы аргументы, Францішак Эн. пачынае шукаць у артыкуле Корань «праколы» ў «канкрэтных аналізах праз увесь тэкст», каб злавіць апанента на няведанні замежнай літаратуры. Хоць, калі б і ўдалося злавіць, ці было б гэта доказам заганнасці яе канцэпцыі? Напрыклад, лічыць аўтар «Лістоў...» (дакладней, ліста), нельга параўноўваць апавяданне Мінкіна «Карова» з творамі Голдзінга ці Оруэла, бо яны адрозныя па стылі, да таго ж апошнія «ніколі не былі апавядальнікамі». Але ж крытык суадносіць іх не па стылі або жанры апавядання, а па схільнасці да літаратурнай антыутопіі. Або наступны «пракол»: аўтараў зборніка маладой прозы «Перад маімі вачыма» нельга суадносіць з Кэнам Кізі, бо ў яго творы (відаць, маецца на ўвазе «Над зязюліным гняздом») «здаровыя людзі пераконваюць здаровых, што яны вар'яты, а ў нас тое самае спрабуюць зрабіць хворыя». Выбачайце за «дыскурс», але не бачу розніцы, савой аб пень ці пнём аб саву.

Адным словам — дробныя нейкія закіды. Можа, таму, што артыкул «Агрэсія формы» ўспрымаецца надта сур'ёзна. Я ж бачу ў ім добрую долю літаратурнай гульні, а менавіта «гульні ў класікі». Ну хіба можна ўспрымаць літаральна спалучэнні імён: Мінкін — Оруэл ці Голдзінг, Наварыч — Фолкнер, Юры Станкевіч — Мілаш Форман, або асацыяцыі эратычных абразкоў Глобуса з Дэкамеронам і «архетыпамі Заходняга або Усходняга Адраджэння». З непрывычкі аж дух займае! Такое ўражанне, што далучэнне да класічнай традыцыі крытыку, таксама як і маладым аўтарам, не заўсёды на карысць. Так што артыкул Л. Корань, нягледзячы на грозную назву, па-мойму, больш кампліментарны, чым агрэсіўна-крытычны.

Але якую ж канцэпцыю ці хаця б якія думкі пра маладую прозу ў адрозненне ад заганнай канцэпцыі Л. Корань прапануе Францішак Эн.? Здаецца, у палемічным запале ён на асноўны прадмет спрэчкі ўвогуле забыўся. Ва ўсякім выпадку, я знайшла толькі адну фразу пра зборнік «Перад маімі вачыма»: «Усе тэксты (за выключэннем А. Федарэнкі і Ю. Станкевіча, якія гвалтам усаджаны ў кнігу рэдакцыяй «Маладосці») гарадзкая дакументалістыка. На жаль». Цікавае назіранне, але ці ведае аўтар, што такое дакументалістыка і чым яна адрозніваецца ад белетрыстыкі. «На жаль», апісальнасць і бытавізм — гэта далёка не дакументалістыка. Дакументалістыка, у маім разуменні гэта «Я з вогненнай вёскі» Адамовіча, Брыля і Калесніка, творы Святланы Алексіевіч, — рэчы, якія прынеслі беларускай літаратуры сусветную вядомасць. Дай Бог, каб у нас з'явілася такая «гарадзкая дакументалістыка».

Не прэтэндуючы на канцэптуальнасць, я назвала б тое, што адбываецца ў маладой беларускай прозе, «постсацрэалізмам». Ідзе адштурхоўванне ад усяго, што нагадвае сацрэалізм, змена знакаў: ідэальны герой—антыгерой; жыццё, якое яно павінна быць у перспектыве камуністычнай будучыні, — рэчаіснасць, якая ёсць, часта без адзінага прасвету, з яе абсурдам, «парнухай і чарнухай»; непрыняцце шкодных заходніх «ізмаў» — іх актуальнае, загладнелае засваенне (аб чым піша Л. Корань); забарона пазарэальнасці і містыкі — перанасычанасць ёю (у зборніку «Пад знакам Стральца» і характар героя загалоўнага апавядання складзены па гараскопе, лёгка і проста). Усё гэта, мабыць, нармальна — як вакцына супраць «саўковасці», як пераходны этап да стварэння новай беларускай літаратуры.

Будзе яна сапраўды беларускай ці, як казаў у свой час Багдановіч, «пісанай беларускай мовай»? Шырокавядомай ці правінцыйнай, хоць і павярнуўшыся тварам з Усходу на Захад?

Звернемся да вопыту класіка, які на пачатку стагоддзя пазначыў тры шляхі нацыянальнай літаратуры, — да сусветнага мастацтва, да фальклору, да старажытнай беларускай культуры, маючы на мэце, паназіранні І. Дварчаніна, «вытварэнне новага сусветнага стылю». Не менш!

Інакш навошта нам вяртацца ў Еўропу? У якасці літаратурнага антыкварыяту? Ці літаратурнага «пыласосу», што падмятае ўсё без разбору, у тым ліку ўзоры маскультуры, як савецкія турысты падмятаюць за мяжой залежалыя рэчы?

Так што, можа, варта прыслухацца да засцярогі Л. Корань больш спакойна? Вядома, не ўсім даспадобы крытычны і патрабавальны тон яе артыкула, тым больш калі ён закранае маладых аўтараў «Нашай Нівы» асабіста. Старое як свет «Не руш нашых!» чуецца за мадэрновай слоўнай эквілібрыстыкай і феерверкам славутых імён. А вышэй на той жа паласе «Нашай Нівы» даецца і ўзор, як трэба пісаць пра «нашых»: «Учора прачытаў № 2 Нашае Нівы. Гэта — літаратура». Або: «Што ты прачытаў за апошні час ці чытаеш зараз? — Нашу Ніву. — А яшчэ? — А яшчэ ёсць што вартае чытання?» Вось так, недалужныя вы крытыкі і крытыкесы! Не забывайце, што змяняюцца «кратыі», назвы, стылі, а чалавечая прырода — нязменная. І маладыя літаратары хочуць быць славутымі і «выдаюшчымі» не менш за літаратурных генералаў. Усё вяртаецца на кругі свае. Як казаў вядомы незнаёмец Францішак Эн., «Вялікая Таўталёгія».

**Тамара ЧАБАН.**

---

# Ён з намі—Уладзімір Караткевіч

Летась Беларусь урачыста адзначыла 60-годдзе з дня нараджэння аднаго з самых слынных сваіх сыноў Уладзіміра Караткевіча. Цэнтрам правядзення ўрачыстасцяў стала родная і асабліва дарагая пісьменніку аршанская зямля. Грамадскасць Оршы выказала пажаданне штогод адзначаць дзень нараджэння свайго знакамітага земляка. Гэтую прапанову падтрымалі ў аддзеле культуры гарвыканкома, шэраг арганізацый і грамадскіх згуртаванняў. Таму і прайшлі сёлета ў Оршы Караткевічаўскія чытанні. Галоўным мерапрыемствам іх стаў вялікі вечар, які адбыўся ў Палацы культуры льнозавода. У ім прынялі ўдзел пісьменнікі У. Дамашэвіч, Я. Міклашэўскі, П. Місько, В. Шымук, Д. Сімановіч, А. Жалязоўскі, артысты Т. Мархель, П. Ламан, А. Лабанок, Р. Шацько. Гучалі творы У. Караткевіча, гаварыліся спагадныя словы пра яго як пра чалавека і творцу. Нагадвалася, што ягоныя творчыя пуцявіны сёння паспяхова абжываюцца іншымі літаратарамі, якія выступаюць у жанры гістарычнай прозы.

У аршанскай сярэдняй школе № 3 госці з цікавасцю пазнаёміліся з экспазіцыяй народнага музея У. Караткевіча, што створаны па ініцыятыве настаўніцы Л. Радомскай. Лілія Дзмітрыеўна расказала пра падзвіжніцкую работу педагогаў і вучняў па зберажэнні памяці земляка. Пісьменнікі з Мінска сустрэліся з вучнямі старэйшых класаў у СШ № 19.

Вечар паэзіі «Душы маёй цеплыня — аршанцам» прайшоў у Доме культуры машынабудаўнікоў. У цэнтральнай гарадской бібліятэцы імя А. С. Пушкіна была аформлена выстаўка-агляд «Усё пачынаецца з кахання». У кінатэатры «Перамога» дэманстраваліся мастацкія фільмы «Дзікае паляванне караля Стаха» і «Маці Урагану», а таксама дакументальныя стужкі «Полацкая жамчужына» і «Ефрасіння Полацкая».

І апошні штрых. Грамадска-палітычная «Аршанская газета» выходзіць з караткевічаўскім дэвізам «Мой чароўны беларускі край, Бацькаўшчына светлая мая!»



Выступае Уладзімір ДАМАШЭВІЧ.

**Тэкст і фота Уладзіміра КРУКА, спецыяльнага карэспандэнта «ЛіМа».**

*Андрэй Федарэнка*

# ПЕЛЯ

*апавяданне*



ГАДОЎ сем назад здарыўся са мною выпадак, пра які чамусьці нават успамінаць было сорамна.

Стаяў ліпень. Я толькі што здаў сесію за першы курс інстытута і праз некалькі дзён павінен быў ехаць у сельгасатрад, у Крым, а пакуль сядзеў у сваёй вёсцы і нудзіўся. Не ведаючы, куды сябе прыткнуць, я ці чытаў, ці ўключаў сярод белага дня тэлевізар, ці проста сноўдаўся па двары, пакурваючы,— і, як Богу, не таму, што ў Мінску зрабіўся нейкім канчаным лодырам. У першы ж дзень я спрабаваў быў падступіцца да чаго-небудзь, хацеў перасыпаць стары плот, паднавіць паўразвалены куратнік, але ўсё аказалася такім спарахнелым, што стала зразумела — пацягні адно, паваліцца другое. Тут трэба было капітальнае абнаўленне, новыя шулы, жэрдкі, дошкі, трэба быў час — месяц, а то і болей, каб хоць трохі давесці да ладу, а інакш лепш і зусім не брацца.

Мяне цягло ў Крым, дзе я ніколі не быў, да пальмаў, кіпарысаў, мора, на магілу Багдановіча, мне хацелася, каб і «мой цень лёг на гэтыя святыя камні»... А тут? Што я, не бачыў гэтага бульбоўніку, буракоў, гэтага лесу, які падлез пад самыя соткі і ў якім я, здавалася, ведаў кожнае дрэўца?..

І толькі калі надышоў доўгачаканы апошні дзень (сімферопальскі цягнік спыняўся на пару хвілін на станцыі каля самай вёскі), мне зрабілася неяк настальгічна, сумна; зусім новымі вачыма я аглядаў двор, загоны, куратнік, да якога так і не дайшлі рукі,— глядзеў і шкадаваў, як жывое... Я вось паеду, шмат што ўбачу, а гэта ўсё так і будзе тут. Мне захацелася расцягнуць гэты настрой развітання, прайсціся па знаёмых мясцінах, па лесе, а калі ўдасца, дык і палавіць рыбкі.

Матка была ў ягадах, але я вырашыў не пакідаць ніякай запіскі. Навошта? Гадзін у дзевяць-дзесяць вечара вярнуся, хопіць часу сабрацца, пачытаю да ночы, а потым у цягніку, буду адсыпацца. Я пераапрануўся ў сваё старое вайсковае адзенне, капануў пахуткаму чарвякоў, запіхнуў у кішэню вудку і пайшоў па любімым сваім маршруце — на Ткачовае балота, якое кіламетры за чатыры ад вёскі.

Было гадзін шэсць вечара. Грэла мяккае сонца, лёгка і прыемна ішлося лясной, нявыбітай машынамі сцежкаю; я злавіў, нарэшце, свой рытм: час больш не скакаў, не цёгся да раздражнёнасці нудна, а плыў неяк суладна маім крокам. Пахі ляснога долу, верасу і чарнічніку былі ў суладдзі з птушыным шчабятаннем, з нязыркім сонцам, з шорганнем кедаў па лясной дарозе — і доўгачаканая гармонія прыходзіла і ў думкі. Я адчуваў сябе: вось я ёсць, я — жыву, усё ідзе цудоўна, я вучуся, а значыць, на некалькі гадоў ці нават назаўсёды выбраў сабе жыццёвую лінію; я прайдуся па цудоўным лесе, палаўлю карасёў, а потым цягнік паімчыць мяне да дзівосных берагоў, пра якія столькі наслухаўся і начытаўся.

Неўпрыкмет я дайшоў да таго месца, дзе трэба было паварочваць на балота, але нідзе не аказалася ні сцежкі, ні ходу, ні следу. Я чуў, што балота амаль высахла, але каб так, што нават дарогі да яго пазарасталі... Паўсюль быў самы звычайны лес, з ягаднікам, з высокімі кустамі буякоў. Не без страху—помню, колькі тут было гадзюк — падзёрся я праз гэтыя буякі і неўзабаве набрыў на палянку, дзе мы колісь, малыя, калі ездзілі «лісапетамі» на рыбалку, палілі вогнішча і абедалі. Пазналі не вочы, а ногі, яны самі спыніліся. Вось тут некалі быў бераг, ад гэтай бярозы пачыналася вада і мы закідвалі адсюль вуды... Цяпер толькі высахлы суцэльны мох пад нагамі паказваў, што я не заблудзіўся, што некалі тут было балотнае дно. Я пайшоў па гэтым імху далей, бярозкі пакрысе радзелі, трава гусцела, усё больш пачало трапляцца сухастояў, аж пакуль не ўбачыў авальную, дыяметрам у кіламетр, нізінку, усю ў купінах, параслую асакою і сям-там крывымі нізенькімі дрэўцамі. Ад такога вялікага некалі балота асталася, як у нас называюць, пеля. З усіх бакоў ціснуў на гэтую пелю лес, наступаў, займаў яе тэрыторыю, і было відаць — яшчэ некалькі гадоў, і пелі — хана.

Я выламаў дзве раўнейшыя алешынкі: адну пад вудзільна, другую, каб апірацца, і па купінах, падмінаючы пад ногі асаку, хвілін за пятнаццаць дабраўся да вады. У самым цэнтры пелі была невялікая праваліна, мініяцюрнае, але, відаць, вельмі глыбокае возерка, у якога берагамі былі купіны. Але варта было мне спыніцца, пару разоў злёгку прытупнуць, як падманныя берагі гэтыя зачмокалі, расквасіліся, неяк аселі, і ногі па костачкі аказаліся ў іржавай, халаднючай вадзе. Добра, што метраў за колькі, каля самай вады, расла цімалая алешынка з астраўком вакол каранёў. Дабраўшыся да яе, я гэты астравок абтупаў, падвесіў на галіну сетку пад рыбу, прытапіўшы палавіну ў вадзе, прывязаў да сваё палкі вудку — і гатоў.

Вада была нават не цёмная, а чорная, як нафта, зацягнутая каля берагоў трохліснікам і жабурыннем, але ў цэнтры чыстая. Я начапіў чарвяка і кінуў, праўда, няўдала, у самае жабурынне; да таго ж, відаць, грузік быў цяжкі, бо пацягнуў за сабою і перыну-паплавок. Я выцягваць... і ледзь не зляцеў сам, цудам паспеўшы ў апошні момант утрымацца за алешынку. Сарвалася! І нешта не абы-што!...

Папраўляючы чарвяка, я дрыжачым голасам мармытаў сам сабе:

— Вось дык цяжкі грузік! Гэта ж зусім, аказваецца, і не грузік...

На гэты раз я закінуў з вывертам, далей, наколькі дазваляла палка, у прасвет паміж трохліснікамі. Перына як падала, так і патанала. Я счакаў, падсек і па вадзе, не могучы падняць у паветра, падцягнуў да астраўка нешта чорнае, якое страшна было і цягнуць. Гэта быў балотны карась, нейкая помесь з лінём,— у іх чорная, дробненькая луска, самі доўгія, тоўстыя, з маленькімі чорнымі вочкамі. Праўда, у нас іх толькі сушаць на таранку, бо пахнуць балотам, і пах гэты не высмажваецца і не вываркваецца. Такіх я лавіў, і многа, але такога вось таўстуна — упершыню.

Я зразумеў, што напарваўся на нерушь, месца, дзе, можа, некалькі гадоў ніхто не рыбачыў. Карасі амаль не супраціўляліся. Хутка мне надакучыла механічна іх выцягваць і я пачаў дурачыцца — знарок спазняўся падсякаць, альбо несалідна, як чалавек, што ні разу ў жыцці вуды ў руках не трымаў, шморгаў тады, калі паплавок не паспяваў легчы на ваду... Бралася бездакорна. Неяк і не заўважалася, што сонца ўжо села, што ад купінаў падымаюцца камары і, самае галоўнае, што за туманам не відаць нават узлеску. Але было яшчэ зусім светла.

Пасля кожнага закіду я казаў сабе — гэтая, і ўсё, і, злавіўшы, думаў — ат, колькі там ісці! А такі клёў не так часта ў жыцці выпадае.

І вось гэты азарт, які робіць чалавека глухім да ўсяго, ледзь не пагубіў мяне. Вядома, я чуў і камароў, і цмоканне рыбы ў сетцы, і крумканне жаб, і іншыя гукі вечаровага балота, але здуру не даваў ім вялікай увагі, не дужа прыслухоўваўся і быў расслаблены. Між тым ужо хвілін колькі за спіною чуўся нейкі не балотны, чалавечы нейкі гук — быццам хтосьці набіраў у рот паветра і з сіпеннем выпускаў праз сціснутыя зубы.

З купіны проста на мой астравок перапаўзала метровая чорная вяроўка — добра помню, што без усялякіх жоўтых вушак.

— Ц-с-с!

Нас падзялялі паўметра.

Я цяпер веру, што ёсць у гэтых гадаў гіпноз, і я проста ў нейкай долі аказаўся паралізаваны, бо стаяў і не мог зварухнуцца; але потым — забіце мяне, калі я ведаю, чаму!— зрабіў самае горшае, што можа зрабіць чалавек адзін на адзін з гадзюкаю — я тупнуў нагою.

Відаць, проста не прыйшоў яшчэ **той** мой час. Край астраўка, які і так ледзь ліпеў, на маё шчасце раптам, у адзін міг, адламаўся і я наўзнач боўтнуўся ў чорную, халодную прорву. Ногі не дасталі дна і блізка. Адразу ж і рукамі, і плячыма, і шчакамі я адчуў густую, вязкую мякаць. Агіда ды плюс халодная вада і памаглі мне скінуць гіпноз. Я схапіўся мокрымі пальцамі за пук травы, за мяккі бераг, які адрываўся, бы гліна, але ўрэшце намацаўся і корань, па якім я досыць лёгка выкарабкаўся на свой корч. Ззаду булькала растрывожаная пеля, нясло балотным смуродам, на мне вісела жабурынне, карэньчыкі, камякі гразі, з парэзаных пальцаў цякла кроў, але тое, што я толькі цяпер заўважыў, прымусіла мяне забыцца і на гэта, і нават на гадзюку, якая, можа, сядзела дзесьці побач.

Туман — густы, сівы — уладна насунуўся на балота і схаваў не толькі ўзлесак, але і бліжэйшыя кусты. То-

**ПУБЛІКАЦЫІ**

**Прачытаў успаміны Сяргея Грахоўскага пра Сядуру-Глыбіннага, надрукаваныя ў № 37 «Літаратуры і мастацтва». Лічу сваім абавязкам удакладніць наступнае.**

**«...нейкі невялічкі часопіс», як піша Сяргей Іванавіч, — гэта «Новы шлях», выдаваны ў 1943-44 гадах, галоўным рэдактарам якога і быў Уладзімір Сядура.**

**Пра сцвярджэнне, што «...Глыбінны — псеўданім, набыты за мяжой». Думаю, яно супярэчыць фактам, паколькі рэдактар «Новага шляху» У. Сядура, змяшчаючы ў сваім выданні ўласныя матэрыялы, яшчэ тады падпісваў іх псеўданімам «У. Глыбінны», альбо проста ініцыяламі «У.Г.»**

**Дарэчы, «Новы шлях» быў даволі сур'ёзным часопісам, калі браць пад увагу ўмовы ваеннага часу. Афармляўся ён з густам і меў сваім заданнем нацыянальнае адраджэнне, асноўную яго плошчу займала тэма Беларушчыны.**

**Для фактычнага падмацавання сваіх заўваг прапаную адзін з артыкулаў У. Глыбіннага, які быў надрукаваны ў № 4 «Новага шляху» ад лютага 1944 года.**

**Славамір АДАМОВІЧ.**

# БЕЛАРУСКІ АРНАМЕНТ

Тканы і вышываны арнамент належыць да найбольш папулярнага беларускага народнага выяўленчага мастацтва. Ім пераважна і аздабляецца аднатонная тканіна, часцей даматканае палатно. Пагэтаму ткацкі і вышываны арнамент найбольш і спалучаецца з беларускай вопраткай—на сарочках, фартухах і андараках. Вышываны арнамент сваім малюнкам мала адрозніваецца ад тканага і ўзнік, напэўна, пазней тканага. Тут іголкай паўтараецца працэс ткання і вылічаюцца ніткі асновы, праз якія праводзіцца каляровая нітка. Але складанасць працэсу вытыкання складанага тканага ўзору патрабавала некаторых удасканаленняў да кроснаў, асабліва, калі быў патрэбны раслінны ці жывёльны рысунак. Пераход да вышывання пашырыў кола матываў і формаў арнаментыкі. Гэтаму спрыяла ў сваю чаргу запанаванне лягчэйшага спосабу вышывання крыжыкам над цяжэйшым старым тэхнічным спосабам вышывання гладзяй ці насціланнем. А вышыванне крыжыкам асабліва пашыралася з паловы 19 ст., калі ў гарадах распаўсюдзілася вышыванне на канве.

Беларускі арнамент наогул пераважна геаметрычны, складзены з ромбаў, паводле народнага назову, круга, і ягоных варыянтаў і частак. Ромб у арнаменце можа ўскладняцца ці змяняцца і тады рысунак атрымлівае адпаведны назоў— круг просты, гладкі, развілісты, круг скрыначкай, вагонцам, макаўкай, каравайчыкам, а ягоныя часткі называюцца крыжыкамі, казламі, лучкамі, лапкамі, крывулькамі і да г. п. На белым фоне арнаментальны ўзор робіць яркае ўражанне, а мастацкая спрактыкаванасць і густ удалым вар'іраваннем гэтых формаў і ўмелым карыстаннем іхнімі часткамі ды густоўна ўжыванымі колерамі нітак дасягае высокага артыстызму і мастацкай дасканаласці.

Але дарма, што шыты арнамент дае больш магчымасцяў для пашырэння расліннага і заалагічнага сюжэта і ў ім гэтыя матывы часцей спатыкаюцца, аднак і тут пераважаюць геаметрычныя формы арнаменту. І толькі ў контурах і лінейных вышыўках сустракаюцца моцна стылізаваныя раслінныя арнаменты. Гэта найчасцей вышыўка па графічным малюнку на палатне, асабліва на ручніках і ўпрыгожаных вышыўкай кажухах.

Мяккі, рахманы, чулы і вельмі паэтычны характар беларуса спрыяў апаэтызаванню ў ягонай багатай фантазіі і творчым уяўленні навакольных з'яваў і прадметаў і ператварэнню іх у з'явы мастацтва. Гэтак у беларускім негеаметрычным арнаменце знайшлі сваё выяўленне гэткія прадметы побыту і прыладаў працы, як сякеркі, барана, грэбні, занізкі, палачкі, ваконцы, грабелькі, каравай, калодзеж, кашэль, або раслінныя формы: грабавы ліст, елачка, макаўка, васілёк, кветка, вазон, кветнік, віткі, колас, сноп, лён і іншыя; заалагічныя формы: пчолка,

лькі пад нагамі нешта можна было яшчэ разгледзець. Я схапіў сетку з уловам — кілаграмаў восем — і злосна, рашуча ступіў на свой след. Усё адбылося так хутка, што не паспеў я ні спалохацца, ні адскочыць, як шахнуў па самыя пахі. Пад рукамі захадзіла ўжо знаёмая мяккая кашка. «А зоры тут ціхія... Спакойна, цяпер трэба не ўтапіцца!..» Патрошку мне ўдалося выцягнуць палку, якая старчака ўвайшла ў твань амаль уся, і хоць пакуль выцягваў, трохі апусціўся сам, але ўдалося пакласці палку ўпоперак. Здаецца, лягла на купіны. Падцягваючыся рыўкамі, я неяк спіною вылузаўся аж да пояса, потым штосілы рвануўся і аберуч ухапіўся за сваю алешынку. Выпаўз.

«Як жа я прайшоў?! Я ж сюдою прабіраўся! Спакойна, тут адно — не трэба спяшацца!»

Я, як змог, абчысціўся, абмыўся ржавай вадою і да болю ў вачах пачаў азірацца. На тым шляху, якім я дабіраўся да астраўка, цяпер чарнела гразёю ямка, і ў гэтай гразі ляніва плюхалі мае карасі, нікуды не ўцякаючы. Ну, нічога, Ісці, дзякуй Богу, ёсць кудою,— на ўсе тры бакі.

На гэты раз я пайшоў асцярожненька, прабуючы купіны, тыркаючы наперад палкаю. Раптам метры праз тры купіны зніклі і адкрылася роўная, зарослая зялёнай траўкаю дарога. Палка лёгка прабіла гэтую дарогу і боўтнула.

Вось гэта было ўжо сур'ёзна.

Я ўявіў сабе план гэтай пасткі, і на лбе выступіў халодны пот. Я стаяў у самым цэнтры пелі. Вакол досыць шырокай паласою, дзе адкрытая, дзе закрытая зверху машком, ляжала багна. Яна была ў форме падковы з вельмі вузенькім прасветам паміж краямі. Сюды мне неяк удалося прайсці гэтым прасветам, а цяпер ямка, з якой толькі што вылез, злучыла краі.

Магчыма, былі яшчэ хады, магчыма, было недзе вузкае месца, якое можна было пераскочыць ці нават пераступіць — але калі б гэта было ўдзень! А цяпер, калі не бачыш далоні перад носам?...

Яшчэ гадзюку можна было аднесці да выпадковасці. Але калі ўсё разам, адно на адно — гэта ўжо нешта больш сур'ёзнае, недаацэненае; быццам некаму не хочацца мяне адсюль адпускаць...

Ужо не было відаць ні вады, нічога. Я сядзеў пад алешынкаю, на астраўку, аб'едзены камарамі, атупелы, і мне здавалася, што гадзюка ззаду пракусіла мне спіну і смокча кроў. Я падняўся — калі была б гадзюка, адчуў бы цяжар,— памацаў. Тоўстая п'яўка, як шына, скручаная ў шар, цёплая, рабрыстая... З нагі адарваў яшчэ дзвюх.

З'ездзіў у Крым, палавіў рыбкі, прайшоўся па лесе!

Калі б я так папаўся дзесьці далёка, ды хоць бы дзе каля суседняй вёскі — быў бы адчай, была б агіда, але адчування нейкай трагедыі не было б. Гэтыя мясціны я ведаў з маленства, любіў іх і думаў заўсёды, што і яны мяне любяць, лічаць сваім. Не было тут сцежачкі, па якой я не хадзіў; каля гэтых пеляў зімою і летам мы секлі дровы, ганялі сюды тавар... Я ніколі не чуў ніякіх страшных гісторый, з гэтым балотам звязаных...

Стаяла ноч.

Час ад часу я ўсхопліваўся, хапаў палку, кідаўся то ў адзін бок, то ў другі... Палка лезла ў прорву. Твар распух ад камароў; ад іхняга звону, ад густога балотнага паху, ад укусаў п'явак і ад нерваў у мяне кружылася галава. Чужым, нейкім сіпатым голасам я пачаў гаварыць да балота:

— Ты хочаш, каб я тут здох... Але я выжыву, мне нават смешна!.. Я ж усё роўна за гэтую ноч не змянюся, ніяк яна на мне не адаб'ецца... Ты папсуеш матцы здароўя за гэтую ноч, паламаеш мне лета — вось і ўсё, самае большае... Але за тое я плюю на цябе, смурод, гадзючнік! Мала вас пасушалі! У мяне яшчэ ўсё наперадзе, я ўбачу новыя гарады, новае жыццё — я буду жыць, а ты — смярдзець тут, зарастаць, пакуль к чорту не высахнеш!..

У адказ мне толькі звінела, чмокала, булькала, і калыхаўся такі густы туман, што яго відаць было нават у цемры.

Раніца надышла надзіва хутка. Ужо ў сярэдзіне ночы без сонца пачало святлець, паменела камароў, зашчабятала птушка. Я змог разгледзець ваду, свае ногі, кусты. Пасярод пелі плавала вудка, ад якой разбягаліся дробныя хвалі — карась тармасіў... Здранцвелымі нагамі, паўз саменькую ваду, каля ямкі, якая ўчора ледзь не стала маёй магілаю, я выбраўся на свой учарашні след і хутка быў ужо на сухім беразе. На пелю мне не хацелася нават азірацца...

Цяпер, праз такі час, ужо не сорамна ўспамінаць, як каля самай хаты ўмудрыўся заблудзіцца і ледзь ацалеў. І не смешна. Пажыў я за гэтыя гады новым жыццём, пабачыў новыя гарады, нават у Крым з'ездзіў. А згадваюцца чамусьці не інтэрнатаўскія пракураныя скразнякі, не аднастайныя — на ноч — бязрадасныя п'янкі, не блуканні па чужых кватэрах, калі вымушаны не прызнавацца гаспадарам, што родам з Гомельскай вобласці... Пеля згадваецца.

Можна сказаць — ну і што, дужа нам цікавая твая настальгія па нейкіх балотах!

А я скажу — тым летам атрад наш быў расфарміраваны, бо на другі дзень па прыездзе, у Крыме, аўтобус, які падвозіў студэнтаў на працу, урэзаўся ў скалу. Адзін чалавек загінуў і два асталіся калекамі. Мог я сярод іх апынуцца? І калі гэта выпадковасць, дык што ж тады — наканаванне?

Радзіма мая... Няўжо і цяпер я яшчэ нешта значу для цябе, няўжо і цяпер ты абараняеш мяне ад нечага? Нашто ж ты ўсё часцей і часцей прыходзіш у думкі, ва ўспаміны, у сны, і так упарта, кожнай травінкаю з пасохлых пеляў — не адпускаеш?..

---

капытца, кажан, гусіныя лапкі, куркі, пеўнік, гусачка, валовае вока і г. д., часам чалавек.

У пабудове арнаментальных узораў пераважанне г. зв. формы бурдзюль, дзякуючы стройнаму і строга вытрыманаму рытму ў чаргаванні матываў, стварае яшчэ большае мастацкае ўражанне ад бясконцай паласы ўзораў на краю вопраткі, ручніка, абруса, хусткі, фартуха і г. д.

У беларускім народным арнаменце найбольш часта ужываным колерам з'яўляецца чырвоны і чорны на белым колеры палатна. У нашы часы гэта часцей фабрычныя папяровыя або шаўковыя ніткі.

Найярчэйшае выяўленне беларускі народны арнамент знаходзіць на ручніках і вопратцы.

У народным побыце ручнік заўсёды займаў паважнае месца. Ручніком штодзённа выціраюцца. Але ім і ўпрыгожваюць хаты. На найбольш пачэсным месцы ў хаце, вакол абразоў на покуце звычайна развешаны і вышытыя ручнікі. Яны— сведкі майстэрства рук рукадзельніцыжонкі ці дачок, яны ж паказваюць дзяўчыніны «залатыя рукі», што «тонка пралі, звонка ткалі ды размысна ўзор клалі». У народнай абраднасці ручнік зноў браў удзел: на ім вянчалі, ім падпяразваўся сват, ручнік займаў пэўнае месца ў нявесціным пасагу. Таму яго старанна аздаблялі і таму ў ім найбольш выразна і выступае мастацкае спалучэнне арнаменту з формай і ўжываннем самога ручніка. І цяпер сцены ў хаце селяніна звычайна ўпрыгожаныя ручнікамі.

Побач з ручнікамі нацыянальная вопратка дае таксама надта выразныя і дасканалыя формы і кампазіцыі народнага арнаменту. Паўней яны захаваліся ў жаноцкіх уборах (андарак, катанка ці кофта, сарочка, фартух і гарсэцік ці шнуроўка).

З асаблівай дасканаласцю накладаюцца ўзоры на полы, рукавы, манкеты (манжэты), каўнер кофты (катанкі), на фартух (часцей цалкам), вышываецца ўзор на безрукаўцы (шнуроўцы), а таксама на дзявоцкі галаўны ўбор — шырынку ці павязку. У мужчын арнаментуецца пераважна каўнер, манкеты, ніз і грудны разрэз палатняных кашуляў. Народ заўсёды з асаблівым замілаваннем упрыгожваў свае ўборы мастацкімі ўзорамі. Усе вышэйназваныя асаблівасці і характэрныя рысы беларускага арнаменту тут набываюць яркую выразнасць і тыповасць. Нацыянальная вопратка лепшымі сваімі адменамі становіць вышыні народнага арнаментальнага мастацтва, яркага і багатага фарбамі арнаментальнага рысунка.

**У. ГЛЫБІННЫ.**

---

**ВІНШУЕМ!**

Сёння вядомаму беларускаму паэту, аўтару многіх кніг паэзіі Міколу Маляўку—50 гадоў. «ЛіМ» жадае юбіляру здароўя і творчых здзяйсненняў.

**Мікола МАЛЯЎКА**



## Куды ідзём?..

Збірала партыя ў калоны,
Натхняла нас, бацькоў, старых і юных.
І мы крычалі, як вароны,
«Ура» — арлам дзяржаўным на трыбунах.

Лілася кроў ахвяр бязвінных,
А ў галаву ўбівалі з году ў год:
Народ і партыя адзіны —
І мусіў верыць партыі народ.

У камунізм вяла надзея,
І мы трывалі жорсткія законы:
Адтуль, з трыбуны Маўзалея,
Арлам відаць далей, чым нам з калоны.

За імем услаўлялі імя
У прывітальных рапартах і песнях,
А тых, хто не крычаў з усімі,
Дзяўблі пасля, як злосных адшчапенцаў.

І дакрычаліся, вароны,
Хоць адлятай у вырай за мяжу:
Арлы прыдумалі талоны
На кожны рот, на кожную душу.

Якія ж будуць заўтра змены,
Калі цяпер, у час перабудовы,
Ядуць чарнобыльскае сена
І п'юць атруту з мёртвых рэк каровы!

Хто будзе марыць і смяяцца,
Калі і ў самым чыстым сельсавеце
Ядуць чарнобыльскае мяса
І п'юць атруту з сырадоем дзеці!

Ці зможам злыбяды заразу!
Куды ідзём: назад ці ўсё ж наперад!
Пытанняў шмат. Няма адказу.
І мучыць нас няўпэўненасці верад.

Даўно пара спусціцца з неба
Арлам дзяржаўным... На людзей — надзея:
Глядзець у будучыню трэба
З зямлі, а не з трыбуны Маўзалея.

## Тое, што пасеялі, збіраем

Цяжка жыць нам...
Не спрыяючы дабру,
Цэны крута падымаюцца ўгару.

Знак бяды над родным краем.
Тое, што пасеялі, збіраем.
Даражэе нават чорны хлеб, шкада.
Дзякуй Богу, што бясплатная вада.
Так падумаў, а душа мая —
Шчыміць:
І ваду цяпер не ўсюды можна піць.
Радыяцыяй атручана зямля,
Рэкі і калодзежы каля жылля.
І дажджу не рады — уцякаем.
Знак бяды над родным краем.

Страшна жыць...
Баюся, заўтра сапраўды
Будзем мы плаціць і за глыток вады.

## Тайны страх

Бязвінных, не хапаюць нас, не душаць,
Не забіваюць ка́ты ў шынялях.
Свабодныя даўно... А ў нашых душах
Усё яшчэ жыве ён, тайны страх.

У трыццаць сёмы год вяртае памяць —
І цьмее сонца ў небе ясным днём,
І страх адразу ўспыхвае агнём,
Душу і цела — паліць, паліць, паліць...

Да тла не выгарае страх ніколі,
А тлее, як пад шэрым прыскам жар,
Не адпускае нас, сваіх ахвяр.
Свабодныя, жывём — як у няволі.

Заб'е інфарктам, астмаю задушыць —
І станем мы зямлёю, тленны прах.
Няўжо і потым, у бяссмертных душах,
Ён будзе жыць, праклáты гэты страх!

## Верш, напісаны на Купалле

Зямля, забытая Богам,
Спавіта калючым дротам,
Засеяна чартапалохам,
Чарнобылем і асотам.

Ад вогнішчаў не світае,
Ды ноч прыходзіць, як сведка:
У лесе маім расцвітае
Чароўная папараць-кветка.

Пайду і за цёмнай палянай,
Закляты, у пень абярнуся —
Ці з папараць-кветкай жаданай
У мёртвую зону вярнуся.

Палі зарунеюць вясною,
А потым — парадуюць плёнам:
Наўсцяж зашумяць збажынаю,
Зазвоняць, хвалюючы, лёнам.

З глыбінь першародна-здаровых
Заб'юць крынічныя лекі —
І чыстымі стануць дубровы,
Лугі заліўныя і рэкі.

Дзяцей шчаслівых убачу,
А не па іх — некралогі:
Ад лейкеміі і плачу
Яны ачуняюць, нябогі.

Тады і ўспыхнуць над краем
Купальскія вогнішчы ярка,
І мы на цымбалах зайграем,
І мы заспяваем... Ах, мары!

Спавіта калючым дротам,
Засеяна чартапалохам,
Чарнобылем і асотам
Зямля, забытая Богам.

## Чытаю Біблію

Чытаю Біблію ў садзе —
І ў неба вядзе дарога:
Зямной не верачы ўладзе,
Прыходзім нарэшце да Бога.

За пайку чорнага хлеба
Загаджвалі храмы, як стайні,
Зямлю адлучылі ад неба —
І ў небе не бачылі тайны.

Да поля класавай бітвы
Звужаўся свет неабдымны,
І мы замест малітвы
Спявалі партыйныя гімны.

І глухлі, выходзячы з дому,
І слеплі на плошчах людных
Ад барабаннага грому,
Ад бляску парадных салютаў.

Не ўтою, і сам я ў натоўпе,
Адпрэчыўшы споведзь-прычасце,
Паўвека ішоў да застою,
А думаў — да вечнага шчасця.

І вось пры матчынай хаце
Чытаю Біблію ў садзе —
Цалую святое распяцце,
Вучуся дабру і спагадзе.

На міг адарваўся ад кнігі —
І ўгору гляджу не слепа,
А позіркам звязваю, ціхі,
Зямлю дарагую і неба.

## Печ

Пагладзіш печы цела —
Халодная далонь:
У неба адляцела
Душа яе — агонь.
І печ у холад самы
Не дыхае цяплом —
Асірацеў без мамы,
Астыў без мамы дом.
Яна пад нашым дахам
Зімуе ў цеснаце,
Сумуе, печ згадаўшы,
Пры гарадской пліце.
Не ўседзіць гаспадыня —
Вясной сюды ўцячэ,
На кухні печ абдыме,
Халодную яшчэ.
Пагладзіць пры сустрэчы,
Заплакаўшы спярша,—
І зноў заб'ецца ў печы
Агонь — яе душа.

●

Месяц і снег — прыгажосць незямная.
Сплю я ці мару, здаецца,
Музыка ціхая льецца,
З гэтай жывой прыгажосцю яднае,
Мучыць мяне, ачышчае праз слёзы.
Лёгкі, не чую я цела,
Быццам душа адбалела,
Быццам душа паднялася ў нябёсы.
Дзе я! Чаму, як лунацік, блукаю!
Можа, душу сваю грэшную
Ў ноч гэту месячна-снежную
Тут, на зямлі, безнадзейна шукаю.

# «Абставіны залежаць ад мяне...»

### Некалькі пытанняў мастацкаму кіраўніку Брэсцкага драматычнага тэатра Уладзіміру КАРАТКЕВІЧУ напярэдадні адкрыцця сезона

— Вы, Уладзімір Аляксандравіч, распачынаеце ў Брэсцкім абласным драматычным тэатры свой другі сезон, але не галоўным рэжысёрам. Ваша пасада цяпер — мастацкі кіраўнік тэатра. Перамена штосьці змяніла ў вашых дачыненнях з калектывам?

**— У маім сённяшнім становішчы — нічога. Акрамя, мабыць, юрыдычнага статуса. Мяне ў тэатр запрасіў дырэктар А. Казак; я падпісаў дамову з кіраўніцтвам горада Брэста на два гады, маўляў, я бяру на сябе адказнасць за тое і тое, мушу здзейсніць тое і тое...**

— У Брэсце ажыццяўляецца ўжо пераход да славутай кантрактнай сістэмы?

**— Кантракт заключаецца, хутчэй, на словах (сам па сабе ён мусіць прадугледжваць не адно мае абавязкі ды правы, але і абавязкі іншага боку, а іншы бок, г. зн. горад, не ў стане мне дапамагчы амаль нічым). Склалася так, што мне прыйшлося навязваць трупе хуткія, імклівыя перамены, замест таго, каб памяркоўна шукаць выйсця з той складанай сітуацыі, у якую яна патрапіла (дастаткова сказаць, што перад маім прыходам тэатр меў адзін пракатны спектакль!). Тэрмінова было ажыццёўлена сем пастановак (сярод іх — «Лаліта» Э. Олбі паводле В. Набокава, «Грай, Ёсель, грай» паводле Р. Горына, «Хітрыкі Скапэна» Мальера і іншыя). Давялося шмат узяць на сябе, калі хочаце, ажыццявіць аўтарытарнае кіраўніцтва.**

— А як успрыняў яго калектыў?

**— З дырэктарам мы працуем у добрым кантакце, акцёры заняты працаю вышэй галавы. Абставіны ўнутры тэатра сёння залежаць ад мяне... Няма звыклых бурлівых прафсаюзных сходаў, дзяльбы роляў, грошай. Ёсць пэўнасць.**

— Якую ролю адыграе ў вашым тэатры мастацкі савет?

**— Думаю, што мастацкі савет — гэта рэжысёрская рада, гэта людзі, з якімі мне трэба правяраць свае рашэнні. Галоўнае, нам няма калі канфліктаваць.**

— Што думаеце вы пра паступовы пераход тэатра да працы на дзяржаўнай мове?

**— Пераход не павінен быць штучным. Сёлета на базе тэатра мы набіраем свайго роду падрыхтоўчы курс (ёсць дамоўленасць з тэатральна-мастацкім інстытутам пра тое, што нашы выхаванцы прадоўжаць сваё навучанне ў Мінску з нашым накіраваннем). Разлічваем падрыхтаваць шэсць-сем чалавек, — па першым часе.**

— Як ставіцца горад да вашых пачынанняў?

**— Горад, а гэта значыць патэнцыяльны глядач, больш цікавіцца, калі ж будзе адбудаваны тэатр, бо ягоны рамонт, як вядома, зацягнуўся. Сцэны і сцены, дзе мусім працаваць цяпер, гледачоў не надта задавальняюць. Але сённяшняя тэатральная сітуацыя ў Брэсце — не тупіковая.**

**Пытанні задала Жана ЛАШКЕВІЧ.**



«І смех і грэх...» паводле Л. РОДЗЕВІЧА і У. ГАЛУБКА. Д. ДОЙБАН (Магрэта), М. ПЕРАПЕЧКА (Панас).

# Неканвертаваны тэатр

*«За границей пиво удивительное. Кажется, будь такое пиво в России, я спился бы. Удивительные также актеры. Этакая игра нам... и не снилась».*

З дзённікаў А. П. Чэхава, 1894.

У Чэха-Славакію я ехаў па запрашэнні Прэшаўскага драматычнага тэатра імя Ёнаша Заборскага (ягоныя спектаклі «Гібель футбола ў горадзе К.» К. Горака і «Зоркі на ранішнім небе» А. Галіна можна было бачыць летась у Мінску на міжнародным фестывалі «Славянскія тэатральныя сустрэчы»). Акрамя перамоваў пра пастаноўку маёй п'есы і ўсталяванне творчых сувязяў паміж ТЮГам, дзе я раблю загілтам, і дзіцячым тэатрам у горадзе Спіска-Новавес, хацелася пазнаёміцца з тэатральнай сітуацыяй у Славакіі. Не сакрэт, што не толькі ў эканоміцы, але і ў культуры мы мусім паўтарыць шлях нашых суседзяў па былым сацыялістычным лагеры...

Дзве гадзіны пасля пагранічнага Чопа: першыя славацкія гарадкі, першыя вітрыны магазінаў, міжволі пачынаеш параўноўваць іх з мінскімі, а цэны з нашымі—старымі, новымі; потым пераводзіш ў даляры, потым зноў у рублі і... у разгубленасці трасеш галавой, так і не здолеўшы разабрацца — дорага гэта ці танна; і што пасля гэткага параўнання можна набыць на сваю айчынную зарплату, на нашы рублі і, урэшце, чаго вартыя нашы грошы, наша зарплата і... наша мастацтва... Так, так. Бо аказалася, што праблема канкурэнтаздольнасці паўстае не толькі ў дачыненні да нашай валюты, але і да нашага мастацтва. У ім, як і ў эканоміцы, карыстаюцца не афіцыйным курсам абмену, а тым, які ўсталёўваецца сам сабой, так званым курсам «чорнага рынку». Ён самы рэальны...

Афіцыйна чэха-славацкая крона і савецкі рубель роўныя. Неафіцыйна ж... Самі ведаеце. А ў мастацтве?

Пра горад Спіска-Новавес, кажучы шчыра, я і не чуў раней. Там знаходзіцца тэатр, які з'яўляецца аналагам нашага ТЮГа і пакуль што разам з музычнай трупай уваходзіць у склад Прэшаўскага драматычнага тэатра. Яго генеральны дырэктар Стэфан Фэйка, з якім мы пазнаёміліся яшчэ ў Мінску, пакуль ехалі туды з Прэшава, скардзіўся: тэатр невялічкі, адзін з двух дзіцячых у Славакіі (пра Чэхію гаворкі няма — гэта «чужая краіна»), не хапае грошай на рамонт, праблема запрасіць добрага, нават прафесійнага акцёра, бо тыя не вельмі ахвотна едуць сюды пасля заканчэння вучобы ў Браціславе... Словам, правінцыйны тэатр. Але, папярэдзіў пан Стэфан, мяне чакае сюрпрыз. Я і напраўду быў здзіўлены, пачуўшы з дынаміка ў кабінеце мастацкага кіраўніка тэатра Яраслава Кошыцкага... рускую гаворку. Суайчыннік? Хаваючы ўсмешку, пан Фэйка павёў мяне ў залу. На сцэне ішла рэпетыцыя «Рамэа і Джульеты». Пан рэжысёр падышоў да нас.

— Пазнаёмцеся, — сказаў мой спадарожнік і прадставіў мяне.

— Спясіўцаў, — назваўся пан рэжысёр.

Спясіўцаў? З Масквы? Рэжысёр, пра якога, здаецца, не пісаў хіба толькі «Савецкі спорт»? Якім чынам? — пацікавіўся я.

Высветлілася, што спадар Спясіўцаў тут не толькі даўно супрацоўнічае, але «ўжо амаль свой». У гэтым тэатры ён паставіў спектаклі паводле твораў Ч. Айтматава, «Бесаў» Ф. Дастаеўскага і цяпер вось— «Рамэа і Джульету»...

Мастацкі кіраўнік тэатра пан Яраслаў Кошыцкі таксама распавёў мне пра цяжкае становішча свайго тэатра, а потым сказаў:

— Мяне запрасілі на пастаноўку. У Маскву, у тэатр Спясіўцава.

Я павіншаваў яго.

— Але ваш рубель не канвертуецца.

Я пачырванеў.

— Ну-у... Гэта не галоўнае,— паправіўся ён. — Я дэпутат Вярхоўнага Савета. Часу няма.

І ён паабяцаў: як будзе час, праездам у Маскву завітаць у Мінск. Я шчыра падзякаваў.

Калі тэатр у Спіска-Новавес нагадаў айчыну сваёй утульнай залай і грудай цэглы вакол будынка, дык Прэшаўскі драматычны тэатр проста ўразіў сваім буржуазным выглядам. Мала таго, што сам ён — два паверхі ўніз, два — уверх, ліфт, зала на восемсот месцаў, зала на двесце месцаў з рухомымі модулямі (што за лічаныя мінуты пераўтвараюць залу ў любую геаметрычную форму), сцэна, па якой можна ездзіць на аўтамабілі, ды, акрамя таго, цудоўны сучасны дызайн і ўсё гэта на... 80-тысячны горад. Ды і прыёмная дырэктара сваімі факсамі, тэлексамі, камп'ютэрамі, была мала падобная на прыёмную дырэктара правінцыйнага тэатра. А падумалася мне гэта ў той час, калі я слухаў пра тое, што Славакія з'яўляецца сыравінным прыдаткам Чэхіі, што тэатр, як і культура ў Славакіі, знаходзіцца ў вельмі бедным становішчы, што запрасіць добрага рэжысёра з Нямеччыны ці са Злучаных Штатаў ім не пад сілу...

І тут мяне чакаў яшчэ адзін сюрпрыз. Аказалася, што вечарам прэм'ера. Спектакль «Вяселле Фігара» ў пастаноўцы... рэжысёра маскоўскага МХАТа Валянціна Казьменкі-Дэліндэ.

Як?! Яшчэ адзін суайчыннік? І я магу пабачыцца з ім?

...Але пабачыцца ён не прыйшоў. А я ледзь не заснуў ад няўцямнага мудрагельства замест досціпаў Бамаршэ. Пахмурныя, натапыраныя акцёры, здаецца, пракліналі і Маскву, і МХАТ і ўсё савецкае мастацтва.

— Што, — узяўся я паспачуваць ім, — шмат грошай пайшло на спектакль?

— Не на спектакль. На рэжысёра, — сумна пажартаваў адзін з акцёраў, якога я помніў па Мінску як веселуна і жартаўніка.

«Нічога дзіўнага, — супакойваў я сябе. — МХАТ ёсць МХАТ. А Прэшаў не Парыж. Што такое Прэшаў для мхатаўскага рэжысёра? Так, усяго толькі супынак на шляху да суседняй Нямеччыны, Аўстрыі...

Дзіўна, але факт — за сто гадоў якасць піва ТАМ не змянілася. Прынамсі, сведчу, што «чэшскае», дакладней, «славацкае» піва і сапраўды — «удивительное». А вось што да акцёраў, да тэатраў і ўражанняў...

# ПРА РОСКВІТ, ЗАНЯПАД І НАДЗЕЮ НА АДРАДЖЭННЕ

### У Віцебску ствараецца музей музычнай культуры

АДЗІН са старэйшых гарадоў нашага краю, Віцебск мае багатую гісторыю не толькі грамадска-палітычнага жыцця, але і гісторыю культуры. Досыць вядомыя дасягненні віцебскай мастацкай школы. Ды не менш цікавае і музычнае мінулае горада. Дзякуючы свайму геаграфічнаму становішчу — паміж Пецярбургам ды Масквою, Кіевам ды Рыгай,—Віцебск, натуральна, уваходзіў у гастрольныя маршруты многіх канцэртантаў і оперных труп. Маючы к пачатку XX стагоддзя насельніцтва толькі 70 тысяч чалавек, горад вылучаўся высокім узроўнем культуры, а сярод жыхароў быў даволі значны працэнт інтэлігенцыі.

У колішнім Віцебску гастраляваў Шварцбургскі сімфанічны аркестр (1849 г.), Львоўская філармонія, скрыпачы Л. Аўэр, А. Губерман, Я. Хейфец, Я. Цымбаліст, М. Піястра, М. Палякін, Ц. Ганзен, М. Эрдэка; віяланчэліст А. Вержбіловіч; вакалісты М. Міхайлава, В. Куза, Е. Збруева, В. Пятрова-Званцава, З. Лодзій, Л. Собінаў, Н. Фігнер. Большасць канцэртаў праходзіла ў Віцебскім гарадскім тэатры (адкрыўся ў 1845 г.), а таксама ў памяшканні губернскага акруговага суда (апошнім часам гэты будынак займаў АК КПБ).

Але Віцебск не толькі прымаў гасцей. Нямала выдатных музыкантаў жыло і працавала тут. Так, у 40-я гады XIX ст. пры гарадскім тэатры плённа працаваў балетны ансамбль пад кіраўніцтвам французскага харэографа Марыса Піёна. Некаторыя спектаклі былі на адметным мастацкім узроўні. Сярод віцебскіх музыкантаў асаблівае месца займала выдатная піяністка Фрыда Тэйтэльбаўм-Левінсон, вучаніца А. Рубінштэйна, лаўрэат Пецярбургскай кансерваторыі. Яна давала бясплатныя ўрокі ігры на фартэпіяна, сярод яе вучняў былі М. Юдзіна, А. Юдзін, З. Кітаеў. Як вядома, Марыя Юдзіна стала з часам выдатнай піяністкай, лаўрэатам Пецярбургскай кансерваторыі, прафесарам Маскоўскай кансерваторыі і музычна-педагагічнага інстытута імя Гнесіных.

Пасля 1900 г. віднае месца ў музычным жыцці Віцебска займаў вольны мастак, вучань Л. Аўэра, скрыпач Л. Лерман і не менш здольны музыкант Б. Сухадрэў,—яны былі ініцыятарамі і арганізатарамі аматарскага сімфанічнага аркестра пры гарадскім тэатры. Дэбют аркестра адбыўся 24 студзеня 1904 г. у праграме Другога выканальніцкага вечара. Дырыжыраваў Л. Лерман. Затым—яшчэ шэраг канцэртаў. А ў 1909 г. адбыўся сімфанічны вечар, прысвечаны П. Чайкоўскаму, пры ўдзеле дацэнта Пецярбургскага універсітэта А. Каля (у якасці лектара), спявачкі С. Аксанінай і сімфанічнага аркестра з 40 чалавек пад кіраўніцтвам Л. Лермана. Больш звестак пра дзейнасць гэтага аркестра не знойдзена.

ПАСЛЯ кастрычніка 1917 г. у Віцебску было арганізавана аддзяленне Усерасійскага саюза аркестрантаў, куды ўвайшлі ўсе ўдзельнікі сімфанічнага аркестра. Вось тут у 1918 г. і выспела ідэя заснаваць у горадзе Вышэйшую музычную школу (кансерваторыю). Была створана калегія па арганізацыі кансерваторыі з членаў саюза на чале з Б. Сухадрэвам. 25 мая 1918 г. адбыўся сімфанічны канцэрт, які запачаткаваў фонд для кансерваторыі. Ужо на пачатку чэрвеня да работы калегіі далучыўся М. Анцаў, які вёў у Віцебску шырокую музычна-асветніцкую дзейнасць, — ён арганізаваў Дзяржаўны хор, у праграмах якога загучалі як творы самога М. Анцава, так і класіка. Для вядзення перамоваў наконт адкрыцця Віцебскай народнай кансерваторыі ў Петраград былі камандзіраваныя дэлегаты (Сухадрэў, Бяссмертны, Анцаў). Не мінула і месяца, як з музычнага аддзела Народнага камісарыята па асвеце за подпісам А. Лур'е прыйшоў дазвол на адкрыццё кансерваторыі. Дэлегаты калегіі запрасілі з Петраграда на пасаду яе дырэктара М. Малько, супольна з якім абмяркоўвалі ўжо і будучы прафесарскі склад. Для выкладання былі запрошаны Э. Бай (фартэпіяна), С. Брагбо (габой), Д. Гершэвіч (фартэпіяна), К. Зімін (спевы), В. Іваноўскі, вучань С. Танеева (фартэпіяна), С. Леўман (кантрабас), В. Мерын (фартэпіяна), А. Поснікаў (тэорыя музыкі), К. Ран (фартэпіяна), Г. Шэйдлер (скрыпка), С. Шпільман (віяланчэль), Е. Шуман (фартэпіяна), О. Шуман (валторна). Выкладалі, канечне ж, і М. Анцаў (тэорыя музыкі), А. Бяссмертны (скрыпка), М. Малько (тэорыя музыкі).

У верасні-кастрычніку 1918 г. Народная кансерваторыя была адкрытая. І з першых жа дзён—праблемы: бракуе памяшканняў, інструментаў і г. д. Але заняткі вяліся. І амаль увесь прафесарскі склад, а таксама студэнты, ігралі ў сімфанічным аркестры. Канцэртаў была праведзена вялікая колькасць, і яны вельмі станоўча паўплывалі на духоўнае жыццё віцяблян.

У канцы 1919—пачатку 20-га года Народная кансерваторыя была пераўтворана ў Музычную школу 3-х ступеняў (такая

Цікава было б сустрэцца».

— А дзе ён цяпер? — спытаў я пасля спектакля.

— Мабыць, дома.

— А-а, ужо паехаў!.. «Фігара тут, Фігара там».

— Куды паехаў? Дома ён. У жонкі!

— Дык я і...

— Ды не, Валодзя, у Прэшаве ён.

І тут аказалася, што жыве ён амаль побач з маім гатэлем. А ягоная жонка — актрыса яшчэ аднаго мясцовага тэатра — украінскага (русінскага, як яны сябе клічуць) тэатра імя Аляксандра Духновіча. Але з Масквой не рве сувязяў. Грамадзянства — савецкае, працоўная кніжка — у МХАТе...

Назаўтра я сустрэўся з Казьменкам-Дэліндэ. Як яму «Вяселле Фігара», — пацікавіўся я. «А, — махнуў ён рукой. — Самі вінаватыя. Дрэнны тэатр. А вось гэта — тэатр!» І ён пачаў знаёміць мяне з русінскімі акцёрамі.

Высветлілася, што большасць з іх скончыла Кіеўскі тэатральны інстытут, а іх спектаклі ідуць на ўкраінскай, ці як яны самі называюць, русінскай мове, на якой размаўляюць жыхары пагранічнай з Украінай мясцовасці. Акрамя яго, у Славакіі існуе яшчэ шэраг тэатраў для мадзярскай і для нямецкай меншасцяў. Нават тамтэйшыя цыганы спрабуюць наладзіць тэатр накшталт нашага «Рамен».

Фінансуецца русінскі тэатр з бюджэту Славакіі, кадры рыхтуе Украіна. Мо таму і пакінулі абыякавым майго калегу, кіраўніка літчасткі тэатра Васіля Турака пытанні наконт «самафінансавання і кантрактнай сістэмы»?

— Мы абслугоўваем нацыянальную меншасць і таму гэта справа палітыкі. Нас не зачыняць. Гэта — па-першае. А па-другое, куды ж пойдзе украінскі, дакладней, русінскі, акцёр, калі скончыцца тэрмін яго кантракту?

Шкада, русінскіх спектакляў мне паглядзець не выпала: частка трупы была на фестывалі ў Браціславе, частка — у Англіі. А з трэцяй часткай трупы Валянцін Казьменка-Дэліндэ рэпеціраваў спектакль паводле апавяданняў А. П. Чэхава.

Пакуль незанятыя артысты бавілі час за кілішкам гарэлкі ў тэатральным бары, ва ўнутраным дворыку грымелі адбойныя малаткі — будаваўся самы сапраўдны амфітэатр, «як у старажытным Рыме».

— Уяўляеце, Валодзя, якія спектаклі можна ладзіць?..

Век жыві — век вучыся. Здавалася, што «драматург» у славакаў — той самы «загадчык літаратурнай часткі». Таму нікога і не здзіўляла, што я драматург і працую ў тэатры. А вось «аўтар» ці, дакладней, «драмацік» — гэта ўжо самы сапраўдны «літаратар, які піша для тэатра». Тым не менш, нават у гарадскім тэатры пры штатным раскладзе ў 1-2 рэжысёры, заг. літаратурнай часткі, драматургаў — 5-6. Навошта? Мне, загліту, якому не ў дзіва, што тэатр мае аднаго (і таго пры эканамічным краху першым бы «выкінуў за борт»), хацелася ведаць — навошта? А калі пачуў, што тэатр часам практыкуе запрашаць на дагавор пры пастаноўцы не толькі рэжысёра, мастака, кампазітара, але і драматурга...

— А як жа? — здзівіўся з майго здзіўлення пан Фэйка, сам былы «драматург». — Тэатр — гэта дыялог. А з кім рабіць дыялог? У залежнасці ад таго, якая ставіцца п'еса, няхай сабе й Шэкспір, драматург патрэбен. Як жа рэжысёру без яго?..

— А грошы? Іх жа, мабыць, трэба эканоміць? — з'едліва працягваў я.

— Вядома, — згадзіўся пан Фэйка. — Але не на драматургах.

Святыя словы! Акрамя штатных заглітаў, у тым самым Прэшаўскім тэатры ёсць і няштатны. Як бы на палову стаўкі. Але на самай справе Карэл Горак (аўтар вядомай менчукам п'есы «Гібель футбола ў горадзе К.») з'яўляецца хутчэй аўтарам тэатра, творчым кансультантам. Сам бачыў, як ён, пяцідзесяцігадовы мужчына, разам са сваімі студэнтамі ледзь не лётаў па чатырох паверхах прэшаўскага гмаху, ладзячы фестываль студэнцкіх тэатраў...

Нягледзячы на тое, што дзелавую частку паездкі можна лічыць паспяховай, вяртаўся я дамоў з сумным настроем. А прычынай была ўсё тая ж неканвертаванасць. Нават не рубля. Дакладней, не толькі рубля..

Камерцыйны курс? Справядлівы курс? Натуральны курс! І гэта пры тым, што «сярэдні» мінскі, той самы тюгаўскі акцёр, мог бы проста працаваць у любым з бачаных мной тэатраў. Як і рэжысёры. Працаваць і атрымліваць. Разоў гэтак у дзесяць больш.

«У нас цяжкая эканамічная сітуацыя», — скардзяцца славакі, атрымліваючы ў сярэднім на месяц па 2.500 крон (пры кошце 1 кг бананаў 25 крон, а скураных туфляў — 600).

«У нас цяжкая эканамічная сітуацыя», — наракае дырэктар гарадскога Прэшаўскага тэатра і скарачае штат супрацоўнікаў з 436 да... 376 чалавек.

«У нас цяжкая эканамічная сітуацыя», — уздыхаюць славацкія калегі. На ўсю паўмільённую Славакію (удвая меншую за Беларусь) засталося ўсяго два ТЮГі, 3 оперныя тэатры, 1 камерная (!) опера, 2 музычныя тэатры, каля 10 драматычных, 6 лялечных, 2 венгерскіх, 1 украінскі (русінскі)... Спынюся.

Адкуль жа возьмецца канвертаванасць?

Ці запрашаюць нашых рэжысёраў з Беларусі на пастаноўку ў Еўропу?

Ці ж ёсць у нас драматычныя тэатры, якія б ездзілі на камерцыйныя гастролі на Захад?

Ці ж ставяць п'есы беларускіх драматургаў у тэатрах Францыі, Англіі, Злучаных Штатаў?..

Не-кан-вер-таванасць!

Авохці! Дзіўнае супадзенне: пік сяброўства і творчых сувязяў паміж маім ТЮГам і адным з польскіх тэатраў прыйшоўся на сярэдзіну васьмідзесятых — час эканамічнага крызісу ў Польшчы, час адносна поўных нашых магазінаў, а па меры таго, як бяднелі нашы прылаўкі і слабела эканамічная моц, нашы сябры ўсё болей пачалі глядзець на Захад — не толькі на вітрыны магазінаў, але і на тэатральныя «вітрыны», забываючыся падоўжыць тэрмін пагаднення аб супрацоўніцтве і сяброўстве...

Не-кан-вер-та-ва-насць!..

А наша піва, па-мойму, не такое ўжо і дрэннае. Калі не разбаўляць вадой...

**Уладзімір ГРАЎЦОЎ.**

Мінск—Прэшаў—
Спіска-Новавес—Мінск.



«...Прэшаўскі тэатр проста ўразіў сваім буржуазным выглядам».

**МУЗЫКА**

# «Маладыя галасы Беларусі»

**Так называўся першы ў гэтым сезоне канцэрт Акадэмічнага народнага аркестра імя І. Жыновіча. Гэты калектыў — сапраўдная акадэмія народна-інструментальнай музыкі, нацыянальнага мастацтва Беларусі. І вось побач з ім — маладыя таленты, выхаванцы Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі, лаўрэаты рэспубліканскіх конкурсаў: спевакі — імя Л. Александроўскай, інструменталісты — імя І. Жыновіча.**

**З вакалістаў асабліва ўразілі М. Грыгорчык, С. Франкоўскі ды А. Гардынец. Іхнія галасавыя дадзеныя даюць падставу спадзявацца, што гэта будуць оперныя артысты. У М. Грыгорчыка мяккі, пяшчотны, прыгожага тэмбру, глыбокага напаўнення лірычны тэнар. Даволі моцным, прыемным, звонкім ва ўсіх рэгістрах лірыка-драматычным тэнарам валодае С. Франкоўскі. Яркае ўражанне зрабіў і А. Гардынец, чый сакавіты, глыбокі бас прыйшоўся даспадобы слухачам.**

**Першыя крокі на вялікай сцэне робіць А. Краснадубскі, уладальнік прыемнага лірычнага барытона.**

**Усе інструменталісты — удзельнікі канцэрта былі, што называецца, «ва ўдары», прадэманстравалі бліскучы артыстызм. Маладыя і чароўныя цымбалісткі В. Мішула ды Л. Рыдлеўская ўразілі слухачоў яскравасцю, шчырасцю, абаяльнасцю. арганічным спалучэннем лірызму ды вірутуознасці.**

**Самых добрых слоў варты ансамбль беларускіх народных інструментаў, створаны артыстам аркестра А. Крамко з ліку сваіх аднадумцаў. І на вяршыні «Алімпа» ў гэтым канцэрце былі сталыя галасы: дуэт баяністаў у складзе С. Лясун ды У. Ткача і, канечне, сам аркестр пад кіраўніцтвам М. Казінца, які не абмежаваўся роляй чулага партнёра салістаў і ансамбляў, выканаўшы ў канцэрце і асобныя аркестравыя нумары.**

**Адкрыццё сезона жыновічаўцаў сталася сапраўдным святам для аматараў і знаўцаў народна-інструментальнага ды вакальнага мастацтва. Аднак нельга абмінуць маўчаннем і адну з самых балючых праблем: як і раней, акадэмічная музыка, самае таленавітае, самае складанае для ўспрымання і самае духоўна багатае мастацтва, — не запатрабаванае нашым грамадствам. Зала напалову пустая... Таму хацелася б, каб поруч з задачамі творчымі вырашаліся і задачы вывучэння попыту на гэтае мастацтва, яго прапаганды рэкламы і інш., і задача падрыхтоўкі высокапрафесійных імпрэсарыо.**

**М. СОЛАПАЎ.**

структура прадугледжвала аб'яднанне ў межах адной установы: музычнай школы, тэхнікума ды кансерваторыі). Прафесарскі склад папоўнілі К. Грыгаровіч, выканаўца партыі скрыпкі ў знакамітым Мекленбургскім квартэце, ды М. Дубасаў, выпускнік Петраградскай кансерваторыі па класе фартэпіяна, вучань А. Рубінштэйна, лаўрэат Першага міжнароднага конкурсу яго імя. Быў уведзены курс лекцый па філасофіі музыкі, які чытаў малады філосаф і літаратуразнаўца Л. Пумпянскі.

У 1919 г. у Віцебск пераязджае сям'я Салярцінскіх, 16-гадовы Іван Салярцінскі ўладкоўваецца на службу ў віцебскае статыстычнае бюро і курыруе пытанні культуры. (Сям'я іх на пачатку XX ст. жыла ў Віцебску, дзе ў 1902 г. і нарадзіўся Іван Іванавіч Салярцінскі, а ў 1906 г. пераехала ў Пецярбург). Гэты віцебскі перыяд жыцця моцна паўплываў на фарміраванне асобы І. І. Салярцінскага. Менавіта тут ён пазнаёміўся з Л. Пумпянскім, сур'ёзна зацікавіўся сімфанічнай музыкай. Магчыма, менавіта І. Салярцінскі запрасіў у Віцебск М. Бахціна, які разам з Л. Пумпянскім з 1920 г. чытаў лекцыі па філасофіі музыкі.

ДА СНЕЖНЯ 21-га кансерваторыя апынулася ў заняпадзе, з-за трохмесячнай адсутнасці кіраўніка, а таксама з-за пазбаўлення яе нават часовага памяшкання. У якасці новага дырэктара кансерваторыі быў запрошаны артыст былога імператарскага тэатра і прафесар Петраградскай кансерваторыі В. Праснякоў. На ягоную долю выпала цяжкая задача—аднавіць кансерваторыю, у якой да восені 21-га функцыянавалі класы і факультэты па ўсіх спецыяльнасцях: раяль, скрыпка, віяланчэль, кантрабас, драўляныя ды медныя духавыя інструменты, тэорыя музыкі, кампазіцыя.

У дакументах паведамляецца: «З пазначанага тэрміну (восень 1921 г.) з прычыны, з аднаго боку, адплыву часткі выкладчыкаў у Цэнтр, з другога боку, малой забяспечанасці ўрадавай фінансавай дапамогай і малой колькасці навучэнцаў на аркестравых інструментах, навучальны план Кансерваторыі прайшоў значныя змены, што выявілася ў ліквідацыі значнай часткі спецыяльных класаў па навучанні ігры на аркестравых інструментах. Вясною 1922 года ўмовы Кансерваторыі былі зменены ў кірунку скарачэння Дэканата і перадачы ягоных функцый часткова Дырэктару Кансерваторыі, часткова Акадэмічнаму Савету...»

Уся арганізацыйна-аднаўленчая праца завяршылася к 1 студзеня 1923 г. цалкам дзякуючы энергіі ды здольнасцям В. Праснякова. У выніку Народная кансерваторыя была пераўтворана ў Музычны тэхнікум. Сярод выкладчыкаў таго перыяду былі А. Штэйн (прафесар Петраградскай кансерваторыі), Е. Шуман, Е. Фрадкіна, П. Глушкоў, А. Левінтава (усе — фартэпіяна), М. Лерман (скрыпка), К. Зімін, А. Крамская (сольныя спевы), А. Лебедзеў (харавыя спевы), О. Шуман (валторна), С. Леўман (элементарная тэорыя музыкі), Ю. Шапорын (тэорыя кампазіцыі і абавязковая гармонія), А. Цшохер (гісторыя музыкі), М. Бахцін (эстэтыка і філасофія музыкі), В. Праснякоў (рытм, метад Ж. Далькроза)...

Лёс кансерваторыі не мог не адбіцца на дзейнасці сімфанічнага аркестра, які па-ранейшаму складаўся з яе выкладчыкаў і студэнтаў. Пераадолець крызіс аркестру так і не ўдалася. Спрабуючы неяк выправіць становішча, загадчык аркестра В. Еўзераў у 1924 г. напісаў «Даклад пра дзейнасць сімфанічнага аркестра» ў Віцебскі губернскі камітэт па асвеце, а таксама ў гарадское аддзяленне Сарабіса, Мастацкі аддзел ды Культаддзел. У дакладзе В. Еўзераў зазначыў абыякавае стаўленне да аркестра з боку Мастацкага аддзела, Губпалітасветы, Культаддзела. А таксама — адсутнасць памяшканняў для рэпетыцый, абкладанне калектыву аркестра несправядлівымі і непасільнымі падаткамі, «што моцна адбівалася на маральным стане і працы аркестра». «Зараз аркестр знаходзіцца на краі пагібелі,—пісаў В. Еўзераў. — Для таго, каб утрымаць сімфанічны аркестр, трэба зусім не так многа сродкаў. Трэба захаваць усё, што ён меў дагэтуль, г. зн. усе субсідыі, і здабыць яшчэ 75—100 руб. зол. у месяц; запрасіць дырыжора і некалькіх музыкантаў». Апроч таго, ён падкрэсліў неабходнасць аб'яднання Музычнага тэхнікума і сімфанічнага аркестра. Аднак заклік В. Еўзерава, відавочна, не зрабіў належнага ўражання на афіцыйныя колы горада, і Савет сімфанічнага аркестра вымушаны быў абвясціць роспуск калектыву...

Пазней і Музычны тэхнікум быў пераўтвораны ў музычную школу, а ў 30-я гады было адкрыта Віцебскае музычнае вучылішча. Такім чынам, паступова, з цэнтра музычнай культуры Віцебск ператварыўся ў звычайны правінцыйны горад. Ды ўсё ж ён можа ганарыцца сваімі землякамі, знанымі музыкантамі: кампазітарамі А. Багатыровым і М. Фрадкіным, дырыжорам Г. Юдзіным, народным артыстам РСФСР скрыпачом Б. Гутнікавым, прафесарам Ленінградскай (Пецярбургскай) кансерваторыі С. Хентавай, прафесарам Маскоўскай кансерваторыі А. Шаршэўскім...

У НАШ ЧАС, калі грамадства, здаецца, пачало паварочвацца тварам да праблем культуры, пакуль яшчэ не позна, неабходна ўспомніць і аднавіць гісторыю і нашай музычнай культуры. У аддзела культуры Віцебскага гарвыканкома з'явілася магчымасць стварыць адпаведны музей. Ёсць невялікае сучасна абсталяванае памяшканне. Год ужо вядзецца работа па збору матэрыялаў. На жаль, многа дакументаў загінула ці знікла бясследна. Загінула практычна ўся унікальная нотная бібліятэка Народнай кансерваторыі...

Супрацоўнікі музея і гарадскога аддзела культуры звяртаюцца да ўсіх, для каго неабыякавы лёс культурна-гістарычнай спадчыны Беларусі, з просьбай: чым можна памагчы ў зборы дакументаў і матэрыялаў, звязаных з гісторыяй музычнай культуры Віцебска. Без памяці не будзе і адраджэння.

**Наталля ГАПЕЕВА,**
**супрацоўнік музея.**

г. Віцебск.

## ВІНШУЕМ!

Днямі споўнілася 80 гадоў Іосіфу Васілеўскаму — паэту і перакладчыку, які перастварае на рускую мову творы беларускіх аўтараў розных пакаленняў. «ЛіМ» жадае Іосіфу Іосіфавічу добрага здароўя і плёну на паэтычнай ніве.

**Іосіф ВАСІЛЕЎСКІ**



# Сейбіт

Адным сцяжынка ў друк
была прамою,
Вяла і ў ганаровыя рады.
Я ж пачынаў
за дзедавай сяўнёю,
На ніве адціскаючы сляды.

Перад сяўбой
дзед бласлаўляў пагоду,
Мяне вучыў,
як сеяць жыта,
дзед.
Ішоў за ім я,
крышачку наводдаль,
Ды зерне залятала і ў мой след.
Вясёлка выгіналася праменна,
Акідвала стагі
вянком тугім.
Дзед жыта рассяваў
рытмічна жменяй,
Я лёгка па раллі
снаваў за ім.

Работу я асвойваў пастулова.
Хоць быў малы,
хадзіў за бараной.
І разам з жытам
выспявала слова
І жаўранкам
звінела нада мной.

# Тры кіты

Падумаць толькі, проста страх,
Сцвярджаюць, што на трох кітах
Зямля трымаецца, на трох.
А над кітамі зверху Бог!
Ды я упэўнены, што так
Не думаў ні адзін прастак.
Свет тром кітам імёны даў:

Свабода!
Праўда!
Дабрата!

# Карацейшая прамая

Паспешлівасць не спраўджвае нам
згадкі,
Калі сабраўся ў шлях, альбо дамоў.
А я заўжды спяшаўся, без аглядкі
Імкнуўся па прамой і па прамой.

Рачулкам нашым рэчышчы змяняем
І скарачаем шлях жыццёвы свой.
Так часам карацейшая прамая
Закрэслівае ўсё як ёсць сабой.

# Малюнак Барыса Прарокава

Былі прызваны мы ў салдаты;
Я помню Віцебск той парой,
Сустрэчу нашу ў трыццаць пятым
Каля Сабора, над Дзвіной.

Ён ля ракі за час кароткі
Штрыхамі ліст спаласаваў.
Віхрастага Барыс Пракокаў
Тады мяне намаляваў.

Няхай, што не відно Сабора,
А толькі цень, алоўка след,
Ды ён пра многае гаворыць,
Адушаўлёны сілуэт.

Ішлі гады. Шляхі-дарогі
Нас надзялілі свіязной.
А неадступныя трывогі
Вайна цягнула за сабой.

Малюнак з подпісам і датай
Я зберагаю: сябраў твор.
. . . . . . . . . . . .
Пасля вайны, ў шасцідзесятых
Быў узарваны той Сабор.

# Крыгаход

Лёд напірае, гразіцца бядой,
Здаецца, ён вечна злуецца,
Але ператрэцца і будзе вадой
І з ёй назаўсёды зліецца.

Нават з палёгкай рака уздыхне,
Прарваўшыся да пераправы.
Народ пераменіць усё і сапхне,
Заручаны шчасцем і славай.

# З дзённіка

Землетрасенні і разлівы,
Разлады з роднаю зямлёй
Не насланнё, зусім не дзіва—
Прырода помсціць справядліва
За гвалт і здзекі ўсе на ёй.

Мой лёс мяне аберагае.
Каб мне раней мудрэйшым быць,
Каб знаў усё, што сёння знаю,
Да лепшых дзён мне б не дажыць.

Мы пачыналі век з маёвак,
Май быў святочным—дзень за днём.
Ці не таму так бесталкова
Мы ў гэтай святасці жывём.

Спачуваю я ўсім,
Хто жыццё сваё марна пражыў.
Незайздросная доля
Будзе праўнукам
добрым урокам.
Нас,
Хто з першых кастрычніцкіх дзён
заблудзіў,
Не вярнуць да ранейшых вытокаў.

Пераклаў з рускай
Юрась СВІРКА.

ДУМКА ЧЫТАЧА

# МЫ - НЕ РАБЫ ?

Мы не зможам вырашаць цяперашнія нашы праблемы, не ведаючы ці няправільна разумеючы шляхі ўсеагульнай эвалюцыі. Мы спрабуем усё змяніць, робячы тыя самыя памылкі...

«Праца стварыла чалавека» — гэтую спрошчаную формулу Маркса варта было б удакладніць: «Чалавека стварыла здольнасць да логікі; магчымасць выкарыстоўваць вынікі лагічных пабудоў».

Лепшыя ўмельцы ў дагістарычным племені цаніліся вышэй за паляўнічых і воінаў. Але дужыя знайшлі магчымым прысвойваць чужую працу. Не паспела «малое» падужэць, як, здаецца, сам Сатана прапанаваў за яго вялікі выкуп і бязбеднае існаванне. І гаспадар прадаў «дзіця» ў рабства, у якім яно знаходзіцца і па сённяшні дзень.

На пачатку гісторыі чалавецтва вынікі працы належалі працаўніку. І памяць пра гэта, як ні дзіўна, ён нясе праз стагоддзі, бо ўся гісторыя чалавецтва — гэта гісторыя барацьбы за вызваленне працы.

Схільны думаць, што і цяпер чалавецтва знаходзіцца ў **дзіцячай стадыі** рабства. Спосабы накаплення працы (капіталу) уплываюць на змену фармацый. Рабства працы — на ўсім адрэзку грамадскіх адносін — забяспечвае накапленне. І гэтае накапленне — шлях да яго паступовага вызвалення.

Шляхі эвалюцыі працы пакручастыя. Рымскія гісторыкі апісвалі дзікунскія плямёны, супраць якіх у непраходных лясах былі бяссільныя нават дысцыплінаваныя кагорты легіянераў. Мы пацвярджаем справядлівасць ацэнак гісторыкаў у частцы свабодалюбства і мужнасці далёкіх продкаў, але начыста адкідаем дзікунства. Мы баімся прызнацца сабе, што прайшлі шлях Рыма, што той жа віток «спіралі» ў гісторыі паўтарыла Расійская імперыя.

Ці было ў нас штосьці сваё? Хрысціянства, што нарадзілася ў метраполіях старога Рыма, як антыпод гвалту, рабству, Русь узяла не для паляпшэння ўмоў чалавечага існавання. Ідэя моцнай цэнтралізаванай дзяржавы, дзе адзін Бог і адзін цар, прымусіла выбраць Хрыста, паклікаць на царства чужых князёў. Усе нашы падручнікі сцвярджаюць, што рабская праца разваліла Рымскую імперыю. Але ж мы былі заняты будаўніцтвам яшчэ больш вытанчанай сістэмы рабства, распяваючы песні пра свабодную працу...

Вось некалькі гістарычных прыкладаў.

У пачатку XVII стагоддзя ў Францыі адзін з Людовікаў падарыў сваім сялянам свабоду. Не ад дабраты душэўнай, вядома ж. Разумнаму ўладару разумныя саноўнікі далі параду: вольнаадпушчаныя вырошчваюць лепшы ўраджай, значыць, з іх можна больш узяць у казну. (Гэты прынцып: спачатку даць, а потым узяць,—культываваўся яшчэ ў старажытных народаў!).

У Расіі прыйшлі да гэтага праз 200 з гакам гадоў! Жаданне адабраць як мага больш — тое ж дзікунства. Хцівасць нявыгадная!

XVIII стагоддзе. Пётр І вучыцца ў Галандыі будаваць караблі. Ці ведаў цар, які рабочы працаваў на верфях у Еўропе? Колькі яму плацілі, як жыла яго сям'я? Хутчэй за ўсё, ведаў. Праца майстроў у Еўропе цанілася высока, свабодна куплялася і прадавалася. У гэты ж час на заводах Дзямідава працаваў прыгонны, па сутнасці, раб. Тут рэфарматар не збіраўся нічога мяняць. Замацаваўшы прыгонніцтва ў вытворчасці, Пётр надоўга адсунуў станаўленне вытворчых сіл у Расіі. Таму пасля яго смерці ўсё, ім створанае, развалілася.

Вальтэр пісаў Кацярыне: «...матушка-государыня, даруй хоть толику свобод своему народу!» Яе адказ: «Наш народ дремуч и сиволап. Не по плечу ему эта ноша!». Кацярына і двор высокіх саноўнікаў не хацелі бачыць далей свайго носа. Вялікадзяржаўная фанабэрыя! «Калі мы іх б'ём, значыць мы — лепшыя!».

Былі розныя спробы супрацiўлення адчужэнню вынікаў працы. Калі ў некаторых дзяржавах усходняга тыпу (Кітай, Японія) вытворцы адказвалі на грабеж і прыгнёт яшчэ больш фанатычнай працай, дык феномен Расіі ў тым, што прыгонныя сяляне рабілі роўна столькі, каб не памерці з голаду. Гэтае глухое супраціўленне вылілася ў своеасаблівую тактыку, сугучную хрысціянству, якое вызнавала культ жабрака.

Непапраўны «сацыяліст» і летуценнік Джэк Лондан толькі ў канцы жыцця зразумеў, што свет рухаецца не планамі чалавека пераадолець яго, але аб'ектыўнымі законамі. Парадокс! Сам Лондан, які сам «зрабіў» сваё жыццё, пацярпеў крах, спрабуючы даць чалавеку тое, што ён не зарабіў. Наладжваючы жыццё бедных на сваёй зямлі, ён забыўся, што кожны павінен заваяваць усё працай, у барацьбе, тым самым пацвердзіўшы сваю чалавечую годнасць. (Тыя, каго ён ашчаслівіў, падпалілі дом, на які пайшлі ўсе сродкі пісьменніка). Калі нельга перарабіць свет, застаецца толькі адно — будаваць яго. Значыць, працаваць! І без спрэчак аб тым, **як будаваць:** гэтыя спрэчкі больш разбуральныя за войны! Трэба помніць: рабства не знікла разам з рабаўласніцтвам. І асабліва — рабства духоўнае.

Еўропа, збегшы ў Амерыку, пакінула ў старым свеце закасцянелы дзяржаўны апарат і шчасліва нарадзіла на новым месцы здаровае дзіця самакіравання. Але зачала ж яна ад больш дасканалых эканамічных адносін, падаючы прыклад Старому свету. І апошні не замарудзіў ім пакарыстацца.

Вернемся ў Расію. Расійская дзяржаўнасць доўга рыхтавала народы імперыі да найвялікшага кровапускання. Войны і рэвалюцыі дашчэнту скаланулі велізарную частку зямнога абшару. Кім жа ўсё-такі была ў кастрычніку 17-га надбудова дзяржавы, яго эліта — пацярпелым бокам? Ці яна вымушана была атрымаць крывавую адплату за сваю бяздзейнасць? Несла яна ў сабе задаткі здаровага розуму, альбо была здольна толькі на марнае «умствование», прыемнае баўленне часу, сентыментальную слязлівасць? Верх пустадумства і абыякавасці — пражываць у Еўропе народныя грошы і, вярнуўшыся дадому, наракаць пры гэтым на «дрымучы нарсд»?

Народнікі, напрыклад, усур'ёз лічылі: толькі адукаваўшы масы, можна падняць іх да ўзроўню нямецкага майстра, селяніна. Вось і сёння чуюцца енкі: «Культура, культура!» Маўляў, варта нам толькі звярнуцца да духоўных каштоўнасцяў — і наш свет зменіцца. Слоў няма, патрэбны храмы, патрэбна культура. Але што ж усё-такі першаснае? Няма ж на што існаваць гэтым каштоўнасцям у нашай дзяржаве.

Наконт прыхільнасці да «сваіх» шляхоў развіцця. Колькі ж можна корпацца ў гэтым «сваім» і насіцца з пісанай торбай сваёй загадкавасці?

Яшчэ раз звернемся да гісторыі. Ад Рыма нас некалі аддзяляў шлях у 1000 гадоў. У XIX стагоддзі дыстанцыя скарацілася да 200 гадоў. Цяпер, кажуць, мы адстаём гадоў на сто... Каласальны прагрэс!

Антуан дэ Сент-Экзюпеwith, назіраючы ў прыгарадным цягніку шэрыя, непадобныя на чалавечыя, твары рабочых, з горыччу казаў: «І ў кожным з іх, магчыма, забіты Моцарт!» Зайдзіце і вы на завод, паглядзіце, як працуюць рабочыя ў ліцейцы альбо на канвееры...

Пакуль праца здольна вяртаць чалавека ў яго першабытны стан, мы не маем права гаварыць пра тое, што ўступілі ў пару сталасці. Не, наша праца знаходзіцца яшчэ ў рабстве, а мы — у тым стане немаўляці, у якім не абцяжарваюць свой розум разважаннямі.

**Аляксандр САКАЛОЎ,**
**вайсковец.**

г. Мінск.

НАШ КАЛЯНДАР

# Вяртанне Міхася Зарэцкага



Якіх толькі абвінавачванняў ні прад'яўлялі энкэвэдзісты беларускім пісьменнікам, што па даносах траплялі ў трыццатыя гады за краты! Але Міхася Зарэцкага і тут, дзе, здавалася б, ужо ўся фантазія вычарпаная, вылучылі. Арыштаваны ў лістападзе 1936 года, ён абвінавачваўся спачатку як радавы «нацдэм»: А к канцу «следства» раптам стаў «кіраўніком контррэвалюцыйнай арганізацыі». Як і трэба было чакаць, яго прыгаварылі да расстрэлу. Праўда, неўзабаве расстрэл замянілі дзесяццю гадамі, але М. Зарэцкі не вытрываў здзекаў — пісьменніка не стала 13 ліпеня 1941 года. На сорак другім годзе абарвалася жыццё аднаго з самых таленавітых прадстаўнікоў беларускай літаратуры.

Сёлета М. Зарэцкаму споўнілася б 90. Канечне, мала хто дажывае да такога ўзросту. Ну, а калі б ён дажыў да 75-ці ці, скажам, да 80-ці? Колькі б паспеў яшчэ напісаць! Працаваў жа М. Зарэцкі ў літаратуры толькі чатырнаццаць гадоў (першае апавяданне надрукаваў у газеце «Савецкая Беларусь» у 1922 годзе), ды вельмі шмат зрабіў для яе. Раманы «Сцежкі-дарожкі», «Вязьмо», аповесць «Голы звер», апавяданні, нарысы, п'есы. А колькі засталося незавершаным?!

Зараз, дзякаваць Богу, творчая спадчына М. Зарэцкага вяртаецца да чытача ў найбольш поўным аб'ёме. Інстытут літаратуры імя Янкі Купалы сумесна з выдавецтвам «Мастацкая літаратура» ажыццяўляе выпуск Збору твораў пісьменніка ў чатырох тамах. Нядаўна выйшаў чарговы, трэці том. Яго склалі раман «Вязьмо» і драматычная аповесць «Сымон Карызна».

Сёлета ж у той жа «Мастацкай літаратуры» асобнай кнігай выйшаў нарыс жыцця і творчасці М. Зарэцкага «Нескароны талент», аўтарам якога з'яўляецца М. Мушынскі.

# ВЕЧНАЕ СУМЛЕННЕ БЕЛАРУСІ



Урачыстае пасяджэнне, прысвечанае юбілею М. Багдановіча.

Фота БЕЛТА.

Вось і на зыходзе год Максіма Багдановіча. Прынамсі, для беларусаў ён увойдзе ў гісторыю менавіта пад такой назовай. Не проста 1991-ы, а павязаны з імем чалавека, які ўсё сваё кароткае жыццё жыў адзінай думай пра Бацькаўшчыну, пра яе трагічны лёс, клопатам пра лепшую долю і светлую будучыню яе пагарджанага народа. Яна ж, Бацькаўшчына, зрабіла нямала, каб ушанаваць памяць аднаго з самых выдатных сыноў сваіх.

У панядзелак, у дзень сотых угодкаў паэта, у Дзяржаўным акадэмічным тэатры оперы і балета Беларусі адбыўся вялікі ўрачысты вечар. Зала была перапоўнена — жадаючых было куды больш, чым месцаў у ёй. Аднак і яны не былі пакрыўджаны: тэлебачанне вяло прамую трансляцыю з тэатра.

Уступным словам адкрыў вечар і вёў яго народны паэт Беларусі Ніл **Гілевіч**. Шаноўнае спадарства, сказаў ён, у гэтыя незвычайныя, сапраўды гістарычныя дні, калі вырашаецца лёс нашай Радзімы, нашай краіны-бранaчкі, на беларускай зямлі завяршае сваё шэсце вялікае свята паэзіі і культуры, свята ў гонар аднаго з самых слаўных сыноў Бацькаўшчыны, геніяльнага паэта, выдатнага мысліцеля і бліскучага літаратурнага крытыка Максіма Багдановіча. Сёння эпагей святкавання. Пачаўшыся на зямлі, дзе паэт нарадзіўся, свята Максіма празіхацела прыгожымі, яркімі водбліскамі і далёка па-за межамі Беларусі, у гарадах Расіі і Украіны, у Прыбалтыцы і Польшчы, у Парыжы і Нью-Йорку, а наперадзе — вялікі ўрачысты вечар у Маскве.

Максім Багдановіч, працягваў Н. Гілевіч, гэта вечнае сумленне беларускай паэзіі і самой Беларусі. Ён не пераўзыдзены ў гісторыі беларускай культуры ўзор інтэлігента. Яго паэзія і сёння жывая, як само жыццё, і абысціся без яе проста немагчыма. Дасканала выхаваны на вялікай рускай літаратуры і культуры, на класічнай сучаснай літаратуры свету, на літаратуры і народнай творчасці Беларусі, Максім Багдановіч стаў узорам гарманічнай еднасці ўсяго гэтага шчаслівага спалучэння і ў гэтым сэнсе застаецца прыкладам для ўсіх нас, для ўсёй беларускай інтэлігенцыі. Бадай, яшчэ ніколі яго ўрокі і запаветы не адкрываліся чытачам з такой глыбінёй, як сёння, і ніколі не ўспрымаліся з такой удзячнасцю, як сёння. Сёння, калі збываецца векавечная мара беларускага народа аб свабодзе і незалежнасці. Не адно паэтычнае мастакоўскае і наогул нацыянальнае імя ў Беларусі не называецца з такім светла-шчымлівым пачуццём, як яго. З усіх дарагіх, запаветных у памяці народа імён ягонае імя па-асабліваму патрабавальна напамінае кожнаму з нас пра наш галоўны чалавечы і грамадзянскі абавязак. Нашы адносіны да Максіма Багдановіча, нашы пачуцці да яго не падлягаюць параўнанню, як не параўнаны яго творчы дар, яго паэтычны геній.

Нас на добрыя справы благаслаўляюць вялікія паэты і вялікія мужы нацыі, такія, як Францішак Скарына, Кастусь Каліноўскі, Францішак Багушэвіч, Янка Купала, Якуб Колас, Максім Гарэцкі. Нас благаслаўляе несмяротны дух Максіма Багдановіча. Прымем жа і сёння яго благаслаўленне, паклонімся, падзякуем яму і — за працу, дарагія сябры, за Адраджэнне Бацькаўшчыны, роднай мовы і культуры, нашай панявечанай духоўнасці. Менавіта на гэта благаслаўляе нас ён, нябачны, але вечна існы дух сярод нас і сярод тых, што прыйдуць за намі, што прыйдуць і праз дзесяткі і праз сотні гадоў, бо ва ўсім, што ёсць беларуская зямля і беларускае неба, яго душа, яго імя, яго боль, яго вера і надзея раствораны на вечныя векі.

Прысутных вітаў ганаровы госць урачыстага сходу, Генеральны дырэктар ЮНЕСКА Федэрыка **Маёр.** Любая нацыя, гаварыў ён, лічыла б за гонар мець такіх творцаў, як М. Багдановіч, які назаўсёды застаўся ў гісторыі не толькі нацыянальнай, а і сусветнай літаратуры. М. Багдановіч з'яўляўся палымяным абаронцам роднай мовы, тым самым спрыяў захаванню душы свайго народа, падкрэсліў Ф. Маёр.

Усхваляванае слова пра М. Багдановіча сказаў член-карэспандэнт Акадэміі навук Беларусі Алег **Лойка.** Рэдка каму, гаварыў ён, хто так мала жыў і тварыў, удалося так шмат пакінуць свайму народу, нацыянальнай культуры і літаратуры. Рэдка каму яшчэ пры жыцці наканавана было стаць легендай у народзе, песняй, запаветам.

Старшыня Саюза пісьменнікаў Рэспублікі Беларусь Васіль **Зуёнак** прачытаў свой верш «Зарука»: «І думка ад холаду стыне, і часам апусцяцца рукі, няўжо мы крычым у пустыні?! Ды слова зыходзіць зарукай — не будзь жа, не будзь іншаверцам на родным прычале, паўстань, паўстань, маё сэрца, з пустыні маўчання».

Народны дэпутат Украіны Раман **Лубкіўскі** нагадаў, як быў адзначаны юбілей М. Багдановіча ў братняй дзяржаве, назваў М. Багдановіча сваім духоўным бацькам. І не толькі таму, што той напісаў выдатныя артыкулы пра Т. Шаўчэнку, іншых украінскіх пісьменнікаў, а найперш таму, што Максім Багдановіч знаў: нацыянальная ідэя — справядлівая ідэя.

Юбілей Максіма Багдановіча — не проста чарговы стогадовы, гаварыў Рыгор **Барадулін.** Гэта яшчэ адно стагоддзе наша паэзія годна чулася ў свеце, як раўнапраўная, як непаўторная. Максім пражыў мала і застаўся маладым у свядомасці беларускай, зазначыў Р. Барадулін. Вялікае гора нацыі, што ён мала пражыў, але няхай даруецца мне панам Богам гэтае кашчунства: затое не паспеў абразіць вусны паэзіі сваёй вершамі савецкага сацыялістычнага складу. Засталіся вершы еўрапейскага складу, вершы паэта сусветнай арыентацыі.

Багдановіч і час, Багдановіч і сённяшні дзень, Багдановіч і вечнасць — пра гэта па-свойму гаварылі загадчык кафедры беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта **А. Баршчэўскі,** намеснік старшыні Ніжагародскага гарвыканкома **Л. Собалеў,** дырэктар Літаратурнага музея М. Багдановіча ў Мінску **А. Бяляцкі...**

І яшчэ адзін штрышок. Н. Гілевіч зачытаў рашэнне Мінскага гарвыканкома аб перайменаванні вуліц і плошчы горада. Вуліца М. Горкага стала вуліцай М. Багдановіча, цэнтральная магістраль Мінска — праспектам Францішка Скарыны, плошча перад Домам урада атрымала назву пляца Незалежнасці. Сімвалічнае рашэнне! І вельмі ж сімпатычна тое, што абвешчана яно ў Максімаў дзень, бо гэта ж ён прароча пісаў аб тым, што ўсе мы разам ляцім да зор.

Закончыўся вечар вялікім святочным канцэртам, у якім прынялі ўдзел лепшыя калектывы і выканаўцы Беларусі.

**НАШ КАР.**

---

8 снежня ў Траецкім прадмесці (вул. М. Багдановіча, д. 7а) адбылося святочнае адкрыццё Літаратурнага музея Максіма Багдановіча і ўшанаванне памяці паэта ў 100-я ўгодкі з дня яго нараджэння.

Дворык перад музеем, нягледзячы на мароз, быў запоўнены людзьмі. Сярод іх — шматлікія госці з Ніжняга Ноўгарада, Яраслаўля, Масквы, Вільні, Польшчы, Нямеччыны. Вёў вулічную імпрэзу дырэктар музея літаратуразнаўца Алесь Бяляцкі. Усхваляваныя словы пра Максіма казалі міністр культуры рэспублікі Я. Вайтовіч, мастак Э. Агуновіч, літаратуразнаўца В. Рагойша, сваякі М. Багдановіча. Першых наведвальнікаў музея на парозе сустрэлі спевы хору «Унія», сувенірныя вырабы, навінкі беларускай літаратуры.

Музей адчынены. Дух Максіма знаходзіць урэшце прытулак у родным горадзе...

**Ю. З.**

●

Сумскі педагагічны інстытут юбілею М. Багдановіча прысвяціў навуковую канферэнцыю. Яна прайшла пад дэвізам «Максім Багдановіч і Украіна». Асноўны даклад зрабіў старшыня аргкамітэта па святкаванню юбілею прафесар П. Ахрыменка. На канферэнцыі выступілі таксама паэт У. Лучук, дацэнт інстытута і паэт А. Грызун, старшы выкладчык М. Лазарко, прафесар Гомельскага універсітэта У. Анічэнка і многія іншыя.

Канферэнцыя мела багатую культурную праграму. Гучалі пераклады М. Багдановіча на ўкраінскую мову, вядомы кабзар-сумчанін выканаў песню на словы паэта «Не кувай ты, шэрая зязюля», музыку да якой стварыў сам, і раманс «Зорка Венера».

**В. ПЕТРЫЧЫЦ.**
г. Сумы.

●

У Гародні ініцыятарам святкавання юбілею Максіма Кніжніка выступіў Беларускі фонд культуры. Горад, дзе будучы класік нацыянальнай літаратуры пражыў з чэрвеня 1892 па канец 1896 года, падарыў усім прыхільнікам таленту М. Багдановіча выстаўкі, у тым ліку і твораў жывапісу, прысвечаных песняру; спектаклі батлеечнага тэатра, створаным пры яго музеі ў Мінску; выступленні фальклорнага тэатра «Госціца». Удзельнікі і госці свята наведалі гісторыка - археалагічны музей, музей М. Багдановіча, усклалі кветкі на магілу маці паэта Марыі Апанасаўны.

**Ю. КАЗЛОВІЧ.**

●

Свята, прысвечанае 100-годдзю М. Багдановіча, адбылося і ў Ялцінскім дзяржаўным аб'яднаным гісторыка-літаратурным музеі. Пра класіка беларускай літаратуры гаварылі навуковы супрацоўнік музея С. Качарга, загадчык аддзела дружбы народаў Крымскай рэспубліканскай бібліятэкі імя І. Франка Л. Няфедзева, старшыня Ялцінскага аддзялення Украінскага таварыства культуры А. Нырко.

На свяце выступілі беларускія паэты М. Аўрамчык і М. Казакоў.

Ансамбль капэлы бандурыстаў імя С. Руданскага Ялцінскага педагагічнага вучылішча выканаў беларускія народныя песні «А ў полі вярба» і «Чаму ж мне не пець», некалькі ўкраінскіх песень.

У літаратурнай гасцінай музея была разгорнута выстаўка кніг паэта і твораў, прысвечаных яму.

Перад святам яго ўдзельнікі і госці ўсклалі кветкі на магілу М. Багдановіча.

**М. БЯРОЗКІН.**
**(Па тэлефоне).**

---

**ТЭАТР**

## Мы калядачкам наравіць не будзем...

**«Студыйныя каляды» адбыліся між двума выпускамі «ЛіМа»; таму, натуральна, пра ўсе падрабязнасці, адметнасці, адкрыцці і неадкрыцці — у нашых бліжэйшых нумарах. З абяцаных арганізатарамі дваццаці пяці спектакляў прайшло... трыццаць, але моцы ды загартоўкі заўсёднікаў-наведнікаў хапіла ў лепшым выпадку на пятнаццаць, прытым што адмыслова складзеная праграма «прадугледжвала» для кожнага з аматараў не болей за... дзесяць. Фэстам скруту ды нецярплівасці можна было б пазначыць сёлетні: кожны новы спектакль ішоў пасля папярэдняга роўна праз... гадзіну (18 — у Тэатры-студыі кінаакцёра, у 19 — на сцэне ТЮГа, у 20 — на пляцоўцы Альтэрнатыўнага тэатра); таму, бывала, гледачы мянялі Мазыр на Мазыр (кінуўшы недагледжаным першы акт «Клеткі» ў пастаноўцы «Натхнення» людства імчала да першага акту «Мар'і», інтэрпрэтаванай «Вераснем»), ці перад дуэтам Дзюрэнмата-Ануя з Рускага тэатра аддавала перавагу «Дуэту для салісткі» ў Тэатры-студыі кінаакцёра. Вольна й бадзёра пачуваўся толькі дуэт з двух салістаў (кіраўнікоў - арганізатараў фестывалю) — Віргініі Тарнаўскайтэ, прэзідэнта Асацыяцыі тэатраў-студый, ды Аляксандра Яфрэмава, мастацкага кіраўніка Тэатра-студыі кінаакцёра. Дуэт вандраваў з пляцоўкі на пляцоўку, паведамляў усім прысутным, што спектакля, якія вось-вось убачым, яны самі не бачылі, але ўпэўнены — ён мае несумненныя вартасці...**

**Госці, запрошаныя па прынцыпе добрасуседства з Украіны, Літвы, Чэхіі, Славеніі, Германіі, у чымсьці разышліся густамі з беларускімі калегамі, у нечым — праверылі густы свае ды падзялілі нашы... Тым часам фестываль не набыў так званай беларускасці. Хіба толькі пазначыўся адзнакаю тутэйшасці. І, барані Божа, не таму, што беларуская мова амаль не гучала са сцэны ды ў кулуарах (яна, родная, давяла, што паміж «Дзе-Я» М. Трухана ды рускамоўнаю студыяй Рыда Таліпава больш агульнага, чым між дзвюма студыямі (тэатрамі) з Мазыра, а Альтэрнатыўны тэатр Вітаўтаса Грыгалюнаса пачуваецца ледзь не сваяком купалаўскага, калі на яго наляцела «Тапалевая завея»). І не таму, што фэстава-каляднага выгляду не набылі тутэйшыя шараговыя тэатральныя прапановы. І не таму, што гэтак званы фестывальны клуб зносін творчых асоб перакідваўся нятаннаю вячэрай, тлумам кавярні Дома мастацтваў ды сімпатычнымі ветлівымі амонаўцамі пры ўваходзе...**

**Але не будзем бегчы напярэймы падзеям. У наступным нумары «ЛіМа» — сустрэча з прадстаўнікамі нямецкага Зандкарн-тэатра з горада Карлсруэ.**

Ж. ЛАШКЕВІЧ.

# «НА БЕЛАРУСІ МОЖА БЫЦЬ ТОЛЬКІ БЕЛАРУСКАЯ ЎЛАДА»

## Творчая спадчына нацыянал-дэмакратаў

Няма таямніцы, што гісторыя нацыянальна-дэмакратычнага руху на Беларусі даследавалася раней з прадузятых, ідэалагічна «камунізаваных» пазіцый. Афіцыёзныя навукоўцы зусім збэшчвалі так званы «нацыяналізм», рэшта болей-меней сумленных даследчыкаў падавала ў сваіх працах багатую фактаграфію ды таксама была вымушана «прыпраўляць» яе дабрэннай порцыяй ідэалагічнай поліўкі.

Апошнім часам становішча мяняецца літаральна на вачах. А. Бяляцкі, А. і В. Грыцкевічы, М. Ермаловіч, Л. Казлоў, Я. Лецка, З. Пазняк, А. Сідарэвіч, В. Скалабан, М. Ткачоў і іншыя вядомыя беларускія даследчыкі па-новаму асэнсоўваюць гісторыю Бацькаўшчыны — менавіта з беларуска-цэнтрысцкага пункту гледжання, а не з пазіцый «маскаля» ці «ляха», як было раней. Шмат у дадзенай справе могуць дапамагчы першакрыніцы, якія вяртаюцца са спецсховаў. Вядома, спатрэбіцца пэўны час, каб яны прайшлі ўсебаковае навуковае вывучэнне, распаўсюдзіліся ў шырокіх колах грамадства. Аднак, згадзіцеся, найперш пра іх існаванне неабходна проста ведаць, мець дакладную бібліяграфічную інфармацыю.

Часткова літаратурная спадчына нацыянал-дэмакратыі ўжо дайшла да чытача, дзякуючы часопісам «Беларусь» («Польская акупацыя на Беларусі» А. Луцкевіча), «Маладосць» («Уражанні ад паездкі ў Беларускую Радавую Сацыялістычную Рэспубліку» В. Ластоўскага), «Спадчына» (публіцыстыка Я. Купалы, А. Гаруна), «ЛіМу» (прамовы А. Станкевіча, афіцыйныя дакументы часоў БНР), іншым сучасным перыядычным выданням і ратапрынтным перавыданням, здзейсненым у 1990—1991 гадах незалежнымі выдавецтвамі («Аўтаномія Беларусі» Я. Лёсіка, «Кароткая гісторыя БНР» А. Цвікевіча, «У трохсотыя ўгодкі сьмерці Вялікага Канцлера Льва Сапегі» М. Шкелёнка). Але гэта толькі верхавіна вялізнага айсберга.

Таму я хачу прапанаваць вашай увазе невялікі агляд літаратуры за аўтарствам шэрагу нацыянальных дзеячаў — А. Луцкевіча, Я. Варонкі, К. Езавітава, У. Ігнатоўскага, А. Цвікевіча і г. д., якая тычыцца пераважна перыяду дзейнасці Беларускай Народнай Рэспублікі. Напісаны гэтыя рэчы відавочнікамі і непасрэднымі ўдзельнікамі колішніх падзей і, безумоўна, з'яўляюцца даволі аб'ектыўнымі і важкімі аргументамі на шалях гістарычнай справядлівасці. Штосьці ў кніжках розных аўтараў паўтараецца, штосьці падаецца суб'ектыўна (у залежнасці ад палітычнай арыентацыі і акалічнасцей асабістага лёсу). Ды гэта якраз і дазваляе супаставіць розныя меркаванні, погляды і ацэнкі. Прынамсі, адзін бок, бальшавіцкі, мы, як кажуць, ужо выслухалі. Зараз патрэбна адвесці колькі ўвагі і боку супрацьлегламу — нацыянальна-дэмакратычнаму.

Найбольш інтэнсіўна літаратура нацыянальна-дэмакратычнага накірунку выдавалася ў 1917—1924 гадах, калі працавалі выдавецтва «Вольная Беларусь» (Менск), «Беларускае Выдавецкае Таварыства», «Віленскае Выдавецтва», «Выдавецтва В. Ластоўскага», «Выдавецтва «Гоман» (Вільня), «Выдавецтва імя Ф. Скарыны» (Коўна), «Выдавецтва Беларускай Вайсковай Камісіі» (Менск, Лодзь). Выходзілі таксама кніжкі выданнем Народнага Сакратарыята (урада) і Сакратарства (міністэрства) міжнародных спраў БНР, Міністэрства Беларускіх Спраў у Летуве, Беларускага Культурна-Прасветнага Таварыства «Бацькаўшчына», Беларускай Цэнтральнай Школьнай Рады, Таварыства «Заранка». Геаграфія выдавецтваў — Беласток, Брэслаў, Берлін, Варшава, Вільня, Гародня, Кіеў, Коўна, Менск, Слуцк і інш. Дзеля шырокай прапаганды за мяжой ідэі незалежнасці Беларусі афіцыйныя дакументы і кніжкі дзеячаў БНР выпускаліся на некалькіх мовах: польскай, літоўскай, украінскай, расейскай, ангельскай, французскай, нямецкай.

Вось перада мною друкаванка «Усходняя Беларусь: Статыстычные і гістарычные матэрыялы» (Менск, 1918). Аўтар яе пазначаны крыптанімам—А. У. (Апошняя літара, друкаваная ў выглядзе вензеля, можа быць і лацінскім «L», хоць у «Летапісе беларускага друку. Частка III. 1917—1924 г.» загаловак бібліяграфічнага апісання падаецца менавіта, як «А. У.»). Паводле гісторыка М. Сташкевіча гэта —А. І. Луцкевіч, старшыня Рады Народных Міністраў БНР у 1918—1919 гадах. На адвароце тытульнага ліста пазначана: «Выдана па распараджэнню Народнаго Сэкрэтарства Міжнародовых Справаў. Журн. Паст. Народнаго Сэкрэтарыяту ад 22 чэрвеня 1918 года, п. 5.» Такім чынам, перад намі, відавочна, адно з першых выданняў афіцыйных структур БНР.

Аналізуючы абстаноўку на Беларусі адразу пасля рэвалюцыі, аўтар зазначае, што «нацыональная сьвядомасьць захапіла ўсе станы і ўсе кругі беларускаго грамадзянства», за нацыянальнай працай бачна «много чынных інтэлігенцкіх сіл», простага народу, святарства. Вельмі каштоўна тое, што амаль на дзвюх старонках падаюцца прозвішчы 106 нацыянальных дзеячаў, згрупаваныя па прафесіях і сацыяльным стане.

З кніжкі даведаемся, як заснаваўся ў Менску Саюз Ксяндзоў-Беларусаў (налічваў да 200 сябраў, між якімі: кс. Астрамовіч (у Менску), кс. Сак, кс. Бойка, кс. Лапошка (у Магілёве), кс. Шалкевіч, д-р «філёзофіі» Бабіч (у Друі), кс. Будзька, д-р Абрантовіч і інш.). Цэнтрам праваслаўнага духавенства была Масква, куды патрапілі блізка ўсе вывезеныя з Гродзеншчыны і Віленшчыны святары. Улетку 1917 года там адбыўся з'езд з удзелам каля 800 праваслаўных святароў-беларусаў, які вынес рэзалюцыю ў беларускім нацыянальным духу.

Спазнаем таксама пра заклададзеныя тады беларускія гімназіі ў Слуцку (былым урадавым камісарам з часоў Керанскага — Р. Астроўскім) і ў Буцлаве, праз з'езды беларусаў-вайскоўцаў у Менску, Віцебску, Слуцку, Кіеве і Адэсе, беларускія кавалерыйскія часці на Румынскім фронце. Уведаем, нарэшце, прозвішчы тых, хто столькі зрабіў, каб заснаваць беларускае нацыянальнае войска: генералаў Кандратовіча, Аляксееўскага, Караткевіча, палкоўніка Курата, К. Езавітава, М. Касьцевіча, Е. Ярушэвіча, А. Зенюка, Р. Якубені, І. Красоўскага, Залатарэнкі (пададзена, як у арыгінале.—**В. Г.**).

Не адразу кідаюцца ў вочы аб'явы на вокладцы пра падпіску на беларускія перыядычныя выданні. Але сучаснаму дапытліваму гісторыку і археографу шмат могуць падказаць звесткі — дзе, калі, чыім коштам выдавалася беларуская газета ці часопіс, іх перыядычнасць, склад рэдкалегіі і да т. п. Прывяду абвестку толькі пра адно выданне: «Віленская беларуская часопісь «Гоман». (3-ці год выданьня). Выходзіць двойчы на тыдзень—у аўторак і пятніцу і прадаецца ўсюды. У часопісі друкуюцца апошніе навіны беларускаго руху, усе пастановы і статуты Народнаго Сэкрэтарыяту і Рады беларускай Народнай Рэспублікі. Супрацоўнікі часопісі: Антон Луцкевіч, Іван Мелешка, Іван Луцкевіч, Янка Станкевіч і інш. Адрэс рэдакцыі: Вільня, Віленская вул., 33. Цэна асобнаго № 10 кап. Выдавецтво «Гоман». Рэдактар Язэп Салавей».

Язэп Варонка — першы старшыня ўрада БНР. У 1919 годзе ў Коўне выходзяць яго кніжкі: «Белорусский вопрос к моменту Версальской Мирной Конференции» (тут і далей, датычна рускамоўных варыянтаў кніг, пераклад цытат на беларускую мову зроблены мною і таму можа крыху не адпавядаць арыгіналу. — **В. Г.**) і «Заходняя Беларусь («Городзеншчына і Віленшчына»)».

Засяроджуся на першай кніжцы—гісторыка-палітычным нарысе, які ахоплівае падзеі, што адбываліся з 1 снежня 1918 года па 1 чэрвеня 1919-га на тэрыторыі ў межах старой нямецкай акупацыі. У яго аснову пакладзена «меморыя», падрыхтаваная аўтарам для шэфа Вайскова-палітычнай місіі ЗША на Фінляндыю, Эстонію, Латвію, Літву і Беларусь палкоўніка Уорвіка Грына, і размова з ім, калі той наведаў Коўна ў маі 1919 года. Меморыя мела мэтай даць даведку Мірнай Канферэнцыі ў Версалі і суправаджалася васемнаццццю афіцыйнымі дакументамі.

Насельніцтва Беларусі знаходзілася напрыканцы 1918 года «паміж чатырма ўладамі: нямецкай уладай, з кожным днём палягчаючай свой рэжым з прычыны адводу войск, на захадзе польскай уладай, праяўляючай незвычайны запал да выканання ўсей паўнаты праграмы нямецкай акупацыі пачатку вайны і ў шмат якіх выпадках далёка гэтую праграму пераўзыходзячай, роднай беларуска-літоўскай уладай, не маючай пакуль значнай моцы і, нарэшце, наступаючай з усходу і абяцаючай зямны рай імперыялістычна-савецкай уладай» (с. 26—27). Да гэтага часу склаўся пэўны кансенсус паміж Літоўскай Тарыбай і Віленскай Беларускай Нацыянальнай Радай (утворана 25—27 студзеня 1918 г.): шэсць сяброў—кіраўнікоў Віленскай Беларускай Рады, адзін з іх у той самы час і сябра Рады БНР, увайшлі ў Літоўскі Дзяржаўны Савет—пашыраную Літоўскую Тарыбу, а сябра Савета Народных Міністраў БНР Я. Варонка атрымаў у складзе Літоўскага Урада пасаду міністра беларускіх спраў.

Формуле такой згоды папярэднічаў той сумны факт, што вымогі беларускіх дзеячаў з моманту разгону 1-га Усебеларускага Кангрэса (гэта значыць, з канца 1917 года) аж да захопу бальшавікамі Менска пасля адыходу германскіх войск (на пачатку 1918 года) паставіць Беларусь хоць бы паміж малых дзяржаў і дамагчыся прызнання незалежнасці БНР ні да чаго не прывялі. Уся антыбеларуская маскоўская прэса навыперадкі крычала, што беларуская дзяржаўная самастойнасць арганізуецца па нямецкіх мерках нямецкімі ж генераламі. А Германія, між тым, першая адхіліла меморыю Беларускага ўрада аб прызнанні БНР. (Літоўская Тарыба, дарэчы, немцамі была прызнана). Вось чаму погляды часткі беларускіх дзеячаў скіраваліся на Літоўскую рэспубліку. Спачатку ўсё складвалася як мага лепш. Міністэрствам Беларускіх Спраў на пасады павятовых камісараў у беларускай частцы Летувы прызначаліся выключна беларусы. Таксама рыхтаваліся штаты суддзяў, адміністратараў, павятовай і гарадской міліцыі. Беларускі ўплыў, улічваючы амбіцыі Польшчы адносна Беластока, Бельска і Гародні, замацоўваецца рашэннем Беларускага Нацыянальнага Кангрэса Гродзенскага краю (1—3 снежня 1918 г.) аб няўхільным далучэнні гродзенскай часткі Беларусі да Летувы.

Я. Варонка добра ведае прадмет, пра які піша, бо быў у гушчы падзей. Паслядоўна, засноўваючыся на рэаліях, ён раскрывае далейшы ход таго, што адбывалася на Віленшчыне і Гродзеншчыне.

У першых днях студзеня 1919 года бальшавікі захапілі Вільню. Літоўскі ўрад пераехаў у Коўна, а Міністэрства Беларускіх Спраў у Гародню. Гэта яшчэ больш ажывіла тут працу беларусаў. Але былі і аб'ектыўныя цяжкасці: на вёсцы ў большасці сваёй жылі беларусы-каталікі, якія ксяндзамі агітаваліся ў тым сэнсе, што «ўсякі каталік, дзе б ён ні нарадзіўся—ужо паляк». Частка ж праваслаўнага насельніцтва разам з адпаведнай інтэлігенцыяй і святарствам у 1915 годзе падалася ў эвакуацыю на ўсход (з Гродзенскай губерні—звыш 800 000 чалавек)...

Добрыя пачынанні хутка перарваліся — праз беларускую тэрыторыю на бальшавікоў рынуліся польскія легіёны. Галоднае, перанёсшае гароты вайны беларускае насельніцтва жадала аднаго — хлеба. І Беларусь тады сталася цацкай для ляхаў. Паўсюды аб'яўлялася, што польскія ўлады і польскае войска нясуць з сабою не толькі вызваленне ад немцаў і бальшавікоў, але, галоўнае, харчаванне, што Амерыка, маўляў, прысылае ў Варшаву «хлеб і сала», якімі палякі ўдосталь могуць забяспечыць сялян. Ды «хлеб і сала» маглі атрымаць толькі тыя, хто ўступаў у польскія кааператывы, а ў апытальных лістах запісваўся—«паляк». Зразумела, галодныя беларусы-каталікі значна павялічылі колькасць «польскага» насельніцтва ў былой Гродзенскай губерні...

Усяго дваццаць дзевяць старонак (у падзагалоўку так і пазначана — «кароткі агляд») мае наступнае выданне Я. Варонкі «Беларускі рух ад 1917 да 1920 году» (Коўна, 1920). Але кніжка гэтая вельмі інфарматыўная, бо асвятляе дзейнасць і беларусаў-вайскоўцаў у 10-й царскай арміі, якая стаяла на Меншчыне, і латышскіх вайсковых частак, што ў свой час адыгралі на Беларусі «дзеля бальшавіцкага рэжыму ролю свайго звычаю жандармска-казацкіх сотняў, пакуль іх не зьмянілі кітайцы і башкіры», і падтэкст дазволенай Пілсудскім, скліканай 12 лістапада 1919 года Рады БНР (якая, аднак, падманула спадзяванні шляхетнага Юзафа і «вынесла энэргічны пратэст проці польскага гаспадарэньня ў краі», за што і была амаль у бальшавіцкім стылі разагнана).

Аглядаючы тагачасны беларускі друк, аўтар піша рэзка, калі-нікалі палемічна, але чэсна, і не маскуючы сваю пазіцыю, да прыкладу: «...толькі бальшавіцка - правакатарскія маскоўская «Дзянніца» і петраградзкі «Чырвоны Шлях», запраданыя «народнаму камісару» нацыянальных спраў, якомусьць С. Джугашвілі, гаманілі, што менскія беларусы працуюць па ўказцы немцаў (!) і палякаў (!)», або: «...беларускія ксяндзы выдаюць у Вільні сваю каталіцкую газэтку «Крыніца», дзе больш гавораць аб уніі, ніж аб безварунковым уводзе беларускай мовы ў касьцёле. Там жа выходзіць яшчэ і яўна полёнафільскі тыднёвік «Беларускае Жыцьцё». Больш ні ў Вільні, ні ў Гародні німа ні воднай беларускай газэты; выдаваўшыяся перэд тым—у Гародні «Родны Край» і «Бацькаўшчына», а ў Вільні «Беларуская Думка» і «Незалежная Беларусь» за вельмі праўдзівыя словы альбо забаронены ўладай, альбо зачыніліся з поваду «пераводу» іх кіраўнікоў і супрацоўнікаў з рэдакцыяў у турмы». Даведаецца таксама цікаўны чытач, калі наша сталіца ўпершыню пачала звацца Менскам-Беларускім і якія беларускія выданні выпусціла «Таварыства імя Ф. Скарыны», і г. д.

У заключэнне агляду Я. Варонка звяртае ўвагу «на рожныя вінавачэньня беларусоў у іх нешчырасьці і на спробы знайсьці ў грунце беларускага руху нямецкія, польскія, альбо якія іншыя грошы»: «Што датыча першага, то ў свой час, як мы бачылі, немцы падавалі вялікія надзеі ў дапамозе адраджэньню беларускае культуры і распаўсюджэньню беларускага руху. Не можна ўпусьціць з вока таго факту, што фэльдмаршал Гіндэнбург першы —у пачатку 1916 году асобным расказам аб'явіў беларускую мову ў старой акупацыі мовай раўнапраўнай іншым мовам у краі: літоўскай, жыдоўскай і польскай. Праўда, не ў інтэрэсах імператарскага гэнерала было называць у той чы іншай часьці акупацыі пераважываючай мовай (чы па нашаму дзяржаўнай) беларускую, чы літоўскую. Але, апроч таго, што пры немцах на беларускай мове друкаваліся адозвы, пашпарты, падтрымліваліся беларускія школы, школьныя выдавецтвы, і то ўсё ў вельмі незначных, адносна да іншых, размерах, больш мы ўчасьця нямецкай грашовай дапамогі беларускай справе не знайходзім. (...) Беларуская справа за гэты час расла, шырылася і цьвіла сама сабою, стыхійна таму, што істотаю яе быў, ёсьць і будзе сам беларускі народ, яго адвечнае істнаваньне, сіла яго адраджэньня, багаты скарб яго мінуўшчыны».

Адным з адметных лідэраў нацыянальнага руху быў А. І. Цвікевіч, актыўны дзеяч беларускай партыі сацыялістаў-федэралістаў, міністр замежных спраў і прэм'ер-міністр урада БНР у 1923—1925 гг. Трымаю ў руках «Краткий очерк истории Белоруссии» (паасобнік Урадавай бібліятэкі без вокладкі, таму месца выдання не ўдалося высветліць, год —прыблізна 1918 або 1919). У ім добра выкладзены матэрыялы пра Усебеларускі кангрэс (1917). Як узор правакацыйных мерапрыемстваў бальшавікоў з Савета Народных Камісараў Заходняй вобласці і фронту ўяўляецца наступная тэлеграма: «Заходні фронт. Палукораву. Паведаміце таварышам, каб на з'ездзе беларусаў рады яны зрабілі пераварот грамадскай думкі, раскол, высветлілі буржуазнасць яе. Гэта патрабуецца. Галоўкамзах Мяснікоў». Змешчаны таксама тэксты ўстаўных грамат БНР і прысвечаны ёй артыкул М. В. Доўнар-Запольскага: «Жэрабя выкінута! Вялікі акт у жыцці нашага народу здзейсніўся: Беларусь аб'яўлена сваім Часовым Урадам самастойнай рэспублікай. (...) Мы павінны ўсе згуртавацца, мы павінны напружыць усе свае сілы фізічныя і культурныя дзеля таго, каб апраўдаць нашае права на самастойнае існаванне і адстаяць незалежнасць нашай радзімы. Да дружнай працы, браты!»

У 1919 годзе выданнем Надзвычайнай Дыпламатычнай Місіі ў Берліне выйшаў палітычны нарыс А. Цвікевіча «Беларусь», у якім закранаюцца пытанні гісторыі ВКЛ, адносін да Польшчы, беларускага руху.

Доктар Цвікевіч шырока цытуе папярэднія працы па дадзенай тэматыцы: «Зборнік беларускіх песняў» (М., 1871) П. Бяссонава, «Кароткі нарыс узнікнення Беларускай Народнай Рэспублікі» (Кіеў, 1917), «Асновы Дзяржаўнасьці Беларусі» (Гродна, 1919) і інш. Быццам прадбачачы ганебны Рыжскі дагавор, яшчэ ў 1919 годзе аўтар заўважае: «У дадзены момант можна ўпэўнена сказаць, што усталяванне на тэрыторыі ўсёй Беларусі ўлады польскай або ўлады расейскай — рэч малаверагодная; болей рэальная і таму болей жахлівая трэцяя альтэрнатыва: падзел Беларусі на вялікарасейскую і польскую сферу ўплываў».

Найбольш грунтоўная сярод разглядаемых трэцяя кніжка А. Цвікевіча «Адраджэньне Беларусі і Польшча» (Менск, Вільня, Берлін, 1921). У ёй амаль дзвесце старонак, некалькі з іх займае спіс літаратуры на польскай мове. Храналогія разглядаемых гістарычных падзей — ад 1772 па 1920 год. У сваіх развагах А. Цвікевіч рашуча выступае ў абарону краю «ад русіфікатараў, распеваўшых на Нёмане, ці на Віліі «вниз по матушке, по Волге», ды не прыніжаецца да агульнага адмаўлення краін-суседзяў, спецыяльна падкрэсліваючы, напрыклад, што «ня польскі народ, але польская дзяржава можэ аказацца для Беларусі варожай». Цяжка нешта запярэчыць і на гэта: «Уся гэтая сварка паміж польскай і расейскай аргумэнтацыей, вымагаўшай — першая, вызнаньня гэтага краю нацыянальна асобным ад Расеі, а палітычна польскім, а другая — вызнаньня, што гэта ёсьць «край русский, тысячу раз русский!» — мела той добры вынік, што нарэшці быў выяўлен запраўды нацыянальна-палітычны характар Беларусі: што гэта край ня польскі і ня рускі, але што гэта ёсьць «край самабытны, асаблівы...»

А. Цвікевіч зазначае, што ўсе вымогі беларускіх прадстаўніцтваў БНР за межамі Беларусі пазнаёміць тамтэйшую грамадскасць з беларускім пытаннем, гаварыць аб патрэбах народа і пратэставаць супраць гвалту, які над ім адбываўся, мелі невялікі поспех: «...усе лічацца з голай сілай, з аружным захватам і не цікавяцца правамі, хоць бы яны былі найсьвяцейшымі. (...) Дзе вашае войска, пытаюцца яны ў першую чаргу? Дзе ваша тэрыторыя і вашы грамадзяне? Дзе вашае гістарычнае мінулае, ваша культура? І беларуская дацяперашняя дзяржава, к свайму «стыду», ня можа паказаць ні свайго войска, ні гармат, ні кулямётаў, ня можа распараджацца адпаведнай яго мапе тэрыторыей.

Праўда, беларускія жаўнеры ёсьць, але яны параскіданы па арміях польскай, расейскай, літоўскай і ня могуць быць скліканы пад свае ўласные сьцягі...»

КАСТУСЬ ЕЗАВІТАЎ — фігура найбуйнейшая і легендарная ў беларускай гісторыі, роля якога ў ёй дасюль яшчэ шмат у чым таямніца. К. Езавітаў стаяў ля вытокаў беларускага нацыянальнага войска, уваходзіў ва Урад БНР, займаўся беларускім школьніцтвам у Латвіі, выдаў многа навуковых і публіцыстычных прац. Некалькі кніжак з экслібрысамі асабістай бібліятэкі і аўтографамі К. Езавітава захоўваюцца ва Урадавай бібліятэцы БССР. Звернем увагу на дзве з іх.

«Белоруссы и поляки: документы и факты из истории оккупации Белоруссии поляками в 1918 и 1919 годах» (Коўна, 1919). Гэта пераклад з беларускай (у кніжцы пазначана, што яна выдаецца на беларускай, украінскай, рускай, літоўскай, французскай, нямецкай і яўрэйскай мовах). У канцы прадмовы стаіць: «Жнівень, 1919 года, г. Коўна, вул. Міцкевіча, 13а. Міністэрства Беларускіх Спраў». Складаецца выданне з дзвюх частак. У першай коратка і папулярна падаюцца некаторыя звесткі пра беларуска - польскія ўзаемаадносіны (падраздзелы: «Хто такія беларусы», «Хто такія «палякі на Беларусі», «Для чаго патрэбна палякам Беларусь» і г. д.), у другой — храналагічна прыводзяцца дакументы (агульным лікам — 33), што тычацца польскага гвалту на Беларусі. Дакументы запазычаны з трох крыніц: архіву Рады Міністраў БНР, архіву Міністэрства Беларускіх Спраў Літоўскай дзяржавы, асабістага архіву аўтара.

На вокладцы кніжкі пададзены абвестка пра выхад новай працы К. Езавітава «Беларусь ад Керанскага да Пілсудскага» і спіс новых выданняў Міністэрства Беларускіх Спраў у Літве і «Выдавецтва імя Ф. Скарыны».

У 1921 годзе К. Езавітаў працаваў інспектарам беларускіх пачатковых школ у Латвіі. Яшчэ тады ён з мэтай дапамогі беларускаму настаўніцтву ў школьнай і пазашкольнай культурна-асветнай працы сабраў і падрыхтаваў шэраг дыяпазітываў для гутарак з вучнямі, сялянамі і рабочымі на тэмы гісторыі, этнаграфіі і геаграфіі Беларусі. Але яны слаба выкарыстоўваліся, і тады, каб даць прыклад і матэрыял для гутарак-лекцый, за аўтарствам К. Езавітава выдаецца некалькі дапаможнікаў. Першы з іх — «Беларусь у мінулым і сучасным. Канспэкт пазашкольнаму працаўніку для лекцыяў з чароўным ліхтаром» (Рыга, Беларускае Выдавецтва ў Латвіі, 1927). Да яго прыкладаўся спіс дыяпазітываў, якія былі пры Беларускім Аддзеле Міністэрства Асветы Латвіі. А вось як характарызаваў аўтар «сучаснае становішча беларусаў»: «Савецкая Беларуская Рэспубліка не змагла зьдзейсьніць усіх нацыянальных лятуценьняў беларускага народу. Яна шмат зрабіла для беларускае культуры... аднак Савецкая Беларусь ня здолела зрабіць яшчэ самага галоўнага, ня здолела сабраць у адно цэлае ўсіх беларускіх зямель, якія да гэткага часу астаюцца падзеленымі на тры часткі. (...) Тут (у Заходняй Беларусі. — **В. Г.**) беларускія масы стаяць перад пагрозай духоўнага і фізычнага вынішчэньня іх з боку азьвярэлага польскага шавінізму (...) Усходняя Беларусь, са Смаленскам, Нэвелям, Рославам, Бранскам і Старадубам, — да гэтага часу, чамусьці, увайходзе не ў Савецкую Беларусь, а ў склад Маскоўшчыны».

Згодна латвійскай статыстыцы, у 1920 г. у Латвіі налічвалася 76 000 беларусаў: «Гэтая жменька беларусаў знайшла ў Латвіі вызнаньня сваіх нацыянальных праў і, ня ў прыклад Польшчы, мае тутака і свае беларускія школы... якія ўтрымліваюцца за кошт Латвійскай Дзяржавы».

Хто будзе сцвярджаць, што згубіла актуальнасць наступнае выказванне: «Узрост беларускага руху высоўвае беларускае пытаньне ў шэраг актуальнейшых палітычных пытаньняў сучаснае Эўропы... Пры гэтым можна з пэўнасьцю сказаць толькі адно, што Беларусь безумоўна выйдзе з усіх гэтых гістарычных перадраг культурна і нацыянальна ўзросшаю, цэлаю, значна памацнеўшаю і аб'яднанаю ў адну нацыянальна - дзяржаўную адзінку».

КРЫХУ ІНШАГА ПАРАДКУ кнігі, якія выйшлі ў Савецкай Беларусі і потым кінутыя ў спецсховы. Напісаныя з артадаксальна-бальшавіцкіх (па нацыянальным пытанні) пазіцый або пры пэўных цэнзурных абмежаваннях, яны ўяўляюць цікавасць сваімі фактычнымі дадзенымі. Так, ва ўкладзеным С. Агурскім зборніку артыкулаў і дакументаў «Кастрычнік на Беларусі» (Вып. першы, Менск, 1927) змешчаны артыкул В. Кнорына «У час між нямецкай і польскай акупацыямі», напісаны ў 1919 годзе. Пагартаеш яго і знойдзеш са спасылкай на «Абвестку Народнага Сакратарыяту Беларусі» (№ 3 ад 23 (10) лютага 1918 года) склад Народных Сакратароў (міністраў) урада БНР: «Унутраных Спраў — І. Н. Макрэеў, Замежных Спраў і старшыня Народнага Сакратарыяту — І. Я. Варонка, Народнай Асьветы — А. А. Смоліч, Юстыцыі — Е. Е. Бялевіч, Народнай Гаспадаркі — І. Н. Серада, Шляхоў Зносін — В. С. Рэдзька, Грашовых Спраў — Г. М. Гелкінд, Забясьпекі — П. А. Бадунова, Вялікарускіх Спраў — І. В. Злобін, Пошт і Тэлеграфаў — А. К. Карач, Кантролю — П. А. Крычэўскі, кіраўнік спраў — Л. І. Заяц і асобна ўпаўнаважаны па Вайсковых Справах — К. Б. Езавітаў».

Возьмем наступныя выданні: «Революция и национальный вопрос: Документы и материалы по истории национального вопроса в России и СССР в XX веке. Том третий. 1917. Февраль—октябрь» (М., 1930), «Нацыянальнае пытаньне і Камуністычная партыя: Зборнік артыкулаў, прамоваў і пастановаў» (Менск, 1924). Засяродзімся на вайсковым пытанні, паколькі сёння яно не пакідае абыякавым нікога. З першага зборніка можна даведацца пра парадаксальныя факты. Некалі Сталін у дакладзе на канферэнцыі вайсковых арганізацый РСДРП(б) (20 чэрвеня 1917 г.) падтрымаў «права Украіны на поўнае нацыянальнае самавызначэнне, аж да дзяржаўнага адлучэння і стварэння нацыянальных палкоў». А ў тым самым месяцы ў рэзалюцыі канферэнцыі Беларускай Сацыялістычнай Грамады ў Петраградзе гаварылася, што яна «прынцыпова супраць стварэння нацыянальных палкоў. У іх заінтарасаваны буржуазія і контррэвалюцыянеры. Канферэнцыя БСГ упэўнена, што міністры-сацыялісты падтрымаюць яе і выдадуць адпаведны загад па войску». Аналагічная рэзалюцыя была прынята на з'ездзе беларускіх грамадскіх арганізацый і партый (Менск, 8—11 чэрвеня 1917 г.): «Па пытанню аб арганізацыі беларусаў-вайсковых ухвалена: зацвердзіць абранае вайсковай секцыяй арганізацыйнае бюро беларусаў-вайсковых; з-за тэхнічных цяжкасцей дадзенага моманту арганізацыю нацыянальнага войска адкласці да болей падыходзячага часу».

Цікава, што пазіцыя БСГ супадала з пазіцыяй Керанскага. А супраць такіх поглядаў выступаў тады Ленін (у зборніку змешчаны ўсе датычныя гэтага першакрыніцы). У маі 1917 адбыўся 1-ы Украінскі вайсковы з'езд, які заявіў пра неабходнасць стварыць украінскае нацыянальнае войска. У чэрвені меў адбыцца Усеўкраінскі вайсковы з'езд. Але вайсковы міністр Часовага ўрада Керанскі забараніў яго праводзіць. У артыкуле «Не дэмакратычна, грамадзянін Керанскі!» Ленін асудзіў гэты факт. (Што, аднак, не замінула бальшавікам праз нейкіх паўгода разагнаць 1-ы Усебеларускі Кангрэс і забараніць дзейнасць Цэнтральнай Беларускай Вайсковай Рады). Пазней, у 20-я гады, РКП(б) зразумела памылковасць недаацэнкі нацыянальнага фактару ў войску. Гэта добра відаць з дакументаў зборніка «Нацыянальнае пытаньне і Камуністычная партыя» (Менск, 1924). Так, у змешчанай частцы артыкула Л. Троцкага («Пэрспэктывы й заданьні вайсковага будаўніцтва» даводзіцца неабходнасць, каб «Часьці Чырвонае арміі, і перш за ўсё іх політычны і камандны склад, ведалі характар, асаблівасці і гісторыю тых нацыянальнасьцяў, у асяродзьдзі якіх яны разьмешчаны»; прапаноўваецца «заразжа (артыкул датаваны 23 мая 1923 г. — **В. Г.**) распачаць падрыхтоўку грунту дзеля утварэньня нацыянальных частак і армій», пачаўшы «з правіловай сеткі вайсковых школ, зусім дапасаваных да нацыянальных і мясцовых умоў».

Ва ўводзінах да зборніка ўкладальнік У. Ігнатоўскі, на той перыяд — народны камісар асветы БССР, таксама закранае праблему тэрытарыяльных (міліцыйных) фарміраванняў і гаворыць, што вайсковая частка такога тыпу была ўтворана на Беларусі ў ліпені 1923 года: «Яна атрымала назову «Беларускай Міліцыйнай Дывізіі». Пры дывізіі была адчынена школа для падгатоўкі каманднага складу. У дывізію былі выкліканы са ўсяго Саюзу ваенныя спецыялісты — ураджэнцы Беларусі».

Тут неабходна заўважыць, што ў сярэдзіне 30-х гадоў нацыянальныя вайсковыя фарміраванні былі паступова зліквідаваны. Увайшоўшы ў моц, сталінізм ужывацца з імі не хацеў, ды і не мог, бо гэта супярэчыла самой яго антынацыянальнай сацыяльнай прыродзе. (А У. Ігнатоўскі, як вядома, вымушаны быў застрэліцца).

Вось такія парадоксы гісторыі. І вучаць яны своечасова і рэальна ацэньваць палітычную сітуацыю. Прамарудзілі некалі ў 1917 годзе з войскам (украінцы — вунь калі пачалі!) — і засталіся з носам пры абароне БНР. Дык, можа, сёння не прамарудзім?!

Бясспрэчна, яшчэ адной цяжкай і недаравальнай памылкай будзе зноў даверыць нацыянальную справу камуністам або іх наступнікам, якія зараз актыўна мімікрыруюць пад адраджэнцаў. «Аб'ектыўнае і вельмі актуальнае папярэджанне таму — старонкі кнігі Ф. Акінчыца «Правакацыя беларускага народу. Да справы б[ылога] старшыні Грамады Б. Тарашкевіча» (Вільня, 1933): «Пятнаццаць гадоў пануе дыктатура камуністаў у калішняй Расеі і пятнаццаць гадоў льецца там кроў нявінных людзей. Камуністы пастараліся зьнішчыць праўдзівых барацьбітоў за лепшую долю працоўных масаў, абвесьціўшы ўсіх соцыялістаў контр-рэвалюцыянерамі».

НА ЗАКАНЧЭННЕ — прапанова, так бы мовіць, арганізацыйнага плана. Патрэба ў літаратуры, скіраванай на павышэнне нацыянальнай свядомасці, відавочная. Яна неабходна, асабліва беларускай моладзі, як паветра. І вельмі да месца тут прыдалася б серыя факсімільных выданняў «Гісторыя БНР у дакументах і сведчаннях відавочцаў» ды серыя навукова-літаратурных біяграфічных кніжак пра дзеяча БНР (нешта накшталт «Жыццё выбітных людзей Беларусі»). Тут я не прэтэндую на арыгінальнасць: на Усебеларускім Кангрэсе (1917) па прапанове старога нарадавольца П. Бонч-Асмалоўскага было пастаноўлена сабраць усе падрабязныя дадзеныя пра жыццё і дзейнасць барацьбітоў за волю Беларусі і выдаць іх асобнай кнігай. Тады гэта не ўдалося ажыццявіць. Споўнім жа доўг нашчадкаў перад Святымі Беларусамі, якія верылі падобна А. Цвікевічу, што «...народ беларускі не дапусціць новага яшчэ болей цяжкага здзеку над сабою і сваёю палітычнай згуртаванасцю, вышынёй сваёй нацыянальнай самасвядомасці створыць той моцны фундамент, аб які разаб'юцца паражаючыя мячы дужых суседзяў. Ні пад Варшавай, ні пад Петраградам ён не складзе сваёй зброі, не схіліць сцяга, на якім напісана: «Вольная Беларусь». З якога б боку ні йшоў гвалт, ён яго не прызнае, сцвярджаючы, што на Беларусі можа быць толькі ўлада беларускага народу. На Беларусі можа быць толькі беларуская ўлада! Яна павінна быць не толькі таму, што гэта будзе самая натуралёвая, самая нармалёвая ўлада, але і таму, што толькі беларуская нацыянальная ўлада вырашыць праблему упарадкавання палітычнага жыцця гэтай краіны».

**В. ГЕРАСІМАЎ,**
**галоўны бібліёграф Урадавай бібліятэкі Беларусі.**

## ГАНЧАРОЎ Мікалай Іванавіч



Раптоўна і заўчасна, на 58-м годзе, абарвалася жыццё Мікалая Іванавіча Ганчарова — галоўнага мастака Дзяржаўнага камітэта Рэспублікі Беларусь па друку, члена Саюза мастакоў і Саюза журналістаў Беларусі.

М. І. Ганчароў нарадзіўся ў 1934 годзе ў вёсцы Заполле Віцебскага раёна ў сялянскай сям'і. У гады фашысцкай акупацыі хлапчуком быў вывезены ў канцлагер у Германію. Пасля вайны скончыў сямігодку, потым Віцебскае мастацка-графічнае вучылішча і Маскоўскі паліграфічны інстытут. Займаў пасады рэдактара Камітэта па радыёвяшчанні і тэлебачанні пры Савеце Міністраў Беларусі, навуковага супрацоўніка Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору Акадэміі навук рэспублікі. Больш як чвэрць веку Мікалай Іванавіч працаваў галоўным мастаком Дзяржкамдруку Беларусі. У тым, што беларуская кніга набыла высокія мастацка-паліграфічныя вартасці і сёння яе ведаюць далёка за межамі Беларусі, ёсць важкі плён яго руплівай і самаадданай працы, адзначанай дзяржаўнымі ўзнагародамі Рэспублікі Беларусь.

М. І. Ганчароў быў шчодра даравітым чалавекам: ён плённа працаваў у выяўленчым мастацтве, пісаў вершы, займаўся даследчай працай. Шырокае прызнанне атрымалі яго графічныя творы, даследаванні ў галіне мастацтвазнаўства, зборнікі вершаў.

Мікалаю Іванавічу былі ўласцівы грамадзянская адказнасць, таварыскасць і добразычлівасць, павага да людзей. Як чалавек сапраўды інтэлігентны ён карыстаўся аўтарытэтам у калектыве, у творчых саюзах, сярод работнікаў культуры.

Добрая справа, чалавечнасць і абаяльнасць Мікалая Іванавіча Ганчарова будуць доўга жыць у памяці і сэрцах тых, хто ведаў яго і працаваў з ім.

**Дзяржаўны камітэт Рэспублікі Беларусь па друку**
**Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь**
**Саюз мастакоў Рэспублікі Беларусь**

**Калектыў Рэспубліканскага цэнтра эстэтычнага выхавання дзяцей выказвае глыбокі смутак з нагоды смерці Мікалая Іванавіча ГАНЧАРОВА і шчыра спачувае яго родным і блізкім.**

## УДАКЛАДНЕННЕ

У нумары «ЛіМа» за 29.11. 1991 г. недакладна пададзены адрас маскоўскай беларускай суполкі «Пагоня». Пісаць трэба на адрас: **101000, Масква, вул. Б. Хмяльніцкага, д. 17/6. Кантактныя тэлефоны ў Маскве: 160-18-26 і 939-59-88.**



ПОСТАЦІ

# БЕЛАРУС — АКАДЭМІК АСТРАНАЎТЫКІ

Так ужо складваўся наш няўдзячны лёс, што дасюль на Беларусі вельмі часта амаль зусім не ведалі, свядома замоўчвалі зробленае яе сынамі, пра якіх ведала і прамаўляла цывілізаванае чалавецтва. Менавіта да такіх людзей належыць і Барыс Кіт. Нарадзіўся ён 24 сакавіка 1910 года ў Пецярбурзе. Там спазнаў першапачаткі навукі, перажыў дзве рэвалюцыі. Але ці ж маглі забыцца бацькі на лясістаўзгоркавую, укрытую зімою белізной глыбокіх снягоў, агучаную вясною салаўінымі спевамі Навагрудчыну, на яе бруістыя, шчодра заселеныя стронгамі і іншай жыўнасцю рэкі?!

Напэўна, не былі яны перакаці-полем, *бязроднымі Іванамі, калі аддалі сына на* вучобу ў Навагрудскую беларускую гімназію, гэта значыць скіравалі яго на цярністы беларускі шлях, вернасць якому шаноўны Барыс Уладзіміравіч захоўвае праз усё сваё жыццё. Пасля гімназіі было навучанне на фізіка-матэматычным факультэце універсітэта імя Стэфана Баторыя ў Вільні, гэтым спрадвечным беларускім горадзе, своеасаблівай некаранаванай сталіцы заходнебеларускага краю. Тут бурліла нацыянальнае беларускае жыццё, рэвалюцыйны рух, асяродкам якога была і віленская беларуская гімназія, куды пасля вучобы ўладкоўваецца Барыс Кіт на працу выкладчыкам матэматыкі. Быць свядомым беларусам тады—значыла цярпець ганенні і ўціск. Доля гэтая не абышла і Кіта. Двойчы зазнаў арышту. Першы раз у Навагрудку, другі—у Вільні.

Уз'яднанне Заходняй Беларусі з Усходняй давала надзеі, што нарэшце беларусы пачуюцца гаспадарамі на ўласнай зямлі. Барыс Кіт становіцца дырэктарам Беларускай гімназіі ў Вільні, пасля актыўна прычыняецца да аднаўлення Беларускай гімназіі ў Навагрудку, у якасці акруговага інспектара арганізуе беларускія школы ў Баранавіцкім, Навагрудскім, Слонімскім, Валожынскім і Ваўкавыскім паветах.

Але потым выбухае вайна, якая перайначвае, а то і скасоўвае беларускую асветніцкую дзейнасць. Тады, як прыйшлі акупанты, перад многімі, у тым ліку і перад Барысам Кітам, напэўна паўстала пытанне: а што цяпер рабіць, ці працягваць змагацца за беларускую душу легальнымі сродкамі, ці пакінуць яе ў паняверцы, хай немцы робяць з дзецьмі тое, што яны палічаць патрэбным? Дый нават каб яны і нічога мэтаскіраванага не рабілі, дык сама атмасфера ваеннага часу адпаведным чынам уздзейнічала на кволую дзіцячую душу, вакуум, у якім яна апынулася, напэўна б запаўняўся тым, што ляжала на паверхні, адусюль уціскалася б у яе жорсткасцю, гвалтам, разбурэннем маральных нормаў, сцвярджэннем прынцыпаў моцнага, таго, хто валодае зброяй і сцвярджае ёю сваю правату. У такіх умовах пазбаўляць цэлае пакаленне маралі, інтэлектуальнага развіцця было б сапраўдным злачынствам. Таму асвета пры любых рэжымах, якія перабылі на Беларусі—Пілсудскага, Сталіна ці Гітлера, — рэч неабходная, бо толькі інтэлектуальна паўнацэнныя людзі могуць быць грунтам адраджэння нацыі і супрацьстаяння чужацкай навале.

Хочацца спадзявацца, што з часам у нас будзе створана сапраўды праўдзівая і аб'ектыўная гісторыя беларускай адукацыі на Беларусі, і мы асэнсуем увесь трагізм яе развіцця, самаахвярнасць і гераізм людзей, якія цалкам аддавалі сябе справе нацыянальнага Адраджэння і выхавання нашай Будучыні. Сярод іх, мяркую, імя Барыса Кіта зойме годнае месца.

Але паслухаем, як ён пра той час згадвае сам: *«Безупынныя канфлікты з немцамі, што кіраваліся нацысцкай філасофіяй—навука не для «унтэрмэншаў»,—не давалі магчымасці нармальнай працы гэтым установам...»* Выцінка ўзята з артыкула вядомага беларускага пісьменніка на эміграцыі Масея Сяднёва, надрукаванага ў нью-йоркскай газеце «Беларус» да 80-годдзя Барыса Кіта. Ад сябе Сяднёў каментуе падзеі больш разгорнута: «Немцы зачыняюць і настаўніцкія семінарыі, і Гандлёвы інстытут. Самога ж арганізатара гэтых установ Барыса Кіта арыштоўвае гестапа. Ад расстрэлу Кіта выратоўваюць былыя вучні гімназіі Адам Дасюкевіч і Кастусь Касяк, хоць самі яны пазней гінуць ад нямецкай кулі».

Але, як адышла вайна, у нас не разбіраліся, хто, што і ў імя чаго рабіў пад акупантам. Усякая дзейнасць падводзілася пад артыкул супрацоўніцтва з ворагам і адпаведна сурова каралася. Няма сумнення, што такой кары не здолеў бы пазбегнуць і Барыс Кіт. А таму яго рашэнне эміграваць на Захад было прадыктавана не асабістай прыхамаццю, а з'яўлялася, бадай, адзіным шанцам уратаваць сваё жыццё, пазбавіцца сталінскіх лагераў.

У выніку Беларусь часткова страціла яшчэ аднаго вартага чалавека, які мог бы шмат зрабіць дзеля яе дабра са сваімі ведамі, здольнасцямі і энергіяй. Ды часткова—не значыць зусім. Бо, па-першае, спадар Кіт заўжды захоўваў вернасць роднаму краю, яго традыцыям, мове, гісторыі, культуры, а па-другое, яго дзейнасць была скіравана на развіццё навукі, прагрэсу, агульначалавечых інтэлектуальных каштоўнасцяў, карысных і нам, беларусам, бо, урэшце, як сказаў Максім Багдановіч, усе мы ляцім да зор.

Менавіта да зор імкнулася няўрымслівая, пошукавая думка нашага земляка. Пэўны час ён працаваў выкладчыкам матэматыкі ў сярэдніх школах Заходняй Нямеччыны, потым хоць яшчэ да вайны набыў прафесарскі тытул, паступае вучыцца ў Мюнхенскі універсітэт. Але, як зазначае М. Сяднёў, гэта было для яго міжчассе, своеасаблівы трамплін, бо сапраўдная навуковая дзейнасць і ўзлёт прыпадаюць на Злучаныя Штаты Амерыкі. Праца ва ўстановах, як і ў Нямеччыне, спалучаецца з адданасцю беларускай справе, арганізацыйнай чыннасцю сярод эміграцыі ў Сант-Рыверы, дзе і да сёння існуе адна з найбольш моцных беларускіх суполак.

Потым навуковыя інтарэсы паклікалі Барыса Кіта ў Лос-Анджэлес, дзе ён працуе ў славутай амерыканскай фірме ракетных і касмічных даследаванняў, бярэ чынны ўдзел у стварэнні першых міжкантынентальных сістэм. Тады ж выпускае першы ў гісторыі падручнік па ракетнай тэхніцы і ракетным паліве. У сувязі з запускам у СССР спадарожніка і пачаткам актыўнага спаборніцтва ў касмічнай галіне Барыса Кіта выклікаюць у Вашынгтон у якасці эксперта ракет і дарадцы па пытаннях развіцця астранаўтыкі. Ён бярэ ўдзел у шматлікіх міжнародных форумах па касмічных праблемах, выдае чарговую кнігу «Гісторыя і сучасны стан савецкай астранаўтыкі» і ўдзельнічае ў якасці эксперта ў перамовах паміж ЗША і СССР па праблемах супрацоўніцтва ў касмічных даследаваннях.

У 1972 годзе Барыс Кіт пакідае Вашынгтон і пераязджае на жыхарства ў Заходнюю Еўропу, выкладае матэматычныя навукі ў буйнейшых навучальных цэнтрах. Маючы на гэты час салідны ўзрост, застаецца душэўна маладым і энергічным, пацвярджэннем чаго можа быць факт абароны ў 1983 годзе дысертацыі на годнасць доктара філасофіі.

Каб згадаць усе ганаровыя званні і ўзнагароды Барыса Уладзіміравіча, патрэбен вялікі паслужовы спіс. Але гэта, спадзяюся, будзе зафіксавана ў новым выданні нашай нацыянальнай энцыклапедыі. Хачу тут падзяліцца радасцю ад самай апошняй падзеі, пра якую я толькі што даведаўся з ліста да мяне спадара Кіта. «У мяне,—піша ён,—нядаўна прыемная рэч здарылася. Мяне выбралі акадэмікам Міжнароднай Акадэміі Астранаўтыкі ў Парыжы, Францыя. Я толькі што вярнуўся з Манрэалю, Канада, дзе на ўрачыстым пасяджэнні нашай акадэміі разам з каралеўскай акадэміяй Канады атрымаў дыплом акадэміка».

Думаю, такой навіне павінен парадавацца кожны беларус. Асабіста для мяне—радасць удвайне: мы з шаноўным Барысам Уладзіміравічам не проста перапісваемся, а і з'яўляемся землякамі. Кожны раз, едучы ў бацькоўскі кут, я праязджаю міма ягоных Агароднікаў, невялічкай вёсачкі, жыхары якой, мабыць, і не здагадваюцца, каго ўзгадавалі і скіравалі ў далёкі свет. Уздымаючыся думкай да зор, ён памятаў пра гэтую зямлю, чым мог дапамагаў яе духоўнаму ўзвышэнню, з'яўляўся фундатарам многіх эміграцыйных беларускіх выданняў, у тым ліку і кніг згаданага тут Масея Сяднёва. Дык грэшна роднай зямлі забывацца на сваіх адданых сыноў! Хочацца верыць, што грамадзяне незалежнай Беларусі знойдуць магчымасць па-належнаму асэнсаваць і паказаць зробленае такімі людзьмі.

З Барысам Кітам мяне злучыла «Бацькаўшчына», ідэя яднання беларусаў свету. Прыемна чуць, што там, удалечыні, наша дзейнасць выклікае зацікаўленасць і станоўча ацэньваецца: «У Вас робіцца шмат новых цудоўных рэчаў і мы ўсе тутака захоплены Вамі і гатовы памагчы, чым толькі можам. Можаце лічыць на нас».

Застаецца толькі падзякаваць за такія словы і ад імя «Бацькаўшчыны» ад шчырага сэрца павітаць шаноўнага Барыса Уладзіміравіча з наданнем яму звання, якое высока ўздымае аўтарытэт Беларуса і Беларусі ў свеце.

**Яўген ЛЕЦКА,**
**старшыня Рады Згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына».**

**Марцін КОЎЗКІ**

# ДОЛЯ ПРАЎДЫ

**Усміхаецца пан Бог: камунары штурмуюць неба, а кленчаць хлеба.**

●

**Навуковы камунізм таму лічыў сябе непераможным, што з першых крокаў быў вайсковым, узброеным. Пад цяжарам зброі ён, аднак, і спусціў дух.**

●

**«Хто быў нічым, той стане ўсім»... Трагедыя, бо сталі — і нічым засталіся. А кіравалі. Ды ці параўнаеш гэта з трагедыяй тых, кім кіравалі.**

●

**Як жыве нацыя пасля дэмалафеізацыі, пасля бездземянцеізацыі? Спадзяецца на прыватызацыю.**

●

**Спяваў Дзяржынскі. З камеры ахранкі гучала песня як перасцярога. Ад гнеўнай «Варшавянкі» да Лубянкі кароткай аказалася дарога.**

●

**Што няма ўжо перашкод нам нідзе на свеце, сведчаць рэкі нечыстот і адхоны смецця. А ў час тае пары, як яна нам шкодзіць, мы ёй кажам: не дуры, матухна-прырода.**

●

**Гуманны сацыялізм: дворнікі шчанят болей не топяць — прадаюць праз газету. Але і «Муму» няма.**

●

**Вучоныя, спартсмены, артысты, бізнесмены... Пара ўжо і вам чарадой за мяжу, прыгажуні. Бо чаго яны вартыя, гэтыя нашы конкурсы красунь, сакратарш, фотамадэляў, без заявак з бардэляў.**

●

**Дагэтуль будынкі пустыя стаяць. Камедыя гэта ці драма. «начальства» пайшло, толькі шыльды зіхцяць — райкамы, гаркамы, абкамы...**

●

**Калі карлік вышэйшы за іншых, ён ужо вялікі, а яго спадкаемцы — верныя прадаўжальнікі справы Карліка Вялікага.**

●

**Каб адолець дракона, мала адсекчы яму галаву, трэба яшчэ адцяць і хвост па шыю.**

●

**Кожны чацвёрты, кожны чацвёрты... Я пра жывых, не пра мёртвых. Жывых, але страчаных, абруселых, апалячаных, пасеяных на Поўначы і за Уралам, зеўраць, Беларусь, твае прагалы: кожны чацвёрты, кожны чацвёрты...**

●

**Лінгвістычная геаграфія (загадка для дзетак): што ў Шушанскім пасёлку задумвалася, а ў Шушанскім раёне скончылася?**

●

**Коні незацугляныя, цэны скачуць, як коні, грошы, хоць і драўляныя, растаюць на далоні.**

**З ПОШТЫ «ЛіМа»**

# «БУДЕМ И ДАЛЬШЕ РАБОТАТЬ...»

**Цяпер, калі беларуская мова стала дзяржаўнай, адносіны да яе з боку дзяржавы яшчэ горшыя. Раней дыктары радыё ці тэлебачання ніколі не гаварылі па-расейску, а цяпер аб'явы робяцца на рускай мове ледзь не на кожным кроку. Амаль фантастычнай з'яўляецца думка аб беларускамоўным мульціку У Дыснея, затое «Аліса» цяпер спраўна прысутнічае на «Калыханцы». Аб прэсе і гаварыць няма чаго: беларускамоўная прэса амаль адсутнічае. Затое колькасць рускамоўнай павялічваецца.**

**Вось што пісала 16.10.91 г. газета «Гродненская правда». Цытую:**

**«Давно уже приобрели своих читателей газеты «Пульс», «Перспектива», издаваемые в областном центре. И вот еще одна новинка — газета «Гродненские новости», первый номер которой вышел в свет вчера». Што ж, «интернационального полку прибыло», а вось нашага і не прыбывае.**

**Ды і каму ў нас глядзець за выкананнем моўнага закона, калі амаль усе цяперашнія кіраўнікі не гавораць на мове народа, які яны прадстаўляюць. Фактычна мову і культуру народа топчуць цынічна, нахабна, бессаромна: у лепшых кампартыйных традыцыях.**

**Чаму вучаць нашых дзяцей, таксама вядома, бо падручнікі яшчэ не змянілі, так званую «наглядную агитацию» не спяшаюцца здымаць. Вось і засталася ў СШ № 1 г. Гродна вялізная фотавітрына, якая апісвае ўсё жыццё «правадыра сусветнага пралетарыяту», «вождя революции», якая заканчваецца словамі: «Будем и дальше работать, строить величественный памятник Ленину — коммунизм».**

**В. ШАУРОЎ.**
г. Гродна.





Заснавальнікі:
САЮЗ ПІСЬМЕННІКАЎ БЕЛАРУСІ
І МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ
РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.
Друкарня «Беларускі Дом друку».

АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19.
Тэлефоны: прыёмная рэдакцыі — 33-24-61; намеснік галоўнага рэдактара — 33-25-25; адказны сакратар — 33-19-85; аддзел публіцыстыкі: Міхась ЗАМСКІ — 33-19-65; аддзел пісьмаў і грамадскай думкі: Людміла КРУШЫНСКАЯ, Марыя ГІЛЕВІЧ—33-19-85; аддзел літаратурнага жыцця: Алесь МАРЦІНОВІЧ—33-24-62; аддзел крытыкі і бібліяграфіі: Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ — 33-22-04; аддзел літаратуры: Юрась СВІРКА — 33-22-04; аддзел музыкі: Святлана БЕРАСЦЕНЬ — 33-21-53; аддзел тэатра, кіно і тэлебачання: Жана ЛАШКЕВІЧ — 33-21-53; аддзел выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў: Пётра ВАСІЛЕЎСКІ — 33-24-62; аддзел народнай творчасці і культасветработы — 33-24-62; аддзел навін: Віталь ТАРАС — 33-19-65, Юрась ЗАЛОСКА — 33-22-04; аддзел мастацкага афармлення: Уладзімір ТАБУШАЎ — 33-44-04; фотакарэспандэнт — 33-24-62; бухгалтэрыя — 26-86-40.





Індэкс 63856 М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
Тыраж 18197 экз.